# Лідскі Летапісец

*Народ, які не ведае свайго мінулага, не мае будучыні*





Краязнаўчы, гістарычна-літаратурны часопіс
Выходзіць з 1997 года

№ 3 (103) ЛІПЕНЬ - ВЕРАСЕНЬ 2023 г.


# Лідзе - 700 гадоў 1323 - 2023








*Андрэй Колышка, кіраўнік Народнага ансамбля народнай музыкі "Гудскі гармонік"*

# Лідскі Летапісец

*Народ, які не ведае свайго мінулага, не мае будучыні*





Краязнаўчы, гістарычна-літаратурны часопіс
Выходзіць з 1997 года

№ 3 (103) ЛІПЕНЬ - ВЕРАСЕНЬ 2023 г.


## У НУМАРЫ:



На першай старонцы вокладкі: *Напалеон Орда. Ліда над ракой Лідзейкай.*
*Травень 1876 г. Літаграфія А. Місяровіча.*



Мы просім ўсіх, хто мае цікавыя матэрыялы па гісторыі Ліды і краю, дасылаць іх на адрас: 231282, Ліда-2, п/с 7, або E-mail: kajety@list.ru

Аўтары цалкам адказныя за гістарычную дакладнасць сваіх матэрыялаў


Выдаецца ў адпаведнасці з п. 7.4 артыкула 13 ЗАКОНА РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ "Аб сродках масавай інфармацыі" ад 17 ліпеня 2008 г. № 427-3

Выдавец:
**Прыватнае ўнітарнае прадпрыемства "Пружмень"**

Рэдактар:
**Станіслаў Вацлававіч Суднік**

**АДРАС РЭДАКЦЫІ:**
231293, г. Ліда, вул. Лётная, 7 а.
**АДРАС САЙТА:**
http// nslowa.by

Наклад 150 асобнікаў
11,5 друк. аркушаў

Часопіс падпісаны да друку 30.09.2023 г.

Часопіс надрукаваны 24.01.2024 г. у ПВП "ЛітАРы": 230025, г. Гродна, вул. К. Маркса, 11, пам. 1/2.

Замова № 17/01.

ISSN 2218 – 1792








# Археалагічныя раскопкі ў Лідзе, што хавае зямля?

Археалагічныя раскопкі 2023 года ў Лідзе вяліся па ініцыятыве кіраўніцтва горада і дырэктара Лідскага гістарычна-мастацкага музея Вольгі Лук'ян. А падрыхтоўка да іх пачалася яшчэ ў 2020 годзе.

Для дасягнення папярэдніх дамоўленасцяў у Ліду ў ліпені 2022 года прыехаў намеснік дырэктара па навуковай працы Інстытута гісторыі НАН Беларусі Станіслаў Юрэцкі. На яго сустрэчы са старшынём Лідскага райвыканкама Сяргеем Ложачнікам гаворка ішла пра вызначэнне зон, дзе маглі добра захавацца культурныя пласты.



***Станіслаў Юрэцкі, Вольга Лук'ян, Наталля Леўшунова і Сяргей Ложачнік падчас сустрэчы ў Лідскім райвыканкаме ў 2022 годзе***

Станіслаў Юрэцкі падзякаваў раённаму кіраўніцтву за ініцыятыву і адзначыў каласальную цікавасць, якую ўяўляюць для археолагаў такія гарады, як Ліда.

Калі раскопкі на тэрыторыі Лідскага замка праводзіліся, і не раз, то сам горад археолагі даўно не вывучалі.

Раскопкі пачаліся 10 ліпеня 2023 года і працягваліся два тыдні..

- Раскопкі праводзяцца на плошчы больш за 50 квадратных метраў. Іх мэта - прасачыць гарадскую забудову і выявіць артэфакты розных гістарычных перыядаў, у тым ліку і перыяду Вялікай Айчыннай вайны, - распавёў пад час працы дырэктар Цэнтральнай навуковай бібліятэкі НАН Беларусі Станіслаў Юрэцкі.



***Станіслаў Юрэцкі на раскопках у Лідзе***

Групе энтузіястаў з ліку археолагаў і навуковых супрацоўнікаў Лідскага гістарычна-мастацкага музея ўжо ўдалося зафіксаваць досыць вялікі фрагмент будынка (хутчэй за ўсё, жылога дома). Гэта артэфакты XIX - пачатку XX стагоддзя.






Па словах дырэктара Лідскага гістарычна-мастацкага музея Вольгі Лук'ян:



***Вольга Лук'ян***

- У полі зроку было парадку пяці месцаў. Закладваліся папярэднія шурфы, але ў канчатковым выніку, пасля правядзення перамоў з мясцовымі краязнаўцамі, вывучэння архіўных дакументаў у нашым музеі, Акадэміі навук Рэспублікі Беларусь, археалагічная інтуіцыя Станіслава Юрэцкага не падвяла. Усе прыйшлі да высновы, што праводзіць іх трэба менавіта ў гэтым месцы.

Пласты грунту здымалі акуратна, каб не нашкодзіць. Выйшлі на вялікі фрагмент будынка, які захаваўся на галоўным гарадскім пляцы, дзе раней быў рынак.

Знаходкі ўнікальныя: ад цаглянага фрагмента печы і сходаў у склеп да керамікі, ключоў і манет. Выяўлены і тая самая цэгла-пальчатка, з якога будавалі Лідскі замак.

- Падчас даследаванняў было выяўлена больш за 1 000 фрагментаў. Галоўным чынам гэта фрагменты посуду, кухонная кераміка. Іх было вельмі шмат. Яны знаходзяцца цяпер у стадыі вывучэння. Гэтыя прадметы распавядаюць пра побыт гараджан, гэта значыць гэта прадметы, якія датуюцца канцом XIX - пачаткам XX стагоддзя. І менавіта яны належалі жыхарам нашага горада, - адзначыла Наталля Хацяновіч, намеснік дырэктара Лідскага гістарычна-мастацкага музея.

Галоўны захавальнік фондаў Надзея Кавальчук распавядае пра паслядоўнасць знаходак артэфактаў:



- Вось гэты ключ стаў самай першай знаходкай, - распавядае супрацоўніца. - Тады мы яшчэ не ведалі, што праз кароткі прамежак часу наткнёмся на фрагмент падмурка дома. Ён як быццам сімвалічна адкрыў нам дзверы ў мінулае гэтага будынка. Пазней у рукі археолагаў патрапілі манеты, цагліны, з якіх была пабудавана печ, фрагменты посуду.






Усяго за час правядзення раскопак цяперашнім летам выяўлена больш за тысячу прадметаў. У большасці сваім гэта ўзоры фрагментаў сталовай і будаўнічай керамікі. Усе яны размешчаны па сектарах у адпаведнасці з месцамі, дзе выяўлены.







***Надзея Кавальчук***

- Можна звярнуць увагу, што на розных участках раскопа былі знойдзены розныя прадметы, - кажа супрацоўніца музея. - Напрыклад, каля печкі выяўлена больш за ўсё металічных прадметаў і костак, каля меркаванага ўваходу ў дом шмат аскепкаў чыгуноў, посуду любых памераў, формаў і колераў. Вельмі цікавыя шкляныя прадметы, некаторыя захаваліся да нашага часу цалкам. Вялікая частка, вядома ж - толькі фрагментамі. Некаторыя задымлены і расплаўлены, напэўна, перажылі пажар. Магчыма, нашы супрацоўнікі ў будучыні змогуць сабраць з аскепкаў цэлы асобнік.

У выніку на былым рынкавым пляцы ўдалося падняць нявывучаны пласт гісторыі. Усё гэта зацікавіла і навукоўцаў з Нацыянальнай Акадэміі Навук. Там цяпер спрабуюць высвятліць, хто менавіта пражываў у старой пабудове і да якой часткі горада яна належала.

Атрымліваецца плюс яшчэ адна турыстычная пляцоўка на карце горада, якая, па задумцы мясцовай улады можа быць у будучыні накрыта шкляным купалам.

Для музея гэтая падзея - унікальная магчымасць развіваць новы кірунак навукова-даследчай дзейнасці, які распавядае пра гарадскі ўклад. Нажаль, у фондах музея практычна няма археалагічных знаходак за гэты гістарычны перыяд (за выключэннем тых, што прынеслі самі лідзяне). Па выніках раскопак будзе створана асобная выставачная прастора, дзе і будуць прадстаўлены ўнікальныя артэфакты.

***Яраслаў Грынкевіч, паводле СМІ.***

# Археалагічная экспазіцыя ў вежы Гедыміна

18 жніўня на верхнім ярусе вежы Гедыміна Лідскага замка адкрылася археалагічная экспазіцыя. Тут прадстаўлены артэфакты, знойдзеныя пры раскопках замка. Вяла імпрэзу навуковы супрацоўнік лідскага музея Святлана Драздова.





У адкрыцці выставы самы чынны ўдзел узяў кандыдат гістарычных навук Алег Трусаў, які на працягу некалькіх гадоў вёў раскопкі Лідскага замка. Сп. Трусаву давялося адказаць на шмат пытанняў і вядоўцы, і прысутных на імпрэзе, у тым ліку пра стан, гісторыю і перспектывы беларускай археалогіі. Перад 2-й Сусветнай









вайной беларуская археалогія была на высокім узроўні, а пасля вайны ў нас застаўся адзін археолаг. Археалагічную працу вялі тут толькі расейцы, і толькі ў 70-я гады да раскопак прыступілі археолагі беларускага этнічнага паходжання. Адзін з іх быў Міхась Ткачоў, маці якога вучыла Алега Трусава ў мсціслаўскай школе.

Выступалі кіраўнік замкавай адміністрацыі Ганна Некрашэвіч і намеснік дырэктра лідскага музея па навуцы Наталля Хацяновіч. Аздабляла імпрэзу віртуознай ігрой на скрыпцы Наталля Батаргіна, кіраўнік гурта “Скудрынка”. Прысутнічалі аматары гісторыі, мясцовыя краязнаўцы, у т.л. Леанід Лаўрэш, Станіслаў Суднік і інш. Выстава будзе працаваць некалькі месяцаў.

***Яраслаў Грынкевіч.***

# *"Цёплыя вечары… ды халодныя ранкі"*

*Ад прадзедаў спакон вякоў*
*Мне засталася спадчына;*
*Паміж сваіх і чужакоў*
*Яна мне ласкай матчынай.*

*Аб ёй мне баюць казкі-сны*
*Вясеннія праталіны,*
*І лесу шэлест верасны,*
*І ў полі дуб апалены.*




Павярнуцца да гэтай спадчыны, згадаць яе, данесці да людзей - такую задачу мае Фестываль песеннага фальклору памяці Земавіта Фядэцкага "Цёплыя вечары ды халодныя ранкі", які ў 4-ты раз праходзіў у аграмястэчку Мажэйкава Лідскага раёна.






Сёлета асаблівы фестываль, бо споўнілася як раз 100 год з дня нараджэння Земавіта Фядэцкага. Наш славуты зямляк нарадзіўся 22 жніўня 1923 года ў маёнтку Лебяда, непадалёк ад Мажэйкава. Тут правёў дзяцінства і перажыў вайну.У 1942-1943 гадах Земавіт Фядэцкі жыў у вёсцы Феліксава. І цяжкія часіны вайны не перашкодзілі яму, акрамя іншых спраў, яшчэ і запісваць у сшытак феліксаўскія песні.

Земавіт Фядэцкі хаваў рукапіс гэтых песень амаль 50 гадоў, як быццам не было нічога больш каштоўнага, што варта было б схаваць ці вазіць з сабой: і праз вайну, і праз пасляваенную разруху. За ўсім гэтым бачна вялікая любоў Земавіта Фядэцкага да малой радзімы.

І радзіма адказала яму такой жа любоўю. У 2017 годзе быў заснаваны фестываль яго памяці. Пра гэта гаварыла і кіраўнік спраў Мажэйкаўскага сельсавета Людміла Феліксаўна Роўба адкрываючы фестываль.




*Аб прыгожай Бандароўне*
*І аб справах пана*
*Засталася ў народзе*
*Песня здавен-даўна.*

Словамі нашага песняра, народнага паэта Беларусі Янкі Купалы і распачаўся-такі сам Рэгіянальны фестываль песеннага фальклору памяці Земавіта Фядэцкага.

На сцэну выйшла Алеся Ярунічава. Яна пад фанаграму "Славянская дуда"выканала ўрывак з бела-



рускай думкі (балады) пра Бандароўну са зборніка "Беларускія думкі, звычаі, абрады з Лідскага павета", асноўны збіральнік Уладзіслаў Вярыга. Вярыга запісаў на Лідчыне "Бандароўну" ў 1885 годзе, а Янка Купала напісаў сваю "Бандароўну" толькі ў 1913 годзе.

У нядзелю ранусенка
Дожджык пакрапляя,
Маладая бандаруўна
Валы паганяя.
Гдзе ўзяўся пан канюшы
З сваімі слугамі.
"Павярніся, бандаруўна,
З валамі да хаты".
Наняў, наняў пан канюшы
Музыканты граці;
То для млодай бандаруўны
Пайсьці пагуляці.
Маладая бандаруўна
Мела сказаці:
"Я ня маю такой сукні
З канюшым гуляці".
Купіў, купіў пан канюшы
Дарагую сукню,
Прыслаў, прыслаў пан канюшы
Цераз верную служку.
Маладая бандаруўна
Мела адказаці:
"Я ня маю такой стужкі
Ў гэту сукню класьці".
Купіў, купіў пан канюшы
Дарагую стужку,
Прыслаў, прыслаў пан канюшы
Цераз верную служку.
Ўцекала бандаруўна
Ў зялёны лесы,
Даганялі бандаруўну
Ашмянскія шляхты;
Ўцекала бандаруўна
Ў зялёныя лугі,
Папалася бандаруўна
Канюшаму ў рукі.
Як даў пан канюшы
Бандаруўня ў плечы,
Паліліся з бандаруўны
Чырвоныя рэчы.
Казаў пан канюшы
Тры дні ня хаваці;
Спасылаў пан канюшы
Па айца і маці.
Як прышла бандарова
Спляснула рукамі:
"Адгуляла маё дзіця
З тымі дваракамі".
А як прышоў сам бандар,
Тропнуў ён нагою:
"Залажыла маё дзеця
За ўсіх галавою".

Лідзяне не чулі сваёй "Бандароўны" 130 гадоў, і нарэшце яна прагучала.

Пра зборнік "Беларускія думкі, звычаі, абрады з Лідскага павета" распавёў рэдактар зборніка Станіслаў Суднік, ён жа рэдактар папулярнага на Лідчыне часопіса "Лідскі летапісец". С. Суднік нагадаў, што гэта ўжо трэці лідскі фальклорны зборнік.




Акрамя зборніка Земавіта Фядэцкага, які тут перавыдалі ў 2017 годзе, у 2021 годзе выдалі зборнік "Закуй, закуй, зязюленька, рана", складзены з песень запісаных Аленай Іваноўскай у 1905-1912 гг. і апублікаваных у англійскім часопісе "Фальклор", дзе іх знайшоў Леанід Лаўрэш. І да трэцяга зборніка Леанід Лаўрэш таксама прыклаў руку. Тры фальклорныя зборнікі з аднаго павета - гэта добра.

**І нарэшце конкурсная частка.**

Сёлета ў фестывалі бралі ўдзел 17 канкурсантаў (пазалетась было 12).

У намінацыі "**Лепшы дарослы фальклорны ансамбль"** спаборнічалі:

- Народны фальклорны калектыў "Ульяніца" (Філіяла 'Ганчарскі Дом культуры") з сямейна-побытавай песняй "Ой, аралі хлопцы ніву";




- Фальклорны гурт "Явар" (Філіял "Мажэйкаўскі Дом культуры") з песнямі "Ой, сівы конь бяжыць", "Калі каліна не цвіце";

- Народны фальклорны гурт "Талер" (Аддзел рамёстваў і традыцыйнай культуры) з песняй са зборніка Фядэцкага "Ой, ляцелі гусанькі...";



- Вакальны гурт "Надзея" (Філіял "Беліцкі Дом культуры") з песняй "Кіну кужаль на паліцу";



- Клуб народнай культуры "Сяброўкі" (ДУ "Лідскі раённы тэрытарыяльны цэнтр сацыяльнага абслугоўвання насельніцтва") з песнямі "Ой, у лузе" і "Зялёны лісце, белы каштаны";

- Сямейны ансамбль Ціховічаў (Філіял "Ваверскі Дом культуры") з песняй "Быў у мяне белы конь".



У намінацыі **"Лепшы індывідуальны выканаўца"** (сольныя спевы, дуэты, да 18 гадоў):

- Ева Ціховіч (Філіял "Ваверскі Дом культуры") з песняй "Пасаджу каліну ў полі";

- Дар'яВаўчок, Эвеліна Бальцэвіч, Алёна Рамук





(Філіял "Гудскі цэнтр творчасці і дасугу") з песняй "Сівы голуб".

У намінацыі **"Лепшы індывідуальны выканаўца"** (сольныя спевы, дуэты, пасля 18 гадоў):

- Галіна Сафонава (Філіял "Беліцкі Дом культуры") з песняй "Жыта жала";

- Надзея Ваўковіч (Філіял "Першамайскі Дом культуры") з песняй "Селезень";

- Наталля Шчаўканогава (Аддзел рамёстваў і традыцыйнай культуры) з песняй "А ўчора з вячора";

- Вера Дзянінічык, Лізавета Бразоўская (Філіял "Ходараўскі сельскі клуб-бібліятэка") з песняй "Ехалі цыганы";

- Мікалай Сакалоўскі, Зміцер Сакалоў (Філіял "Першамайскі Дом культуры") з песняй "Дунаю, Дунаю!";

- Інэса Парфенчык (Філіял "Бердаўскі культурна-дасугавы цэнтр") з песнямі "Із-пад каменя" і "Мая маменька".



По выніках конкурсу журы ў складзе:

- Лісоўская Таццяна Віктараўна, намеснік дырэктара ДУ "Лідскі раённы цэнтр культуры і народнай творчасці" - старшыня журы;

- Канцавенка Наталля Уладзіміраўна, загадчык аддзела метадычнай і культурна-масавай работы ДУ "Лідскі раённы цэнтр культуры і народнай творчасці" - сустаршыня журы;

- Роўба Людміла Феліксаўна, кіраўнік спраў Мажэйкаўскага сельскага савета;

- Суднік Станіслаў Вацлававіч, рэдактар часопіса "Лідскі летапісец"

вызначыла найбольш таленавітых у намінацыях:

- Народны фальклорны гурт "Талер" (Аддзел рамёстваў і традыцыйнай культуры) у намінацыі "**Лепшы дарослы фальклорны ансамбль**";

- Дар'я Ваўчок, Эвеліна Бальцэвіч, Алёна Рамук (Філіял "Гудскі цэнтр творчасці і дасугу") у намінацыі **"Лепшы індывідуальны выканаўца"** (сольныя спевы, дуэты, да 18 гадоў);

- Мікалай Сакалоўскі, Зміцер Сакалоў (Філіял "Першамайскі Дом культуры") у намінацыі **"Лепшы індывідуальны выканаўца"** (сольныя спевы, дуэты, пасля 18 гадоў).



За папулярызацыю ў інтэрнэт-прасторы традыцыйнай народнай творчасці дыплом атрымала Паліна Селезень.



За папулярызацыю народнай творчасці ў маладзевым асяроддзі дыпломы атрымалі сямейны ансамбль Ціховічаў і Ева Ціховіч.

За захаванне, развіццё і прапаганду традыцыйнай народнай творчасці дыпломы атрымалі Клуб "Сяброўкі" і Інэса Парфенчык.



Астатнія канкурсанты атрымалі дыпломы ўдзельнікаў.

Пакуль журы працавала з канцэртнымі праграмамі, выступілі слынная мажэйкаўская "Каханачка" і дзіцячая група "Крынічка".





А бліскуча вялі імпрэзу Кацярына Вельб і Мікалай Сакалоўскі



***Яраслаў Грынкевіч.***

# Трэці лідскі фальклорны зборнік




У Лідзе выйшла кніга **“Беларускія думкі, звычаі, абрады з Лідскага павета XIX стагоддзя”**. Этнаграфічны зборнік, 2023 г. На беларускай мове. Ліда, 72 с. Наклад 120 асобнікаў.

У выходных дадзеных пазначана, што гэта выданне часопіса “Лідскі летапісец” і ДУ “Лідскі раённы цэнтр культуры і народнай творчасці”.

Укладальнікі: Леанід Лаўрэш, Станіслаў Суднік.

Рэдактар: Станіслаў Суднік.

Аснову зборніка складаюць 42 **“Беларускія думкі з вёскі Глыбокага ў Лідскім павеце Віленскай губерні, у 1885 годзе запісаныя Уладзіславам Вярыгам”,** апублікаваныя ў 1889 годзе ў часопісе ***“Збор звестак па краёвай антрапалогіі, выдадзены стараннем Антрапалагічнай камісіі Акадэміі навук у Кракаве”.*** Том XIII (з 6 табліцамі). У Кракаве, друкарня Ягелонскага ўніверсітэта пад кіраўніцтвам А.М. Кастаркевіча, 1889. ("Zbior wiadomosci do antopologii krajowej" 1889. T. 13.).

Да думак, запісаных Уладзіславам Вярыгасм дададзены яшчэ дзве невялікія публікацыі.

Гэта **“Астрынскі прыход”** (Віленскай губерні Лідскага павета) прафесара Літоўскай семінарыі І. Юркевіча. Нарыс быў апублікаваны ў Этнаграфічным зборніку, які выдаваўся Імператарскім рускім геаграфічным таварыствам. Выпуск 1. Санктпецярбург, 1853. С. 283-293. *(Юркевич И. Остринский приход // Этнографический сборник, выдаваемый Императорским русским географическим обществом. Выпуск 1. Сантпетербург, 1853. С. 283-293.)* Калі меркаваць па даце публікацыі, то гэта самы ранні этнаграфічны матэрыял з Лідчыны ў шырокім доступе.

Другая публікацыя **“Дажынкі ў Шаўрах Лідскага павета”** належыць Біруце (Амеліі Даравінскай). Абрад Дажынак яна запісала ў 1887 годзе ў маёнтку Баляслава Нарбута, сына Тодара Нарбута. Баляслаў Нарбут у паўстанні 1863 года быў ад’ютантам Людвіка Нарбута, быў сасланы ў Сібір. Маёнтак Шаўры быў секвестраваны, але, як бачым, нейкім чынам вярнуўся да Нарбутаў. Бірута апублікавала нарыс у 1889 годзе ў польскім часопісе “Вісла”. *(Biruta (Amelia Derewinska). Dozynki na Litwie, Szawry, pow. Lidzki // Wisla. 1889. T. III. z. 1. S. 92-94).*

У 2017 годзе было зроблена перавыданне кірылічнай часткі зборніка Земавіта Фядэцкага **“Цёплыя вечары, ды халодныя ранкі...”** паводле выдання 1992 года. Песні гэтага зборніка былі запісаны ў в. Феліксава Лідскага раёна ў 1943 годзе.

У 2021 годзе выйшаў зборнік **“Закуй, закуй, зязюленька, рана... Анталогія беларускіх народных песняў. Сабрана Аленай Іваноўскай на Лідчыне ў 1905-1912 гадах”.**

**“БЕЛАРУСКІЯ ДУМКІ з вёскі Глыбокага ў Лідскім павеце Віленскай губерні, у 1885 годзе запісаныя Уладзіславам Вярыгам”**, і апублікаваныя ў 1889 годзе - гэта не спіс вынікаў працы мазгоў чалавечых, не мыслі, не разважанні, гэта невялікія балады. Слова “думка” тут - памяншальная форма ад слова “дума”.

Дума, як жанр вуснай народнай творчасці, была характэрная найперш для Украіны. Тут гэта - лірыка-эпічны твор украінскай вуснай славеснасці пра жыццё казакоў XVI-XVIII стагоддзяў, які выконвалі вандроўныя спевакі-музыкі: кабзары, бандурысты, лернікі ў Цэнтральнай і Левабярэжнай Украіне. Аналаг гістарычных песень у рускім фальклоры. У навуковую тэрміналогію назву "думы" ўвёў М. Максімовіч, які разумеў іх як свайго роду казацкі эпас. Найболей ярка ў думах адлюстраваны перыяды барацьбы казакоў з туркамі, татарамі, палякамі і іншымі вонкавымі ворагамі.

Як жанр літаратуры дума ўяўляе сабою лірыка-эпічны твор, падобны да балады, у якім выяўлены разважанні аўтара на сацыяльныя, філасофскія і сямейна-побытавыя тэмы. Кампазіцыйна дума падзяляецца на дзве часткі - жыццяпіс і маральны ўрок, які вынікае з яго. Прысутныя ў творы лірычны (аітацыйны) і эпічны (агіяграфічны) пачаткі цесна ўзаемазлучаны, пры гэтым першы з іх з'яўляецца галоўным, а другі іграе падпарадкаваную ролю.

У рускай літаратуры жанр думы не атрымаў шырокага распаўсюду. Найболей часта ён сустракаецца ў творчасці Кандрата Рылеева. У яго кнігу "Думы" ўвайшлі такія творы, як "Барыс Гадуноў", "Іван Сусанін", "Марфа Пасадніца", "Міхаіл Цвярскі", "Смерць Ярмака" і інш. Сваю першую думу "Курбскі" паэт-дзекабрыст апублікаваў з падзагалоўкам "элегія", і толькі, пачынальна з "Артэмона Мацвеева" ва ўжытак увайшло новае жанравае азначэнне - дума. Элегічныя матывы ў паэзіі Рылеева адзначалі шматлікія сучаснікі. Крытык П. А. Плятнёў ахарактарызаваў новы жанр як "лірычны аповяд якой-небудзь падзеі", а па меркаванні Бялінскага "дума ёсць трызна гістарычнай падзеі ці проста песня гістарычнага характару". Сам жа Рылееў асабліва падкрэсліваў, што абраны ім жанр мае славянскае паходжанне. У прадмове да свайго зборніка ён пісаў: "Дума - старадаўняя спадчына ад паўднёвых братоў нашых, наша рускае, роднае вынаходства. Палякі запазычылі яе ад нас. Яшчэ дагэтуль украінцы спяваюць думы пра герояў сваіх: Дарашэнку, Нячая, Сагайдачнага, Палея, і самому Мазепе прыпісваецца складанне адной з іх".

Спрабуючы стварыць шырокую панараму падзей, Кандрат Фёдаравіч у сваіх творах стварае манументальныя вобразы гістарычных герояў і звяртаецца да мовы грамадзянскай паэзіі XVIII - пачатку XIX ст.ст. Сваёй задачай паэт лічыць абуджэнне патрыятызму і свабодалюбнасці. Пры гэтым пэўны малюнак падзей і людзі, якія ўдзельнічаюць у іх, адыходзіць на другі план.

У беларускім фальклоры і літаратуры думы не знайшлі амаль ніякага адлюстравання, як быццам такога жанру і не было ў нас ніколі. І вось цэлы зборнік (42 тэксты) думак, запісаных Уладзіславам Вярыгам.

Уладзіслаў Вярыга не назваў запісаныя ім тэксты думамі, а толькі думкамі - маленькімі думамі. Выклікана гэта хутчэй за ўсё тым, што памеры тэкстаў невялікія, сюжэты простыя, амаль заўсёды аднаактавыя. Як правіла, у думцы дзве часткі: зачын і завяршэнне. І калі ўкраінскія народныя і рускія літаратурныя думы можна атаясаміць з гістарычнымі баладамі і паэмамі, якія ў сваёй сукупнасці ствараюць эпічныя палотны жыцця народаў і краін, то беларускія думкі - гэта нешта іншае. Іх нельга размясціць у гістарычнай паслядоўнасці, іх наогул цяжка прывязваць да часу. Недзе XVIII - XIX стагоддзі.

Думка амаль заўсёды апісвае нейкую падзею або з'яву, што выбіваецца з роўнай і манатоннай плыні жыцця. Падзеі гэтыя амаль заўсёды трагічныя, нават калі завяршэнне выглядае пазітыўным. Шмат бедаў было ў жыцці беларусаў: войны, пажары, эпідэміі, засухі, але што пра іх казаць, а тым больш спяваць. Яны непазбежныя, як бы абавязковыя. Але былі беды не абавязковыя, выкліканыя дурасцю, сквапнасцю, хціўсцю, зайздрасцю, злосцю, слабасцямі чалавечымі (п'янствам, разбоем). Вось гэтыя беды, падзеі, з імі звязаныя, выбіваліся са штодзённасці. Найбольш частыя: злая свякроўка, здрадлівая жонка, няшчасная праз каханне дзяўчына, падманутая дзяўчына, забраны ў рэкруты хлопец, забіты жаўнер, смерць з рознай нагоды. Такім чынам беларускія думкі - гэта таксама эпас, эпас бяды і гора, якія сустракалі беларуса на кожным кроку. І прычыны гэтых бедаў і гора не ў хцівасці ці сваволі паноў, не ў Божай кары для народа, не ў панаванні чужога караля ці цара, а ва ўнутраным бязладдзі і грахоўнасці чалавека. Калі б людзі былі без граху, то ні адной думкі з гэтага зборніка не існавала б. Нават думка № 28, якая ёсць варыянтам шырока вядомай гісторыі пра бандароўну і пана канюшага, падае прычыну трагічнай развязкі не ў адной толькі сваволі пана канюшага, а і ў тым, што бандароўна спачатку брала падарункі ад пана канюшага, а потым вырашыла ўцячы. Ну, і паплацілася жыццём. Янка Купала напіша сваю "Бандароўну" ў 1913 годзе і аднясе падзеі на Украіну. Тэкст жа пра бандароўну, аказваецца, бытаваў спакойна ў беларускім фальклоры яшчэ ў 19-м стагоддзі, а можа, і раней, і без усякага намёку на Украіну, наадварот, тут згадваецца ашмянская шляхта. І, па ўсім відаць, Янка Купала ведаў гэты ці падобны тэкст.

Уладзіслаў Вярыга запісваў думкі з голасу, на слых. Запісваў так, як чуў. Мы не ведаем, якой графікай гэта рабілася: кірыліцай ці лацінкай. Заканчваў Вярыга Пецярбургскую гімназію, рускую мову ведаў даскана. Але сын ссыльных паўстанцаў 1863 года, безумоўна, ведаў і польскую мову. Надрукаваны думкі былі польскай лацінкай у польскім часопісе "Збор звестак па краёвай антрапалогіі, выдадзены стараннем Антрапалагічнай камісіі Акадэміі навук у Кракаве. Том XIII" у 1889 годзе. Надрукаваны без усякага намёку на нейкую беларускую граматыку. І мы бачым тэксты на амаль сучаснай літаратурнай беларускай мове, але з абсалютна бессістэмным прымяненнем *а-кання*, *я-кання*, *ь*, *ў* і *й*. Запісаны архаічным беларускім правапісам. Пры гэтым празмернае *а-канне* і *я-канне* часта вядзе да такога скажэння слова, што не адразу можна здагадацца пра сапраўднае сучаснае гучанне і сэнс. Тым не менш, для гэтай публікацыі зроблена дакладная транслітарацыя, нягледзечы на адхіленні ад сучасных літаратурных нормаў. Была праведзена толькі невялікая карэкцыя знакаў прыпынку. На ўсе 42 тэксты сустракаецца некалькі русізмаў і некалькі паланізмаў. Пры гэтым паланізм *dzis* дажыў да нашага часу і часта чуцён на Лідчыне і сёння. У астатнім тут простая, без выкрунтасаў беларуская мова.

27 жніўня ў Мажэйкаве прайшоў 4-ты рэгіянальны фестываль песеннага фальклору памяці Земавіта Фядэцкага. На фестывалі быў прэзентаваны новы зборнік і прагучала аўтэнтычная лідская "Бандароўна". Справа была не зусім простая, бо ў зборніку Вярыгі не пададзены ноты, але ж і талентамі Бог Лідчыну не абдзяліў. Падабралі фанаграму славянскай дуды, і песня прагучала ў выкананні Алесі Ярунічавай.

***Станіслаў Суднік.***

# ЛІДЗЕ - 700

З 1 па 8 верасня слаўны горад Ліда адзначаў 700-годдзе. Можна гаварыць, што паселішча тут існавала з 11-га стагоддзя, што пацверджана археалагічнымі раскопкамі, але калі мы гаворым менавіта пра **горад Ліду**, то адлік ад 1323 года, калі Вялікі князь Гедымін загадаў будаваць Лідскі замак, з'яўляецца правамерным. Менавіта ад гэтага года Ліда пайшла цвёрдым поступам па дарогах гісторыі.




1 верасня распачаў святкаванне 700-годдзя Ліды Харчфэст. Па задумцы тут мусіла адбывацца масавая дэгустацыя лідскай прадукцыі і прадстаўленне прамысловасці горада. Па ўсім абшары каля Палаца культуры былі размешчаны павільёны лідскіх прадпрыемстваў, а на галоўнай сцэне выступленні артыстаў чаргаваліся з рэкламнымі ролікамі.




**1 верасня Ліда вітала гасцей прыгожа і далікатна.**

Самыя розныя інсталяцыі, мелодыі, забавы, дэгустацыі па ўсім абшары.

Вельмі папулярнай была пляцоўка Лідскай раённай бібліятэкі імя Янкі Купалы. Сфатаграфавацца з Гедымінам жадалі вельмі многія. Выяву Гедыміна мастак стварыў непасрэдна да свята.










Была чарга і каля павільёна прадпрыемства “Конус”, дзе кожны мог адбіць сабе памятны медаль.



**Ёсць “Лідскі хлеб”, ёсць “Лідская мука”**

Канцэртную праграму на галоўнай сцэне распачалі Вячаслаў Статкевіч (кіраўнік ансамбля "Свята", сам родам з Лідчыны) і Дар'я Жук (Палац культуры Ліды). Менавіта ў выкананні Вячаслава Статкевіча прагучала песня, дзе рэфрэнам ішоў радок: *“Ёсць “Лідскі хлеб”, ёсць “Лідская мука”.*



Вялі праграму Вольга Рыжыкава і Тэа.

Сваё майстэрства і мастацтва да 700-годдзя горада дэманстравалі: Гражына Кучынская, Яна Гурская, Тарэза Міндзюліс, Вераніка Мікаловіч, гурты "Талісман", "Акцэнт", ансамбль "Лідчанка" і так да самай дыскатэкі і да позняга вечара.









**Афіцыйнае адкрыццё святкавання 700-годдзя Ліды адбылося 2 верасня**

*"Тое, як сёння развіваецца Лідскі раён і Ліда, - гэта прыклад паспяховасці таго праекта, пра які гаворыць Прэзідэнт, калі мае на ўвазе развіццё раёнаў "80 плюс". Трэба сказаць, што тут развіваецца прамысловасць добрымі тэмпамі, сельская гаспадарка на вельмі высокім узроўні. Наогул Ліда вельмі прыкметная не толькі ў Гродзенскім рэгіёне, але і на тэрыторыі ўсёй нашай рэспублікі",* - сказаў высокі госць свята, Першы намеснік кіраўніка Адміністрацыі Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь Максім Рыжанкоў.



Ён дадаў: *"Сваімі поспехамі вядомыя мясцовыя прамысловыя брэнды праслаўляюць Ліду па ўсім свеце, і яны даюць не толькі добры экспартны патэнцыял для нашай дзяржавы, але і ствараюць яе імідж. Акрамя таго, сацыяльная інфраструктура горада таксама можа быць прыкладам любому раённаму цэнтру".*

*"І фестываль, які гэтымі днямі прымае Ліда - гэта проста фантастыка. Дзясяткі тысяч людзей сабраліся ў такім добраўпарадкаваным кутку, які можа змясціць усіх жадаючых і даставіць задавальненне не толькі жыхарам горада, але і шматлікім гасцям. Гэта ўсё сведчыць пра клопат улад горада аб насельніцтве. Важна стварыць камфортныя ўмовы, працоўныя месцы для жыхароў, а яшчэ і адпачынак, каб сем'і маглі адпачыць і прыемна правесці час"*, - рэзюмаваў Максім Рыжанкоў.

**Прэзідэнт Беларусі Аляксандр Лукашэнка павіншаваў жыхароў Ліды і Лідскага раёна з 700-гадовым юбілеем горада**

*"Гісторыя горада сваімі каранямі сыходзіць у глыб стагоддзяў. Вы атрымалі ў спадчыну багатыя традыцыі, духоўныя і матэрыяльныя каштоўнасці, сярод якіх знакаміты Лідскі замак, які даўно стаў візітнай карткай рэгіёна і штогод прываблівае тысячы турыстаў"*, - гаворыцца ў віншаванні.

Кіраўнік дзяржавы адзначыў, што сёння Ліда - гэта скіраваны ў будучыню горад. *"Будуецца жыллё, развіваецца сацыяльная сфера, абнаўляецца інфраструктура. Дзякуючы ўпартай стваральнай працы жыхароў раён знаходзіцца сярод лідараў у вобласці і рэспубліцы па многіх эканамічных паказчыках як у прамысловасці, так і ў сельскай гаспадарцы. Лідскія прадукты добра вядомыя не толькі ў нашай краіне, але і далёка за яе межамі. Самых добрых слоў заслугоўваюць вашы любоў да сваёй малой радзімы, павага да памяці продкаў, клопат аб захаванні непарыўнай сувязі часоў і пакаленняў. Пераканавведены, так будзе і надалей"*, - падкрэсліў Прэзідэнт.



Аляксандр Лукашэнка пажадаў жыхарам Ліды і Лідскага раёна моцнага здароўя, мірнага неба, шчасця, новых дасягненняў і поспехаў на карысць Лідскага краю і любімай Беларусі.

**Сяргей Ложачнік уручыў кіраўнікам прадпрыемстваў Ганаровыя граматы Лідскага райвыканкама**

Галоўнае багацце нашага рэгіёна - гэта яго людзі: добрыя, адкрытыя, таленавітыя і працавітыя. Дзякуючы іх нястомнай працы Лідчына расце і прыгажэе, упэўненай хадой крочыць у будучыню. Поспехі і дасягненні жыхароў раёна ўслаўляюць сваю малую радзіму далёка за яе межамі.

Падчас урачыстай цырымоніі адкрыцця святочных мерапрыемстваў, прымеркаваных да 700-гадовага юбілею Ліды "Захоўваючы мінулае, ствараем будучыню!", старшыня раённага выканаўчага камітэта выказаў словы падзякі тым, хто сваёй працай робіць родны горад лепшым і прыгажэйшым.

А дырэктары лепшых прамысловых прадпрыемстваў Лідчыны былі ўзнагароджаны Ганаровымі граматамі раённага выканаўчага камітэта.












**Віншаванне Сяргея Ложачніка і Інэсы Белуш з 700-гадовым юбілеем горада**

***Дарагія лідзяне!***

*Прыміце самыя шчырыя віншаванні з 700-гадовым юбілеем горада!*

*Ліда - адзін са старажытных гарадоў Беларусі і найпрыгажэйшы сучасны раённы цэнтр. Гэта горад з багатай гісторыяй і культурнай спадчынай, дзе*









*працуюць дзясяткі прадпрыемстваў і пражывае больш за 103 тысячы чалавек.*

*Ва ўсе часы скарбам нашай зямлі былі людзі - выдатныя, працавітыя, творчыя, якія любяць свой край. Для лідзян важна, ствараючы будучыню, захоўваць мінулае. У нас з вамі ёсць усё, каб і далей развіваць свой горад, яго эканоміку і сацыяльную сферу.*

*Ад усяго сэрца жадаем усім дабрабыту, поспехаў і здароўя. Новых пачынанняў і дасягненняў на карысць Лідскага краю і нашай краіны!*

*З юбілеем, дарагія лідзяне!*

*Сяргей ЛОЖАЧНІК,*
*старшыня раённага выканаўчага камітэта,*
*Інэса БЕЛУШ,*
*старшыня раённага Савета дэпутатаў.*

**У Лідзе адкрылі Дошку пашаны**

2 верасня каля Лідскага райвыканкама адкрыта новая Дошка пашаны.





## А з паўдня 2 верасня завіраваў сам фестываль LidBeer

На фестываль з усёй Беларусі сабралася 102 тысячы аматараў перш за ўсё музыкі, ну і, вядома, лідскага піва. Людзі ішлі і ехалі суцэльнай плынню, хаця ў мінулыя гады мксімум наведвальнікаў сягаў 150 тысяч, але пасля доўгага перапынку сабралася дастаткова, каб зноў зашумела ўся Ліда на ўсю Беларусь.

У пятніцу на свяце былі ў асноўным лідзяне (тысяч 10-15), а ў суботу рэй вялі госці.





















**Княскае паляванне і сярэднявечны рыцарскі стан захаплялі цікаўных у Лідскім замку**











**Ліда літаратурная святкавалатаксама**

Ліда яскрава адлюстравана фарбамі на палотнах мастакоў і ў мастацкім слове майстроў прыгожага пісьменства! Сёння ў Гарадку, што на Віцебскай зямлі, прайшоў юбілейны, 30-ы Дзень беларускага пісьменства. А Ліда ж адзначае таксама юбілей - 700 год!!! У сувязі з гэтымі падзеямі была арганізавана арт-праграма "Балкон" з удзелам лідскіх паэтаў.

Трэба зазначыць, што ўжо не ў такі далёкі час, калі з балкона Дома паэта Валянціна Таўлая таксама гучала паэзія і музыка. І вось сёння, у трэці дзень свята горада лідскія творцы вырашылі зноў парадаваць







прыхільнікаў паэзіі. На імправізаваную сцэну-балкон выйшлі Канстанцін Якубчык з дачкой Жэняй, якія падзяліліся з гасцямі і жыхарамі горада вершамі на дзіцячую тэматыку, пра горад Ліда і гумарыстычнага характару.

Алесь Хітрун пазнаёміў слухачоў-гледачоў з гісторыямі літаратурнай Лідчыны і святкавання Дня беларускага пісьменства, зачытаў вершы Валянціна Таўлая і свае асабістыя - пра родны край і родную мову, гумарыстычныя.

Тарэса Смольская парадавала аматараў паэзіі вершамі, прысвечанымі гораду і таксама знайшлося месца для вершаваных твораў пра малую радзіму.

Прыўзняла настрой у прысутных Алена Несцерава, вершы ў выкананні якой закранулі іх да глыбіні душы.

Так, апошні дзень свята ў Лідзе прыхільнікі мастацкага слова правялі ў песнях і вершах. І на гэтым яны не развітаюцца, бо прагучала прапанова зноў сабрацца пад паэтычным балконам каб набрацца пазітыўнага настрою для далейшых шэрых будняў. А як гэта зрабіць - адказ ёсць у лідскіх майстроў паэтычнага слова. Сачыце за навінамі.

**3 верасня ў Лідзе праходзілі спартова-масавыя мерапрыемствы, прысвечаныя 700-годдзю горада:**

Адкрыты раённы турнір па міні-футболу.




Лёгкаатлетычны забег "Здароўе" па вуліцы Мітрапаліта Філарэт.а.



Адкрыты раённы турнір па хакею з шайбай сярод хлопцаў 2014 г.н. На лядовую арэну выйшлі каманды “Ліда 2014-1”, “Ліда 2014-2”, а таксама “Дынама-Маладзечна-2014” і “Авіятар-2014” з г. Баранавічы.







Вось так і закончылася гучнае з размахам святкаванне 700-годдзя слаўнага горада Ліды, вартае і даты і гісторыі горада, але юбілейныя мерапрыемствы на тым не закончыліся наперадзе навуковая частка: акадэмічныя навукова-практычны семінар і навуковая канферэнцыя.

***Паводле СМІ.***

# Збіральнік скарбаў зямлі беларускай

## *Навукова-практычны семінар НАН Беларусі ў Лідзе*

6 верасня Цэнтр даследаванняў беларускай культуры, мовы і літаратуры НАН Беларусі і Лідскі гістарычна-мастацкі музей правялі Навукова-практычны семінар **"Збіральнік скарбаў зямлі беларускай (да 170-годдзя з дня нараджэння Міхала Федароўскага і да 700-годдзя горада Ліды)".**

У праграме семінара былі наступныя даклады:

**Юрый Внуковіч:** “Этнічныя намінацыі і катэгорыі ідэнтычнасці ў працы Міхала Федароўскага "Люд беларускі на Русі Літоўскай".

**Зміцер Скварчэўскі:** “Паданне "Аб даўнейшай веры" са збору Міхала Федароўскага. Да пытання пра паходжанне і ўплывы”.

**Сяргей Грунтоў:** “Чытанне Міхала Федароўскага на сучасных беларускіх могілках: уяўленні пра душу і замагільны свет раней і сёння”.

**Юры Пацюпа:** "Паэма "Суседчык гавейскі" Вільгельма Пратасэвіча і кан'енктуры да яе Міхала Федароўскага".

**Яніна Грыневіч:** “Уладзімір Дубоўка чытае Міхала Федароўскага: старыя падыходы да новых матэрыялаў”.

**Таццяна Валодзіна:** “Народная медыцына ў працах Міхала Федароўскага: да пытання аб раянаванні традыцыйнай культуры”.

**Таццяна Кухаронак:** “Дародавыя звычаі, прыкметы, вераванні беларусаў у даследаваннях Міхала Федароўскага”.

**Ала Сідаровіч:** “Агонь, святло, зіхценне як праява сустрэчы з боскім (у працы Міхала Федароўскага "Люд беларускі на Русі Літоўскай")”.

**Вольга Трубач:** “Свет эмоцый у беларускіх парэміях (паводле збораў Міхаіла Федароўскага)”.

**Ірына Смірнова**: “Работа Г.Н. Есимонтовского "Описанпе Суражского уезда" как источник для изучения истории и культуры белорусов Черниговской губернии в XIX в.”.




Семінар распачаўся прывітальным словам дырэктара музея Вольгі Лук'ян і рэдактара часопіса "Лідскі летапісец" Станіслава Судніка. С. Суднік прадставіў удзельнікам семінару тры лідскія фальклорныя зборнікі, якія выйшлі за апошнія 6 гадоў, і падарыў календары з серыі "Скарбы Лідчыны".



Вяла семінар доктар філалагічных навук **Таццяна Валодзіна.**



Падчас выступаў прагучала шмат цікавай інфармацыі пра розныя аспекты этнічнай культуры і самасвядомасці беларусаў, якія зафіксаваў Міхал Федароўскі











ў сваёй 8-мі томнай працы "Люд беларускі". Як Напалеон Орда зрабіў зрэз беларускай архітэктуры, так Міхал Федароўскі зрабіў зрэз усяго этнасу.

На жаль, не так шмат увагі было ўдзелена біяграфіі Міхала Федароўскага, таму мы ні на крок не прыблізіліся да раскрыцця асобы Лідзіі Падул - першай памочніцы Міхала Федароўскага ў Варшаве, якая была з Лідскага павета, вучылася ў Варшаўскай кансерваторыі. *"Па словах Янкі Саламевіча, даследчыка творчасці Федароўскага, Лідзія Падул нават запісала 7 песень для Федароўскага ў Лідскім павеце. Дзяўчына шмат дапамагала фальклярысту, нават пэўны час жыла ў яго на кватэры. Але больш звестак пра Лідзію Падул адшукаць не ўдалося. Магчыма, пасля заканчэння кансерваторыі, яна пакінула Варшаву". (Сяргей Чыгрын. Збіральнік беларускіх перлаў. Наша слова.pdf № 36, 6 верасня 2023 г.).* Трэба спадзявацца, што лідскія краязнаўцы знойдуць сляды Лідзіі Падул і яе імя зойме сваё месца ў шэрагу лідскіх фальклярыстаў.



***Алесь Хітрун, Юрась Пацюпа, Станіслаў Суднік***

А неўзабаве спадзяёмся на зборнік дакладаў, з якім можна будзе больш глыбока ўнікнуць у пачутае на семінары.

***Яраслаў Грынкевіч.***

# Ліда і Лідскі край у гісторыі Беларусі

## *Навукова-практычная канферэнцыя НАН Беларусі ў Лідзе*

8 верасня ў Лідскім замку прайшла навукова-практычная канферэнцыя "Ліда і Лідскі край у гісторыі Беларусі", прысвечаная 700-годдзю горада Ліды (сумесна з Нацыянальнай акадэміяй навук Беларусі).

У Аргкамітэт канферэнцыі ўвайшлі:

***Ложачнік Сяргей Васільевіч*** - старшыня Лідскага раённага выканаўчага камітэта;

***Лакіза Вадзім Леанідавіч*** - дырэктар Інстытута гісторыі НАН Беларусі, кандыдат гістарычных навук, дацэнт;

***Юрэцкі Станіслаў Сцяпанавіч*** - дырэктар Цэнтральнай навуковай бібліятэкі імя Якуба Коласа НАН Беларусі, кандыдат гістарычных навук;

***Владыка Генадзь Анатольевіч*** - намеснік старшыні Лідскага раённага выканаўчага камітэта;

***Трубчык Павел Анатольевіч*** - намеснік дырэктара па навуковай рабоце Інстытута гісторыі НАН Беларусі, кандыдат гістарычных навук, дацэнт;

***Леўшунова Наталля Фёдараўна*** - начальнік аддзела культуры Лідскага раённага выканаўчага камітэта;

***Праравачава Наталля Юр 'еўна*** - вучоны сакратар Інстытута гісторыі НАН Беларусі, кандыдат філалагічных навук;

***Лук'ян Вольга Віктараўна*** - дырэктар Лідскага гістарычна-мастацкага музея;

***Голубеў Вачанцін Фёдаравіч*** - загадчык цэнтра гісторыі Беларусі IX- XVIII стагоддзяў і спецыяльных гістарычных навук Інстытута гісторыі НАН Беларусі, доктар гістарычных навук, прафесар;

***Сыцько Кірыл Валер'евіч*** - загадчык цэнтра даследаванняў старадрукаў і рукапісаў Цэнтральнай навуковай бібліятэкі імя Якуба Коласа НАН Беларусі, кандыдат гістарычных навук;

***Доўнар Аляксандр Барысавіч*** - загадчык аддзела гісторыі Беларусі IX- XVIII стагоддзяў і археаграфіі Інстытута гісторыі НАН Беларусі, кандыдат гістарычных навук, дацэнт;

***Ганчарэнка Кірыл Дзмітрыевіч*** - намеснік дырэктара па агульных пытаннях Інстытута гісторыі НАН Беларусі;

***Аляхновіч Рагнеда Анатольеўна*** - навуковы супрацоўнік Інстытута гісторыі НАН Беларусі.

Адкрыў канферэнцыю лідзянін, супрацоўнік Цэнтральнай навуковай бібліятэкай імя Якуба Коласа Нацыянальнай акадэміі навук Кірыл Сыцько.






Старшыня Лідскага райвыканкама Сяргей Ложачнік прывітаў дзеячаў навукі, даследчыкаў і публіцыстаў, адзначыўшы ў сваім вітальным слове, што кіраўніцтва раёна заўсёды будзе адкрыта да супрацоўніцтва, да разгляду прапаноў і цікавых праектаў.



Па-беларуску дабраславіў удзельнікаў канферэнцыі лідскі дабрачынны айцец Расціслаў Салаўёў.



На пачатку канферэнцыі былі ўзнагароджаны супрацоўнікі Лідскага музея, у тым ліку дырэктар Вольга Лук'ян, лідскія краязнаўцы за плённую працу па аднаўленні і папулярызацыі гісторыі Лідчыны.




Сярод узнагароджаных сталы карэспандэнт газеты "Наша слова.pdf", слынны краязнавец ды пісьменнік Леанід Лаўрэш і навуковы супрацоўнік Лідскага гістарычна-мастацкага музея Алесь Хітрун.






Грамату атрымаў і старшыня Лідскага райвыканкама Сяргей Ложачнік.



Да канферэнцыі былі падрыхтаваны 54 навуковыя даклады, большасць з якіх і была прачытана на пленарным паседжанні і трох секцыях.

**ПЛЕНАРНАЕ ПАСЯДЖЭННЕ**

*(Лідскі замак, канферэнц-зала, вул. Замкавая, 1)*

**Даклады:**

1. ***Лакіза Вадзім Леанідавіч***, *дырэктар Інстытута гісторыі НАН Беларусі, кандыдат гістарычных навук, дацэнт (Мінск).*



**Тэма даклада:** "Гісторыка-культурная і археалагічная спадчына Беларусі і яе роля ў захаванні гістарычнай памяці".

2. ***Юрецкий Станислав Степанович***, *директор Центральной научной библиотеки им. Якуба Коласа НАН Беларуси, кандидат исторических наук (Минск).*

**Тема доклада:** "Первый этап археологических раскопок в центре г. Лиды в 2023 г.".

3. ***Голубеў Валянцін Фёдаравіч***, *загадчык цэнтра гісторыі Беларусі IX - XVIII стагоддзяў і спецыяльных гістарычных навук Інстытута гісторыі НАН Беларусі, доктар гістарычных навук, прафесар (Мінск).*

**Тэма даклада:** "Лідчына на старонках рэвізіі 1765 г."



4. ***Літвін Аляксей Міхайлавіч***, *загадчык цэнтра ваеннай гісторыі Беларусі Інстытута гісторыі НАН Беларусі, доктар гістарычных навук, прафесар (Мінск).*

**Тэма даклада:** "Лідская турма ў гады Вялікай Айчыннай вайны: новыя звесткі".

5. ***Шарковская Наталья Юрьевна***. *ведущий научный сотрудник Витебского областного краеведческого музея (Витебск).*

**Тема доклада:** ""Лидские" материалы в Гродненской коллекции негативов архива Л.В. Алексеева из собрания Витебского областного краеведческого музея".



**СЕКЦЫЯ 1**

**Старажытная Лідчына: археалогія, Сярэднявечча і пачатак Новага часу**

*(Лідскі замак, канферэнц-зала, вул. Замкавая, 1)*



Мадэратар секцыі загадчык аддзела гісторыі Беларусі IX-XVIII стагоддзяў і археаграфіі Інстытута гісторыі НАН Беларусі, кандыдат гістарычных навук, дацэнт ***Доўнар Аляксандр Барысавіч.***

6. ***Еловачева Ядвига Казимировна***, *профессор Белорусского государственного университета, доктор географическнх наук, профессор (Минск).*

**Тема доклада**: "Лидский край в свете находок геологических объектов природы".

7. ***Навагродскі Тадэвуш Антонавіч***, *загадчык кафедры этналогіі, музеялогіі і гісторыі мастацтваў Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта, доктар гістарычных навук, прафесар (Мінск).*

**Тэма даклада:** "Этнакультурныя традыцыі Лідчыны (на матэрыялах палявых этнаграфічных даследаванняў)".

8. ***Мядзведзева Вольга Уладзіміраўна***, *вядучы навуковы супрацоўнік Інстытута гісторыі НАН Беларусі (Мінск);* ***Мядзведзеў Кірыл Аляксандравіч***, *малодшы навуковы супрацоўнік Інстытута гісторыі НАН Беларусі (Мінск).*

**Тэма даклада:** "Вывучэнне археалагічнай спадчыны Лідскага краю (XIX-XXI стст.)".

9. ***Касюк Алена Фёдараўна***, *вядучы навуковы супрацоўнік Гродзенскага дзяржаўнага гісторыка-археалагічнага музея, кандыдат гістарычных навук (Гродна).*

**Тэма даклада:** "Археалагічныя даследаванні Славяна-літоўскага атрада Прыбалтыйскай экспедыцыі 1955 г. у Лідскім раёне (па матэрыялах фондаў Гродзенскага дзяржаўнага гісторыка-археалагічнага музея)".

10. ***Велент-Шчэрбач Святлана Сяргееўна***, *навуковы супрацоўнік Інстытута гісторыі НАН Беларусі (Мінск).*

**Тэма даклада:** "Старажытнасці каменнага веку Лідскага краю - гісторыя вывучэння і сучаснасць".

11. ***Гаршкоў Аляксандр Дзмітрыевіч***, *старшы выкладчык Гродзенскага дзяржаўнага ўніверсітэта імя Янкі Купалы (Гродна).*

**Тэма даклада:** "Вывяржэнне вулкана Лах (Гер-

манія) і яго ўплыў на засяленне Любчанскай нізіны ў фінальным палеаліце".

12. ***Велент-Шчэрбач Святлана Сяргееўна***, *навуковы супрацоўнік Інстытута гісторыі НАН Беларусі (Мінск).*

**Тэма даклада:** "Першапачатковае засяленне Лідчыны".

13. ***Дзярновіч Алег Іванавіч***, *вядучы навуковы супрацоўнік Інстытута гісторыі НАН Беларусі, кандыдат гістарычных навук, дацэнт (Мінск).*

**Тэма даклада:** "1050 футаў альбо 7 шнуроў: метралагічныя характарыстыкі Лідскага замка ў кантэксце часоў яго пабудовы".

14. ***Сливкин Валерый Васильевич***, *старший научный сотрудник Лидского историко-художественного музея, кандидат географических наук (Лида).*

**Тема доклада:** "Лида и Лидский замок в составе Великого Княжества Литовского".

15. ***Пазднякоў Валерый Сямёнавіч***, *загадчык аддзела археаграфіі Беларускага навукова-даследчага інстытута дакументазнаўства і архіўнай справы, кандыдат гістарычных навук (Мінск).*

**Тэма даклада:** "Першыя магдэбургскія войты горада Ліды (канец XVI - пачатак XVII ст.)".

16. ***Лаўрэш Леанід Лявонцьевіч***, *пісьменнік, краязнавец (Ліда).*

**Тэма даклада:** "Новае з гісторыі горада".



17. ***Галубовіч Віталь Уладзіміравіч***, *дацэнт Гродзенскага дзяржаўнага аграрнага ўніверсітэта, кандыдат гістарычных навук, дацэнт (Гродна).*

**Тэма даклада:** "Лідчына на старонках Метрыкі Вялікага Княства Літоўскага часоў Уладзіслава Вазы".

18. ***Салаўёў Расціслаў***, *протаіерэй, благачынны Лідскай акругі, кандыдат багаслоўя (Ліда).*

**Тэма даклада:** "Мясцовашанаваныя абразы Лідчыны: гісторыя і сучаснасць".

19. ***Зубовіч Яўген Аляксандравіч***, *аспірант Інстытута гісторыі НАН Беларусі (Мінск).*

**Тэма даклада:** "Беліца - адзін з цэнтраў кальвінізму Вялікага Княства Літоўскага ў сярэдзіне XVII-XVIII ст."

20. ***Корсун Елена Владимировна***, *заведующая кафедрой клинической фитотерапии Российского университета дружбы народов, кандидат медицинских наук (Москва, Россия);* ***Малышко Мария Андреевна***, *врач-эндокринолог 16-ой городской клинической поликлиники г. Минска (Минск);* ***Огренич Николай Антонович***, *врач УЗН диагностнки, акушер-гинеколог Родильного дома г. Барановичи (Барановичы).*

**Тема доклада:** "История фитотерапии в г. Лида в XVII- XX вв."

21. ***Доўнар Аляксандр Барысавіч***, *загадчык аддзела гісторыі Беларусі IX-XVIII стагоддзяў і археаграфіі Інстытута гісторыі НАН Беларусі, кандыдат гістарычных навук, дацэнт (Мінск).*

**Тэма даклада:** "Бюджэт горада Ліды ў канцы XVIII ст."

17. ***Сергачоў Сяргей Аляксеевіч***, *прафесар Беларускага нацыянальнага тэхнічнага ўніверсітэта, доктар архітэктуры, прафесар (Мінск).*

**Тэма даклада:** "Прасторава-планіровачная арганізацыя мястэчка Дакудава ў ХУІП-ХІХ стагоддзях: заканамернасці і асаблівасці развіцця".



**СЕКЦЫЯ 2**
**Лідчына ў Новы і Навейшы час**
*(Лідскі замак, выставачная зала, вул. Замкавая, 1)*

Мадэратар секцыі старшы навуковы супрацоўнік Інстытута гісторыі НАН Беларусі, кандыдат гістарычных навук ***Гарматны Віталь Пятровіч.***

22. ***Ерашэвіч Аляксандр Уладзіміравіч***, *дацэнт Беларускага дзяржаўнага эканамічнага ўніверсітэта, кандыдат гістарычных навук, дацэнт (Мінск).*

**Тэма даклада:** "Гарадскія даходы і расходы Ліды ў першай палове XIX ст."



23. ***Развановіч Алена Станіславаўна**, загадчык аддзела рэдкай кнігі і старадрукаў Гродзенскага дзяржаўнага гісторыка-археалагічнага музея (Гродна).*

**Тэма даклада:** "Кнігі з бібліятэкі Войцеха Нарбута ў фондах Гродзенскага дзяржаўнага гісторыка-археалагічнага музея".

24. ***Зянюк Раіса Уладзіміраўна**, кандыдат гістарычных навук (Мінск).*

**Тэма даклада:** "Эвалюцыя функцый рымска-каталіцкіх кляштароў у XIX ст. (на прыкладзе Віленскай дыяцэзіі і Лідчыны)".

25. ***Хотеев Алексей Сергеевич**, старший научный сотрудник Института истории НАН Беларуси, кандидат исторических наук (Минск).*

**Тема доклада:** "Город Лида на страницах российской исторической периодики второй половины XIX - начала XX в."

26. ***Лішай Дзмітрый Уладзіміравіч**, навуковы супрацоўнік Інстытута гісторыі НАН Беларусі (Мінск).*

**Тэма даклада:** "Філіялы Віленскага польскага таварыства "Асвята" на тэрыторыі Лідскага павета ў 1907-1908 гг."

27. ***Киенко Дмитрий Геннадьевич**, научный сотрудник Института истории НАН Беларуси (Минск).*

Тема доклада: "История аэродрома Лида - 110 лет полётов".

28. ***Гарматны Віталь Пятровіч**, старшы навуковы супрацоўнік Інстытута гісторыі НАН Беларусі, кандыдат гістарычных навук (Мінск).*

**Тэма даклада:** "Сельскагаспадарчае развіццё Лідскага павета Наваградскага ваяводства ў 1921-1939 гг."

29. ***Горны Аляксандр Сяргеевіч**, дацэнт Гродненскага дзяржаунага ўніверсітэта імя Янкі Купалы, кандыдат гістарычных навук, дацэнт (Гродна).*

**Тэма даклада:** "Дзейнасць структур Таварыства беларускай школы ў Лідскім павеце ў міжваенны перыяд".

30. ***Сасонкіна Валянціна Фёдараўна**, вядучы правізар- інспектар РУП "БЕЛФАРМАЦЫЯ" (Мінск); **Комлач Інэса Аляксандраўна**, студэнтка Беларускага дзяржаўнага медыцынскага ўніверсітэта (Мінск).*

**Тэма даклада**: "Становішча аптэчнай справы на Лідчыне ў міжваенны перыяд (1921-1939 гг.)"

31. ***Олиферук Ирына Ильинична**, преподаватель Брестского государственного музыкального колледжа им. Г. Ширмы (Брест).*

**Тема доклада:** "Евреи Лиды (1921-1939 гг.): основные черты жнзни".

32. ***Бароўская Вольга Мікалаеўна**, вядучы навуковы супрацоўнік Інстытута гісторыі НАН Беларусі, кандыдат гістарычных навук, дацэнт (Мінск).*

**Тэма даклада:** "Справа ліквідацыі маёмасці Лідскага таварыства ўзаемнага крэдыту ў 1928-1933 гг."

33. ***Сыцько Кірыл Валер'евіч**, загадчык цэнтра даследаванняў старадрукаў і рукапісаў Цэнтральнай навуковай бібліятэкі імя Якуба Коласа НАН Беларусі, кандыдат гістарычных навук (Мінск).*

**Тэма даклада:** "Хроніка парафіі Дуды 1934 г. як гістарычная крыніца".

34. ***Капліеў Аляксей Аляксандравіч**, вядучы навуковы супрацоўнік Інстытута гісторыі НАН Беларусі, кандыдат гістарычных навук, дацэнт (Мінск).*

**Тэма даклада:** "Развіццё аховы здароўя Заходняй Беларусі ў адлюстраванні дакладаў З'езда бальнічных лекараў Віленскага і Наваградскага ваяводстваў 13 лютага 1938 г. у Лідзе".

35. ***Сильванович Станислав Алёйзович**, доцент Гродненского государственного медицинского уныверситета, кандидат исторических наук, доцент (Гродно).*

**Тема доклада:** "Польскне подпольные организации на Лидчине в 1939-1941 гг."

36. ***Волынец Наталья Михайловна**, старший научный сотрудник Лидского историко-художественного музея (Лида).*

**Тема доклада:** "Эго-документы как нсточннк изучения событий Великой Отечественной войны на Лидчине".

37. ***Хотянович Наталья Александровна**, заместитель директора по научно-исследовательской деятельности Лидского историко-художественного музея (Лида).*

**Тема доклада:** "Городскне образы на страницах "LIDA. Das kleine Kriegs-Album".

38. ***Ратько Александр Фёдорович**, доцент Белорусского государственного педагогического университета им. Максима Танка, кандидат исторических наук, доцент (Минск).*

**Тема доклада:** "Казахстанцы в партизанских формированиях Лидской партизанской зоны".

**СЕКЦЫЯ 3**

**Лідчына: славутыя імёны, славутыя аб'екты**

*(Дом Вачянціна Таўлая Лідскага гістарычна-мастацкага музея, вул. Замкавая,* 7)

Мадэратар секцыі вядучы навуковы супрацоўнік Інстытута гісторыі НАН Беларусі, кандыдат гістарычных навук, дацэнт ***Мазец Валянцін Генрыхавіч.***



39. ***Сливкина Наталья Анатольевна***, *заместитель директора по воспитательной работе Березовской средней школы № 3 Лидского района (Берёзовка, Лидский р-н).*

**Тема доклада:** "История Лидской рыночной площади в фотографиях 1910-1941 гг."

40. ***Гецэвіч Юрый Станіслававіч***, *загадчык лабараторыі, кандыдат тэхнічных навук;* ***Слесарава Марыя Міхайлаўна***, *стажор малодшага навуковага супрацоўніка;* ***Латышэвіч Давід Іосіфавіч***, *стажор малодшага навуковага супрацоўніка;* ***Бакуновіч Андрэй Аляксеевіч***, *малодшы навуковы супрацоўнік;* ***Казлова Маргарыта Аляксандраўна***, *стажор малодшага навуковага супрацоўніка Лабараторыі распазнавання і сінтэзу маўлення Аб'яднанага інстытута праблем інфарматыкі НАН Беларусі (Мінск).*

**Тэма даклада:** "Інтэрактыўны аўдыягід па Лідскім замку - унікальнаму помніку абарончага дойлідства".

41. ***Лінніцкая Таццяна Леанідаўна***, *старшы навуковы супрацоўнік Лідскага гістарычна-мастацкага музея (Ліда).*

**Тэма даклада:** "Гісторыя Лідскага замка другой паловы XX ст. па ўспамінах сучаснікаў".

42. ***Петражыцкая Вольга Міхайлаўна***, *супрацоўнік Музея гісторыі горада Мінска (Мінск).*

**Тэма даклада:** "Актуалізацыя калекцыі гадзіннікаў у прасторы Лідскага гістарычна-мастацкага музея".

43. ***Клімовіч Ірэна Антонаўна***, *навуковы супрацоўнік Лідскага гісторыка-мастацкага музея (Ліда).*

**Тэма даклада**: "Атмасферна-этнаграфічная гасцёўня "Час. Традыцыі. Вобразы", як сродак папулярызацыі матэрыяльнай і духоўнай культуры рэгіёна".

44. ***Сацукевіч Іван Іванавіч***, *магістр гісторыі (Мінск).*

**Тэма даклада:** "Гістарычныя харонімы Ліды: сучаснасць і перспектывы".

45. ***Мазец Валянцін Генрыхавіч***, *вядучы навуковы супрацоўнік Інстытута гісторыі НАН Беларусі, кандыдат гістарычных навук, дацэнт (Мінск).*

**Тэма даклада:** "Станаўленне і дзейнасць Лідскага камбіната харчовых канцэнтратаў".

46. ***Ершова Ольга Игоревна***, *доцент Белорусского государственного университета, кандидат исторических наук, доцент (Минск).*

**Тема доклада:** "Дмитрий Антонович Сцепуро: деятель сферы образования на переломе эпох".

47. ***Иоффе Эмануил Григорьевич***, *доктор исторических наук, профессор (Минск).*

**Тема доклада:** "Знаменитые евреи - уроженцы г. Лиды".

48. ***Дубовик Александр Константинович,*** *доцент Белорусского национального технического университета, кандидат исторических наук, доцент (Минск).*

**Тема доклада:** "Уроженцы Лидского края - известные ученые и руководители".

49. ***Хітрун Аляксандр Часлававіч***, *навуковы супрацоўнік Лідскага гісторычна-мастацкага музея (Ліда).*

**Тэма даклада:** "Звініць паэта песня ў горадзе прынёманскім: новыя аспекты з жыцця і творчай дзейнасці Валянціна Таўлая ў Лідзе".

50. ***Баранава Ала Савічна***, *дацэнт Мінскага дзяржаўнага лінгвістычнага ўніверсітэта, кандыдат педагагічных навук, дацэнт (Мінск).*

**Тэма даклада:** "Грамадзянскае выхаванне моладзі у працэсе вывучэння твораў Ніны Тарас".

51. ***Снитко Алеся Николаевна***, *учитель истории средней школы №15 г. Лиды (Лида).*

**Тема доклада:** "Людмила Мягкова. Искусство в стекле".

52. ***Латышев Олег Юрьевич***, *президент Международной Мариинской академии им. М.Д. Шаповаленко, кандидат филологических наук (Москва, Россия);* ***Латышева Полина Александровна***, *исполнительный директор Международной Мариинской академии им. М.Д. Шаповаленко (Москва, Россия);* ***Луизетто Мауро***, *почетный вице-президент Международной Марииской академии им. М.Д. Шаповаленко, доктор фармацевтических наук (Пьяченца, Италия).*

**Тема доклада:** "Ярослав Львович Линевич - выдающийся уроженец Лидчины".

75. ***Лиханова Наталья Анатольевна***, *учитель истории и обществоведения средней школы № 1 г. Лиды, руководитель историко-краеведческого музея "Наследие" (Лида).*

**Тема доклада:** "Юфы. Вклад в историю Лиды".

53. ***Прядка Любовь Юрьевна***, *заместитель*

*днректора по учебно-воспатательной работе Лидского районного центра экологии, туризма и краеведения (Лида).*

**Тема доклада:** "Воспитание патриотизма у подрастающего поколения на примерах подвига белорусского народа в годы Великой Отечественной войны (из опыта поисковой архивно-исследовательской и краеведческой работы)".

54. ***Ярошко Татьяна Иосифовна***, *методист Лидского районного центра экологии, туризма и краеведения (Лида).*

**Тема доклада:** "Информацнонный онлайн-проект "Лидский регион: традиции и память. Исторический путеводитель" как инновационная модель сохранения исторической памяти".

Пры адкрыцці канферэнцыі гаварылася, што канферэнцыя ў Лідзе мела за мэту таксама і прыцягнуць да ўдзелу мясцовых краязнаўцаў. І прыцягнулі. Большасць лідскіх краязнаўцаў так ці інакш удзельнічала ў канферэнцыі. Лідзяне (супрацоўнікі музея і краязнаўцы) прачыталі 12 дакладаў. Найбольш яскравы з іх даклад Леаніда Лаўрэша “Новае з гісторыі горада”, які тычыцца паселішча XI-XIII стагоддзяў на тэрыторыі Ліды, вядомага ў гістарыяграфіі як “Ліда Нарбута”. Да даклада прагучала рэпліка Алега Дзярновіча, што ў Крэве аналагічная сітуацыя: і там, і тут замак будаваўся недзе за кіламетр ад старога паселішча, і тут, і там гэтае старое паселішча не балцкае, а славянскае. Цікава было б атрымаць інфармацыю з Меднікаў, каб зразумець стратэгічную задумку Гедыміна будаваць лінію замкаў унутры краіны. Але гэта справа для будучых даследаванняў.

Па выніках канферэнцыі плануецца выданне зборніка артыкулаў, дакладаў, навуковых прац па гісторыі Лідскага краю.

На канферэнцыі падпісана Дамова пра супрацоўніцтва паміж Цэнтральнай навуковай бібліятэкай імя Якуба Коласа Нацыянальнай акадэміі навук і Лідскім гістарычна-мастацкім музеем.




Цэнтральная навуковая бібліятэка НАН Беларусі на навукова-практычнай канферэнцыі ў Лідзе прадставіла свае рэдкія кнігі - працы выхадцаў і даследчыкаў Лідчыны, напрыклад, прыжыццёвае выданне Тэадора Нарбута.







Але найбольшую радасць лідзяне займелі ўбачыўшы адну з кніг Камілы Нарбут выдання 1852 года. Каміла Нарбут - адна з найстарэйшых лідскіх пісьменніц, пра якую да гэтага часу ведалі вельмі мала.

Бібліятэка прывезла толькі арыгіналы, ёсць нават кнігі 18-га стагоддзя. Зараз, у рамках падпісанай Дамовы з бібліятэкай НАН, у навуковых супрацоўнікаў Лідскага музея будзе доступ да атрымання гэтых і іншых рарытэтных кніг.

Важнымі элементамі канферэнцыі былі гутаркі ў перапынках, шматлікія экскурсіі па Лідскім замку. Спецыялісты з Менска прыдзірліва разглядалі ледзь не кожную байніцу, робячы заўвагі пра хібы ў рэстаўрацыі, але ў цэлым можна прывесці словы доктара гістарычных навук Валянціна Голубева, які быў у складзе першага студэнцкага будатрада на раскопках Лідскага замка, што тады ніхто нават і блізка не мог падумаць пра магчымасць убачыць некалі адбудаваны Лідскі замак. А рэчаіснасць аказалася смялейшая за мары.

Канферэнцыя, якая прайшла, была чацвёртай сур'ёзнай канферэнцыяй па гісторыі Лідчыны.

Нрыканцы ўдзельнікі выказалі падзяку дырэктару музея Вользе Лук'ян і Лідскаму райвыканкаму за выдатную арганізацыю навуковага форуму.

А потым яшчэ два дні Faceboос быў запоўнены лідскай тэматыкай: спрэчкамі, уражаннямі, захапленнем.

***Яраслаў Грынкевіч.***

# Кроніка Ліды



У пачатку ліпеня ў Лідзе памёр **Міхась Бурачэўскі**. Міхасю было 64 гады. Пахавалі 4-га ліпеня на лідскіх могілках Зосіна-2.

Міхась Бурачэўскі актывіст беларускага нацыянальнага руху ў Лідзе ад яго пачатку і да канца. На працягу многіх гадоў быў нязменным старшынём рэвізійнай камісіі Лідскай гарадской арганізацыі ТБМ імя Ф. Скарыны.

| МАРШРУТ №19 | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|
| Детсад | | | Чеховцы | | |
| ч. | рабочие дни | вых. дни | ч. | рабочие дни | вых. дни |
| 6 | 00, 40 | - | 6 | 30 | - |
| 7 | 04, 48 | 00 | 7 | 09, 34 | 31 |
| 8 | 10, 58 | 10 | 8 | 19, 41 | 41 |
| 9 | - | 20 | 9 | 29 | 51 |
| 10 | 00 | 26 | 10 | 33 | 57 |
| 11 | 10 | - | 11 | 43 | - |
| 12 | 20 | 09 | 12 | 53 | 40 |
| 13 | 30 | 15 | 13 | - | 46 |
| 14 | 40 | 25 | 14 | 03 | 56 |
| 15 | 50 | 35 | 15 | 13 | - |
| 16 | - | 45 | 16 | 23 | 06 |
| 17 | 00 | 55 | 17 | 33 | 16 |
| 18 | 08 | - | 18 | 38 | 26 |
| 19 | 30 | 05 | 19 | - | 36 |
| 20 | | | 20 | 01 | |
| 21 | | | 21 | | |
| 22 | | | 22 | | |
| 23 | | | 23 | | |
| + 6 ул.Советская,<br>+ 21 ул.Притыцкого | | | + 15 Школа №5,<br>+ 24 ул.8 Марта | | |

З 8 ліпеня 2023 года арганізаваны рух па новым лідскім гарадскім аўтобусным маршруце ў рэгулярных зносінах **№ 19 "Дзіцячы сад № 22 - Чэхаўцы"**.

На пасаду дырэктара Лідскага лясгаса з 11 ліпеня прызначаны **Міхаіл Калодзіч**.

18 гадоў Міхаіл Калодзіч прапрацаваў ляснічым у Беразоўскім лясніцтве Пружанскага лясгаса Берасцейскай вобласці, а з верасня мінулага года займаў пасаду галоўнага інжынера ў Пружанскім лясгасе.



Першым намеснікам начальніка Генеральнага штаба Узброеных сіл Беларусі прызначаны генерал-маёр **Андрэй Мацievіч**. Адпаведны ўказ № 212 падпісаў 18 ліпеня Аляксандр Лукашэнка.

Андрэй Мацievіч нарадзіўся 2 верасня 1971 года ў вёсцы Вялікае Ольжава Лідскага раёна.






У ліпені сям'я **Мікалая і Таццяны Шолахавых** з Ліды ў 180-м туры рэкламнай гульні "Удача ў прыдачу" ад "Евраопту" выйграла кватэру ў Менску!

29 ліпеня ў аграмястэчку **Ходараўцы** ярка і сакавіта прагучаў ягадны фэст "Ходараўцы спяваюць, да ягаднай асалоды запрашаюць". Жыхары і госці аграмястэчка змаглі нацешыцца выступам артыстаў Лідскага раённага цэнтра культуры і народнай творчасці, ад душы павесяліцца, а галоўнае пачаставацца ягадамі і нацешыцца ягадным настроем гэтага лета.








На пачатку жніўня на пасаду галоўнага ўрача ўстановы аховы здароўя "Лідская цэнтральная раённая бальніца" прызначаны **Загароўскі Іван Уладзіміравіч.**

Да гэтага каля пяці гадоў Іван Загароўскі прапрацаваў галоўным урачом Шчучынскай раённай бальніцы




1 жніўня на ўездзе ў Ліду з боку Менска і Слоніма адкрыўся міні-дыскаўнтар **"Грошык"** (адміністрацыйны адрас: Лідскі р-н, в. Шайбакі, вул. Транспартная, 26; канцавы прыпынак аўтобуса № 1).



3 жніўня на гарадскіх могілках у г. Бярозаўцы работнікі ЖКГ знайшлі наган узору 1895 года.



19 жніўня ў **Тарнове** Лідскага раёна адбыўся яблычны фестываль "Тарноўскі цуд",

Свята пачалося з яркага, маляўнічага прадстаўлення, галоўнымі героямі якога сталі "малінаўка" і "белы наліў" з Тарноўскага саду. Яблыкам, якіх, дарэчы, у аграгарадку вырошчваецца каля 20 гатункаў, былі прысвечаны вершы, песні і конкурсы.





20 жніўня адзначыла двойчы залаты юбілей - стагоддзе з дня нараджэння жыхарка в. Мыто **Бярнарда Стэфанаўна Шымулевіч.**



У канцы жніўня да Дня горада на бакавым фасадзе Лідскай раённай бібліятэкі імя Янкі Купалы абноўлены інфармацыйны **банер**. Эскіз Дар'і Марцінкевіч.

25-27 жніўня ў лагеры "Бярозка" ў Белагрудзе прайшоў XV Міжнародны Лідскі байкфестываль, арганізатарам якога выступае мотатаварыства лідскіх байкераў "Devoid of Rights".

Традыцыйна госці фестывалю займелі шмат харошай музыкі, забаваў і дружную кампанію.








9 верасня Мажэйкава стала адной вялізнай святочнай пляцоўкай - аграгарадок прымаў раённыя **Дажынкі-2023**.

26 верасня ў Палацы культуры г. Ліды адбылася 8-я справаздачна-выбарная канферэнцыя раённай арганізацыі ГА "Беларускі саюз жанчын".

На справаздачна-выбарнай канферэнцыі быў абраны новы склад кіравання раённай арганізацыі БСЖ, а таксама адбыліся выбары старшыні кіравання і сакратара-бухгалтара.

Узначаліла Лідскую раённую арганізацыю ГА "Беларускі саюз жанчын" дырэктар раённага тэрытарыяльнага цэнтра сацыяльнага абслугоўвання насельніцтва **Таццяна Петух.**



# "Гудскаму гармоніку" - 35

23 ліпеня ў Гудскім цэнтры творчасці і вольнага часу адбыўся святочны канцэрт, прысвечаны 35-годдзю Народнага ансамбля народнай музыкі "Гудскі гармонік" ДУ "Лідскі раённы цэнтр культуры і народнай творчасці".

Народны ансамбль народнай музыкі "Гудскі гармонік" створаны ў 1988 годзе на базе Гудскага сельскага дома культуры. Першапачаткова ў яго склад уваходзілі тры гарманісты і барабаншчык. Калектыў выконваў, у асноўным, інструментальныя творы. Але з цягам часу склад ансамбля пачаў паступова пашырацца. Даданіся кантрабас, дудка, крыху пазней скрыпка, затым цымбалы. У рэпертуары ансамбля з'явіліся беларускія народныя і польскія народныя песні. Пашыралася геаграфія выступленняў. У 1994 годзе ансамблю прысвоена ганаровае найменне "Народны".

Прайшло 35 год з дня стварэння "Гудскага гармоніка", новыя творчыя людзі прыходзілі ў калектыў, некаторыя яго пакідалі, але касцяк заўсёды заставаўся. І сёння, у юбілейны дзень нараджэння ансамбля, мы ўспамінаем імёны першых яго удзельнікаў. Гэта - Адам Бярнацкі, Уладзімір Клябан, Альфрэд Рагойша, Віктар Казлоўскі і сам кіраўнік - Андрэй Колышка. Андрэй Антонавіч Колышка - вельмі таленавіты кампазітар і



музыкант, умела валодае тэхнікай выканання народнай музыкі. За гады творчай дзейнасці Андрэй Колышка неаднаразова ўзнагароджваўся граматамі Лідскага аддзела культуры, Лідскага райвыканкама, Лідскага раённага савета дэпутатаў, Гарадзенскага абласнога ўпраўлення культуры, Міністэрства культуры, Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь.

Шмат гадоў выступалі ў калектыве Сяргей Шара-



паў, Леакадзія Сахонь, Людміла Шавела, Ганна Баборык, Ірына Беразун, Адяксандр Сонгін, Уладзімір Нарон, Ганна Арлова, Алёна Мілеўская.

Свой след у творчым жыцці калектыва пакінулі Святлана Валынец, Іосіф Здановіч, Валерый Колышка, Віктар Кечко, Уладзімір Нямера, Станіслаў Валюкевіч, Галіна Міхайловіч, Інэса Гук, Уладзімір Клябан.

Сёння "Гудскі гармонік" дарыць свой непаўторны талент усім, хто доўга ці коратка прайшоў разам з ім творчы шлях, а таксама усім, хто закаханы ў народную музыку.

У цяперашні час калектыў налічвае 11 удзельнікаў. У яго склад уваходзяць інструментальная і вакальная групы. У іхнім складзе:

гарманісты: Андрэй Колышка і Іван Кароль;
цымбалы: Марыя Дукі;
бас-гітара: Аляксандр Пучыла;
духавыя: Алёна Кавальчук;
барабан і вакал: Дзмітрый Пухнарэвіч;
вакалісты: Наталля Вайцюкевіч, Лілея Хвайніцкая, Вольга Троцкая, Кацярына Каспорская, Алеся Ярунічава.

Гэтыя таленавітыя музыкі і спевакі сёння робяць неверагоднае - дораць праз сваю творчасць, любоў да роднага краю тысячам слухачоў, напаўняючы душы і розумы роднай народнай беларускай музыкай і песняй.

Кіраўніцтва горада з нагоды юбілейнай даты, а





таксама да 700-годдзя горада Ліды падарыла сертыфікат на набыццё новых касцюмаў для ансамбля! Гэтая падзея вельмі значная для калектыва і ўнясе новыя фарбы ў яго творчую дзейнасць. "Гудскі гармонік" у хуткім часе, на святе да 700-годдзя горада Ліды 1-га - 2-га верасня ў Лідзе выступаў у новых касцюмах!

Павіншавалі юбіляраў Адміністрацыя дзяржаўнай установы культуры "Гарадзенскі абласны метадычны цэнтр народнай творчасці", Адміністрацыя дзяржаўнай установы "Лідскі раённы цэнтр культуры і народнай творчасці" ды калегі па твочым цэху - народны сямейны ансамбль Парфенчыкаў "Мы з вёскі-калыскі" Бердаўскага культурна-досугавага цэнтра, кіраўнік ансамбля Аляксандр Парфенчык, а таксама народны ансамбль бытавых інструментаў "Каханачка" з Мажэйкаўскага Дома культуры, кіраўнік Людміла Масевіч.

Ансамбль "Гудскі гармонік" - пастаянны ўдзельнік раённых, абласных, рэспубліканскіх фестываляў і конкурсаў. Калектыў ведаюць і любяць у аддаленых кутках нашага раёна і вобласці. "Гудскі гармонік" выступаў у Менску, Гомелі, Віцебску, Гародні, Скідзелі, Воранаве, Дзятлаве, Слоніме, Паставах, а таксама ў суседніх краінах - Польшчы і Літве.

Ансамбль народнай музыкі і песні "Гудскі гармонік" мае наступныя ўзнагароды:

Дыплом І ступені IV абласнога фэсту народнай музыкі "Зайграйце, музыкі!" (г. Ліда, Беларусь, 2005 г.);

Дыплом І ступені VII абласнога фэсту народнай музыкі "Зайграйце, музыкі!" (г. Ліда, Беларусь, 2011 г.);

Дыплом І ступені агляду-конкурсу калектываў народнай музыкі на XI рэспубліканскім фэсце нацыянальных культур (г. Гародня, Беларусь, 2016 г.);



Дыплом II ступені VIII абласнога фэсту народнай музыкі "Зайграйце, музыкі!" (г. Ліда, Беларусь, 2017 г.);

Дыплом III ступені рэспубліканскага фэсту "Грай, гармонік" (г. Менск, Беларусь,1996 г.).

Калектыў таксама з'яўляецца дыпламантам Міжнароднага фэсту нацыянальных культур "Родныя вытокі" (г. Клайпеда, Літва, 2009 г.), Міжнароднага фэсту фальклору "Ля возера" (г. Трокі, Літва, 2011 г.), Міжнароднага фэсту фальклору (г. Нерынга, Літва, 2012 г.), Міжнароднага фэсту "Артыстычныя сустрэчы "Беласток - Гародня" (г. Беласток, Польшча, 2013, 2015, 2017 г.г.).








"Гудскі Гармонік" - гэта адна сям'я. Тут аб'ядналіся людзі розных прафесій, рознага ўзросту, розных характараў. Але ўсіх іх вабіць народная музыка і песня. І хочацца сказаць усім удзельнікам словы ўдзячнасці за адданасць народнай творчасці.

Дзякуй вам, шаноўныя, за вашу адданасць музычнаму мастацтву, любімай справе і калектыву.

***Яраслаў Грынкевіч.***

# Ярчэй за "Забавушку" толькі... зоркі

Сёлета аднаму з самых зыркіх творчых калектываў горада Ліды - ансамблю "Забавушка", які дзейнічае на базе харэаграфічнага аддзялення Лідскай дзіцячай школы мастацтваў, - споўнілася 15 гадоў. А таксама "Забавушка" ў чарговы раз пацвердзіла званне "Узорны". Мы вырашылі трохі распавесці пра жыццё танцавальнага калектыва, слава якога грыміць не толькі ў Лідскім раёне, але і за яго межамі. Пра тое, як праходзіць навучанне, дзе ўдзельнікі ансамбля выступаюць, як праводзяць час, мы пагаварылі з загадчыцай харэаграфічнага аддзялення і настаўнікам вышэйшай катэгорыі Святланай Паўлюковай, якая выкладае харэаграфію ўжо больш за 20 гадоў.



**Амаль як у школе, толькі лепш**

Як і ў агульнаадукацыйных школах, у Лідскай дзіцячай школе мастацтваў да навучання ставяцца сур'ёзна. Будучыя майстры танцу вучацца, ні многа - ні мала, сем гадоў. Школа працуе ў дзве змены: ранішнюю і вячэрнюю. У навучэнцаў ёсць нават дзённікі, у якіх выкладчыкі выстаўляюць адзнакі за паспяховасць. А ў канцы кожнага навучальнага года здаецца іспыт. Па заканчэнні сямі гадоў усіх вучняў чакае галоўнае выпрабаванне - выніковы дзяржаўны іспыт, дзе дзеці перад камісіяй паказваюць, чаму яны навучыліся за ўсе гады. Пры паспяховай здачы дзяржэкзамена дзеці атрымліваюць пасведчанне пра заканчэнне школы мастацтваў.



Аднак на гэтым падабенства са звычайнай школай заканчаецца. Гэта на першы погляд усё выглядае вельмі сур'ёзна. Насамрэч у танцавальных класах, на падмостках і за кулісамі іншая атмасфера. Святлана Паўлюкова распавяла, што выкладчыкі-харэографы (а іх разам з ёй пяцёра: яна, Наталля Валюшкевіч, Ірына Бабарына, Паліна Дарашэнка, Дар'я Мармыш) з дзецьмі праводзяць шмат часу. "Калі нехта прыйшоў у дрэнным настроі ці нечым збянтэжаны, мы адразу ідзём дазнавацца, што такое", - адзначае педагог. Да навучэнцаў



выкладчыкі ставяцца, не проста як да вучняў, а як да сваіх родных дзяцей: разам танчаць, разам падарожнічаюць, разам адпачываюць.

Вучні і выкладчыкі харэаграфічнага аддзялення - гэта сапраўды адна вялікая сям'я. Усяго танцам навучаецца амаль дзвесце чалавек, з іх больш за сто выступае ў "Забавушцы". Святлана Паўлюкова падзялілася, што з пачатку новага навучальнага года ў школе мастацтваў стане на 55 танцораў больш.

**Самыя зыркія і харызматычныя**

У праграме навучання харэаграфічнага аддзялення - класічны танец, сучасная харэаграфія, партэрная гімнастыка, народны танец, гістарычна-побытавы танец і многае іншае. Таксама выкладчыкі вучаць вучняў не баяцца сцэны. У жыцці танцора, а таксама музыкі ці акцёра гэта вельмі важна, бо ім даводзіцца выступаць перад сотнямі гледачоў. І менавіта адвага і ўпэўненасць у сабе дазваляюць творчаму духу танцора раскрыцца цалкам. "Аднойчы ў Аўстрыі мы ішлі па плошчы і бачылі, што на ёй шмат людзей. Шмат - гэта добра! У нас была музычная калонка. Я дзецям кажу: "Давайце танчыць". І мы без сарамлівасці пачалі", - успомніла Святлана. Акрамя гэтага, надаецца ўвага фізічнаму і маральнаму развіццю вучняў.

Менавіта таму, што ўсе танцоры харэаграфічнага аддзялення і ў прыватнасці "Забавушкі" ярчэй за ўсіх, без іх не абходзяцца практычна ніводнае мерапрыемства ў нашым горадзе і ніводнае свята. Выразнасць выканання юных артыстаў чаруе і захапляе. Пасля кожнага выступу танцоры атрымліваюць захопленыя водгукі неабыякавых гледачоў. Святлана Паўлюкова распавяла, што іх калектыў заўсёды гатовы ўпрыгожыць яркімі танцавальнымі нумарамі канцэртныя праграмы і браў удзел у розных мерапрыемствах, прысвечаных прафесійным святам. Новы год і Дзень Незалежнасці Рэспублікі Беларусь наогул не абмяркоўваюцца, ды і да 700-годдзя Ліды дзеці падрыхтавалі яркія танцавальныя нумары. А яшчэ "Забавушка" - удзельнік тэлепраекта АНТ "Таленты краіны".



**"Забавушку" ведаюць не толькі на радзіме**

Але не толькі ў Лідзе чакаюць новых выступаў "Забавушкі". У Менск і Гародню ўжо пракладзена шырокая дарога. Зрэшты, не толькі беларусам цікава паглядзець на лідскіх танцораў. "Мы вельмі шмат ездзім. Былі ў Германіі, Аўстрыі, Польшчы, Літве, Расіі. Два гады назад атрымалася наведаць і Францыю. Усё магло адмяніцца, бо ў Кітаі на той момант бушавала "карона", але бацькі вучняў настаялі на тым, што такі шанец упускаць нельга", - распавяла выкладчык. Узорны ансамбль танцу "Забавушка" ганараваўся шматлікімі высокімі ўзнагародамі як рэспубліканскіх, так і міжнародных конкурсаў і фэстаў.



Дарэчы, Лідская дзіцячая школа мастацтваў увесь час падтрымлівае сувязь з менскімі турагенцтвамі, якія прадстаўляюць творчаму калектыву канцэртныя паездкі.

**У тым ліку і падарожная ў жыццё**

Навучанне на харэаграфічным аддзяленні для навучэнцаў не праходзіць бясследна. Танцы могуць стаць будучай прафесіяй. Так, дзве выпускніцы школы мастацтваў адвучыліся ў Гарадзенскім каледжы і вярнуліся ў калектыў маладымі спецыялістамі. Аднак танцорам Лідскай дзіцячай школы мастацтваў адкрыты шлях не толькі ў родную гавань. Па словах Святланы Паўлюковай, ёсць прыклады, калі лідзяне, якія скончылі школу мастацтваў, а потым каледж, адкрываюць свае танцавальныя студыі, уладкоўваюцца на працу ў Гарадзенскі дзяржаўны ансамбль танцу і песні "Белыя росы", іншым набытыя навыкі прыдаюцца ў школе ці ўніверсітэце (дзяўчынкі нават самі ставяць танцы на выпускных вечарах).

Вялікі ўнёсак "Забавушкі" ў культурнае жыццё Ліды і ўсяго раёна высока ацэнены мясцовай уладай: на 15-годдзе ўзорнага калектыва Лідскі раённы выканаўчы камітэт падарыў сертыфікат на суму 46800 рублёў на набыццё сцэнічных касцюмаў.

***Кастусь Марціновіч.***
***Фота Наталлі Валюшкевіч.***

*Леанід Лаўрэш*

# Дзе і што археолагам шукаць у Лідзе

Мы дакладна ведаем, што Тэадор Нарбут вывучаў і бараніў Лідскі замак ад варварскага руйнавання, верагодна, ён і быў першым у гэтай справе. Пасля Нарбута наш замак усебакова вывучалі Вандалін Шукевіч, кс. Казіцкі, Вацлаў Студніцкі, Пётр Пакрышкін, др. Лорэнц і інш. Граф Яўстах Тышкевіч першым вызначыў, што замкі ў Лідзе, Крэве, Гальшанах, Міры па сваім тыпажы блізкія да заходнееўрапейскіх.

У непасрэднай блізкасці ад замка жыў і кожны дзень яго бачыў лепшы лідскі гісторык XX ст. Міхал Шымялевіч. У маёй калекцыі ёсць скан здымка Лідскага замка з асабістага архіва Міхалам Шымялевічам, здымак зроблены каля дома гісторыка і, магчыма, менавіта ён і з'яўляецца аўтарам здымка. Вядома, што Шымялевіч цікавіўся замкам, і таму першы з яго грунтоўных артыкулаў меў назву "Горад Ліда і Лідскі замак" [1]. Вядома, што ўвесь яго неверагоднай каштоўнасці архіў і рукапісы загінулі і мы не можам нават прыблізна ацаніць каштоўнасць, якую страцілі і якія веды пра замак і Лідчыну прапалі назаўсёды.

Шурфоўка Міхасём Ткачовым у 1970 г. тэрыторыі Лідскага замка паказала, што ён збудаваны на штучнай падсыпцы з пяску, жвіру і камянёў і напачатку меў толькі адну вежу. У 1974 г. Яраслаў Звяруга па перыметры двара Лідскага замка зрабіў 12 шурфоў[2].

У 1977-1978, а таксама ў 1980 і 1985 гг. раскопкі ў замку праводзіў Алег Трусаў. У 1977 г. былі цалкам ускрыты рэшткі абедзвюх вежаў, знойдзены астаткі некаторых драўляных пабудоў на замкавым двары, вызначана месца, адкуль пачынаўся роў перад паўночнай замкавай сцяной. Усе археалагічныя і рэстаўрацыйныя работы выконвалі студэнты будаўнічага атрада імя У. І. Пічэты (першага рэктара БДУ), сфармаванага на гістарычным факультэце ўніверсітэта[3].

У 1982 г. на базе архітэктурна-археалагічнай экспедыцыі аб'яднання "Белрэстаўрацыя" пад кіраўніцтвам Алеся Краўцэвіча быў створаны атрад, які акрамя іншых месцаў, правёў раскопкі і ў Лідзе (1983, 1986-1987 гг.)

Фундаментальнай і таму настольнай кнігай для ўсіх аматараў археалогіі і гісторыі нашага края, з'яўляецца манаграфія Алеся Краўцэвіча "Гарады і замкі Беларускага Панямоння XIV-XVIII стст.: Планіроўка, культурны слой", выдадзеная ў 1991 г. З гэтай манаграфіі даведваемся, што ў Лідзе археолагамі ў розны час было зроблена 97 свідравін і вялікая колькасць шурфоў, дзякуючы чаму зараз мы маем інфармацыю пра таўшчыню культурнага слоя ў розных частках гістарычнага цэнтра нашага горада[4]. Было даследавана 3260 $м^2$ у замку і 34 $м^2$ у горадзе - у тым ліку ў раёне цэнтральнай плошчы горада - тут археолагі знайшлі два культурныя пласты: светла-шэры, таўшчынёй 0,4 - 0,5 м з керамікай XVIII-XX ст. і цёмна шэры, таўшчынёй 1 - 1,2 м з бітай цэглы і вапны. У гэтым пласце выяўлена каменная брукоўка і адразу пад ёй знойдзены фрагменты керамікі і кафлі XVII ст. Ніжняя частка гэтага цёмна-шэрага слою датуецца керамікай XVI ст.[5] Цікава, што сярод вялікай колькасці пляцовак у



***Фотаздымак Лідскага замка з архіва Міхала Шымялевіча, здымак зроблены прыкладна з таго месца, дзе стаяў дом лепшага гісторыка Лідчыны XX ст. Зараз знаходзіцца ў архіве яго праўнучкі Крысціны Лабэйкі-Быры з Уроцлава.***

---

[1] Гл: Шимелевич М. Город Лида и Лидский замок // Виленский календарь. Вильно, 1906. С. 37-57.

[2] Краўцэвіч Алесь, Трусаў Алег. Знаходкі ў Лідскім замку // Спадчына. 1991. № 5 С. 57-61.

[3] Трусаў Алег Мінулае і сучаснасць Лідскага замка // Лідскі летапісец. 2007. №2(38). С. 26.

[4] Краўцэвіч А.К. Гарады і замкі Беларускага Панямоння XIV-XVIII стст.: Планіроўка, культурны слой. Мінск, 1991. С. 35.

[5] Там жа. С. 47-48.

нашым горадзе, дзе праводзіліся раскопкі і бурэнні, беларускія археолагі праводзілі раскопкі на дзвюх пляцоўках, якія знаходзяцца прыкладна за 100 м ад "Ліды Нарбута" [6].

Такім чынам гісторыя археалагічнага вывучэння Лідскага замка і горада Ліды мае ўжо працяглую, паважную і ў нечым павучальную гісторыю, можна з упэўненасцю сказаць, што археалагічнае вывучэнне нашага горада абавязкова працоўжыцца.

Мэта гэтага артыкула - зрабіць для будучых даследчыкаў спіс найбольш цікавых гістарычных аб'ектаў з указаннем іх дакладных геаграфічных каардынатаў, каб у будучыні ўжо немагчыма было страціць іх месцазнаходжанне. Гэтыя геаграфічныя каардынаты могуць выкарыстоўвацца любым чынам, нават на звычайнай папяровай карце, але, каб карыстальнікам было зручна, яны падаюцца ў фармаце гугль-карт - калі каардынаты ўвесці ў пошукавае вакенца гэтай сістэмы, месцазнаходжанне неабходнага аб'екта адразу будзе паказана на карце гэтай сістэмы.

Метадам вызначэння месцазнаходжання гістарычных аб'ектаў у нашым горадзе, якім я карыстаюся ўжо шмат гадоў, з'яўляецца метад накладання старых аэрафотаздымкаў на сучасную спадарожнікавую гугль-карту. Магчымую памылку вызначэння каардынат пры такім метадзе можна ацаніць як плюс-мінус 10 м, што дастаткова, каб знайсці гістарычны аб'ект памерам ў вялікі будынак.

На пачатку некалькі слоў пра археалагічныя раскопкі ў нашым горадзе, якія прайшлі ў ліпені 2023 г.

Зняўшы на месцы каардынаты месца раскопак лета 2023 г., мне засталося толькі вызначыць гэтую кропку на гугль-карце і падрэгуляваць празрыстасць слаёў у фоташопе на двухслойнай карце. Так было высветлена, што раскоп патрапіў на невялікую пабудову ад якой ў ліпені 1941 г. засталіся толькі падмуркі - якраз яны і былі знойдзены. Драўляныя сцены гэтага будынка згарэлі, у той час, як усе суседнія з гэтай пабудовай мураваныя сцены без выгараўшых перакрыццяў яшчэ стаяць. Нагадаю, што згарэўшы цэнтр Ліды потым быў разабраны на цэглу яўрэямі Лідскага гета недзе да траўня 1942 г.

Можа выказаць гіпотэзу, што гэтым летам былі адкапаныя падмуркі кухні, якая стаяла за 4-м домам (калі лічыць ад поўначы) на заходнім баку Рынкавай плошчы. Цікавым на гэтых раскопках была знаходка вялікай колькасці костак, сярод якіх былі і свіныя. Гэта можа казаць пра хрысціянскае веравызнанне гаспадара дома. Найверагодней, што драўляны будынак, падмуркі якога былі ўскрыты, з'яўляўся летняй кухняй. Дадам, што ў той час з-за павышанай пажарнай небяспекі, усе больш-менш заможныя гаспадары заўсёды мелі вось такія кухні, вынесеныя на небяспечную адлегласць ад жылога дома.

Капаючы тут, каля былой Рыначнай плошчы ці ў любым месцы старога горада, можна знайсці безліч падмуркаў, будаўнічага друзу і парэшткаў бытавых рэчаў.

По расказах старых лідзян, якія я ўважліва слухаў і занатоўваў больш за 30 гадоў таму, ведаю, што падчас будаўніцтва гмаху, раней вядомага ў Лідзе пад назвай "Дом афіцэраў", былі ўскрыты падвалы некаторых дамоў першай лініі заходняй часткі старога гарадскога рынка. Па сутнасці, кожны такі дом, які стаяў на самым удалым для бізнесу, месцы горада, з'яўляўся магутным гандлёвым прадпрыемствам. З моманту, калі яны паўсталі пасля пажару ў канцы XIX ст., гэтыя дамы ўвесь час будаваліся, перабудоўваліся і ўдасканальваліся. Таму, калі недзе да мая 1942 г. сцены гэтых дамоў былі разабраны і месца, дзе яны стаялі, з большага было засыпаны друзам, дык магутныя падвалы засталіся некранутымі. Прыкладна праз 20 гадоў, пасля ўскрыцця падвалаў, усім на дзіва і на радасць гараджан, змучаных адсутнасцю ў крамах усяго неабходнага, у падвалах у адносна добрым стане ляжалі тавары, і не толькі нешта накшталт посуду, але нават і рулоны з тканінай! Вызначыць, дзе раней стаялі гэтыя дамы, не складана, і, магчыма, падмуркі хоць аднаго з іх засталіся некранутыя да нашага часу. Але знайсці ў іх можна прыкладна тое самае, што было знойдзена летам 2023 г., тое ж, што ёсць, практычна, на кожным метры старога горада - будаўнічы друз, аскепкі посуду, відэльцы, нажы і г.д. Як карэнны жыхар нашага горада, я ведаю гэта з асабістага вопыту.



***Будаўніцтва "Дома афіцэраў" у завяршальнай стадыі***

[6] Гл. карту: Краўцэвіч А.К. Гарады і замкі Беларускага Панямоння XIV-XVIII стст.: Планіроўка, культурны слой. Мінск, 1991. С. 36.







***Аэрафотаздыкі цэнтра Ліды, лета 1941 г.***
*1 - Аб'ект, які быў раскапаны ўлетку 2023 г. Сцены будынка згарэлі, застаўся толькі падмурак. 2 - Вялікая лідская сінагога. 3 - Галоўная (рынкавая) плошча горада. 4 - Вуліца Садовая. 5 - Вуліца Віленская (Савецкая). 6 - Дом Віленская, 42. Зараз тут былы кінатэатр "Кастрычнік", Савецкая, 12. 7 - Іешыва Рэйнеса. 8 - Месца, дзе стаяла апошняя лідская ратуша. (Увага, на здымках поўнач - унізе.)*

Далей я апішу магчымыя ў будучыні месцы раскопак, музеефікацыя якіх магла б прынесці карысць гораду з-за павялічэння патоку турыстаў.

**"Ліда Нарбута"** 1180 г. Неверагодна цікавай і карыснай справай магла б стаць знаходка старой Ліды, якую ўмоўна можна назваць "Лідай Нарбута" 1180 г. Мне ўдалося дакладна вылічыць месцазнаходжанне гэтага старажытнага паселішча, якое, на жаль знаходзіцца ў цалкам урбанізаванай зоне нашага горада[7]. Таму на першы час тут можна было б абысціся толькі памятным знакам, які дазволіў бы ў перспектыве вярнуцца да больш рэальнай даты заснавання горада Ліды - 1180 г. А покуль ролю такога памятнага знака выконвае вядомы ўсім лідзянам знак "Люблю Ліду", які стаіць прыкладна каля паўночнай мяжы старога гарадзішча.

Каардынаты меркаванага цэнтра гэтага старажытнага паселішча: 53.89506085696649, 25.293034591800847.

**Вялікая лідская сінагога і іешыва Рэйнеса**. Зусім блізка ад месца раскопак 2023 г. - недзе за 50 метраў на поўнач, стаялі іешыва Рэйнеса і галоўная Лідская сінагога - вельмі важныя і цікавыя аб'екты, месцазнаходжанне якіх вядома і іх пляцоўкі на шчасце сёння не забудаваныя. Патрэбна было б праз шурфоўку даведацца ці засталіся ў зямлі фундаменты гэтых гмахаў, і калі яны засталіся, дык трэба было б планаваць цікавыя і карысныя для горада раскопкі.

У Беларусі комплекс сінагога-іешыва, заўсёды меў назву Школьны двор. Лідскі Школьны двор з поўдня выходзіў на Рыначную плошчу, з дакументаў вядома, што прыбіраў рынак і Школьны двор адзін і той жа двор-



***Фотаздымак зроблены нямецкім жаўнерам у 1917 г. прыкладна з таго месца, дзе знаходзілася "Ліда Нарбута". На здымку бачна царква св. Міхала (злева) і сінагона (справа)***

[7] Гл: Лаўрэш Леанід. Яшчэ раз пра "Ліду Тэадора Нарбута" // Наша слова.pdf. 25 ліпеня 2023.

нік. З дакументаў таксама бачна, што Школьны двор існаваў у Лідзе як мінімум з XVII ст., ёсць ён і на карце горада канца XVIII ст. У 1843 г. пажар, які распачаўся з яўрэйскай лазні, знішчыў увесь Школьны двор, частку дамоў Рынкавай плошчы і ўсю вуліцу Віленскую. Пажар 1891 г. зноў знішчыў Школьны двор і амаль што ўвесь горад. Згарэла тады і старая сінагога, якая існавала і выкарыстоўвалася па прызначэнні каля 300 гадоў. Таму, магчыма, у больш глыбокіх культурных слаях, чакаюць археолагаў і яе падмуркі.

Новая мураваная лідская сінагога была пабудавана тут у 1896 г. у неамаўрытанскім стылі. Адным радком трэба заўважыць, што неамаўрытанскі стыль знаходзіўся ў рэчышчы эклектыкі XIX - пачатку XX ст., ён з'явіўся на хвалі пошукаў ідэнтычнасці і, канешне ж, не быў аўтэнтычнай маўрытанікай, якая будавалася ў Сярэднявеччы.

Новая лідская сінагога ўяўляла сабой двухпавярховы прамавугольнік памерамі 23 х 28 м і вышынёй у 30 метраў са сценамі мятровай таўшчыні. Будавалі Вялікую лідскую сінагогу 4 гады, будаўніцтва было завершана ў жніўні 1896 г., а набажэнства дазволена распачаць у снежні 1896 г. Зімой 1941-42 гг. па распараджэнні гебітскамісара Ханвега згарэўшая ў 1941 г. сінагога была цалкам разабрана. Будаўнічае смецце пайшло на адсыпку дарогі па забалочаным участку будучай вуліцы Міцкевіча ад сучаснага праспекта Перамогі да вуліцы Савецкай (гэтага ўчастка вуліцы Міцкевіч тады яшчэ не было)[8].

Вялікую павагу і вядомасць меў лідскі равін Рэйнес і яго **іешыва**. Не забыты Рэйнес і сёння.

Калі б удалося раскапаць падмуркі іешывы Рэйнеса і галоўнай Лідскай сінагогі, а потым належным чынам правесці музеефікацыю гэтых аб'ектаў, дык без сумневу гэта выклікала бы вялікую цікаўнасць турыстаў і дала б дадатковыя грошы ў бюджэт горада.

Каардынаты сінагогі: 53.8928919606208, 25.301384562036507

Каардынаты іешывы: 53.892712249057396, 25.301293124323667

**Кляштар піяраў**. На тэрыторыю, дзе сёння стаіць Лідскі каледж пры Гарадзенскім універсітэце, раней з поўначы заходзіла крыло кляштара піяраў, у якім месцілася вучэльня. Пасля 1863 г. касцёл і кляштар быў перададзены пад праваслаўную царкву, і ў выніку перабудовы было знесена гэтае ўсходняе крыло будынка. Але, магчыма, на тэрыторыі каледжа падмуркі захаваліся і да нашага часу[9].

Піяры ў свой час зрабілі велічэзны ўнёсак у справу адукацыі на Лідчыне.

Каардынаты кляштара: 53.89353051340163, 25.303833938287244

**Царква Арханёла Міхала.** Тут жа, каля сучаснай царквы Арханёла Міхала (былога касцёла піяраў), як найменей з першай паловы XVII ст. стаяла ўніяцкая (грэка-каталіцкая) царква Св. Мікалая. У дакументах канца XVIII ст. на месцы былой царквы Св. Мікалая мы бачым ужо новую царкву пад тытулам Міхала Арханёла. Абедзве гэтыя цэрквы былі драўляныя. Вядома, што царква Міхала Арханёла была пабудаваная ў форме крыжа, каля яе меўся шпіталь і пабудовы плябаніі: хата святара з каморай, пякарня, клець (амбар), гумно, хлеў. Пры капітальным рамонце вуліцы Сувальскай (зараз - Савецкай) і пракладцы тэлефонных кабеляў новай у той час пошты па вуліцы Міцкевіча (якая тады яшчэ толькі будавалася), у 1937 г. тут знайшлі парэшткі XVIII ст. *"лідскіх месцічаў, якія былі пахаваны на могілках пры ўніяцкай царкве, якая згарэла ў першай палове XVIII ст"*, - тут маецца на ўвазе царква св. Мікалая. А калі знікла царква Міхала Арханёла, невядома, але на карце горада 1842 г. яе ўжо няма. Зараз там, дзе стаялі ўніяцкія цэрквы са шпіталем, плябаніяй, знаходзіцца паўночнае крыло будынка лідскага каледжа[10]. Могілкі ж, верагодна, займалі пляц бліжэйшы да галоўнай вуліцы горада.

Каардынаты царквы: 53.89332136298254, 25.303711884679984

Іншая грэка-каталіцкая **Прачысценская царква** ў Лідзе знаходзілася ў раёне горада, які меў гістарычную назву Зарэчча (зараз - раён вул. Калініна). Тут яна месцілася, прыкладна з першай паловы XVII ст. і, зразумела, што на гэтым месцы па-чарзе стаялі некалькі драўляных цэркваў. Як і належыць, каля царквы меліся могілкі, і чалавечыя косткі тут знаходзіліся яшчэ ў XX ст.

Міхал Шымялевіч паведамляў пра гэтую царкву, што ў купчай, якой быў афармлены продаж 7 красавіка 1630 г. лідскім мешчанінам Лаўрынам Паўлавічам Казюковічам сваёй зямлі і хаты Мацею Вайцяховічу і яго жонцы Парасе Фёдараўне, згадваецца Фёдар Грыняveцкі, святар храмаў Божых у горадзе Лідзе - у імя Прачыстай і Святога Мікалая: *"Chwiedor Hryniewiecki swieszczennik domu Bozego Przyczystey y swietego Mikolaya w Lidzkiem miescie stojacych"*, - заўважу, што гэта тэкст напісаны беларускай мовай на лацінцы. Пры апісанні межаў пляца ў купчай ясна ўказана месцазнаходжанне Прачысценскай царквы: *"Іншым жа канцом да самой вуліцы, якая ідзе з горада Ліда на Дуброўну і Ліпнішкі, ідучы гэтаю вуліцай па дарозе з г. Ліды ад рынка і ад замка да Прачысценскай царквы па правай руцэ"*. З гэтага бачна, што Прачысценская царква размяшчалася на тым месцы, дзе, як пісаў Шымялевіч, на пачатку XX ст. знаходзілася *"хатка Каліноўскага на Зарэччы"*[11].

Лідзянін XIX ст. Нікадзім Сегень пабудаваў дом недалёка ад былой Прачысценскай царквы, ён гэтак апісаў сваё наваколле: *"Сырасць Дзяканкі, відаць*, непа-

[8] Падрабязней гл: Лаўрэш Л. Л. Шпацыры па старой Лідзе. Гродна, 2020. С. 123-124.

[9] Падрабязней гл: Лаўрэш Л. Л. Шпацыры па старой Лідзе. Гродна, 2020. С. 139-145.

[10] Там жа. С. 126-128.

[11] Гл: Лаўрэш Леанід. Лідскія цэрквы да 1939 г. // Лідскі Летапісец. 2014. № 4 (68). С. 63-79

коіла Нікадзіма (тут стаяў ранейшы дом Сегеняў - *Л.Л.*), *бо ён купіў кавалак сухой пясчанай зямлі на так званай "Горцы". Гэтыя землі нядаўна былі далучаны да гарадскога раёна "Зарэчча". Да гэтага, тут, на "Горцы", доўгі час мелася пляцоўка для вывучкі казакоў, якія стаялі ў горадзе.*




***Від з Зарэчча на Фарны касцёл. Гэтая нізіна паміж дамамі і касцёлам была часткай Дзяканкі, земляў, якія ў свой час належалі лідскаму дзякану***

*У яшчэ ранейшыя часы на "Горцы" мусілі быць могілкі, бо там (у значнай глыбіні) часта выкопваліся чалавечыя косткі.*

*Набыты Нікадзімам участак зямлі прылягаў да дзвюх яшчэ нядаўна пазначаных вуліц: Мастоўскай (былая дарога на хутар Мастоўшчына*[12]*) і Гарыстай, якая вяла ад млына да дарогі "на Ліпнішкі"* (зараз перакрыжаванне вуліц Чарнышэўскага і Стралкоўскага - *Л.Л.*). *Ля падножжа замка размяшчаўся вадзяны млын з вялікай сажалкай. Вуглавое размяшчэнне пляца пад дом Нікадзіма было вельмі зручным для будучага падзелу дома паміж дзецьмі, бо дазваляла кожнаму мець добрую будаўнічую пляцоўку з выхадам на вуліцу.*

*У вуглавой частцы пляца быў пабудаваны першы дом, пазней названы "старым домам". Ён быў аддалены ад абедзвюх вуліц, фронтам выходзіў на вуліцу Мастоўскую, а ад вуліцы Гарыстай быў аддзелены фруктовым садам. Атрымалася была вялікая, драўляная хата пад саламяным дахам. Мела яна два самастойныя ўваходы ў дзве асобныя кватэры. Да тарца дома прыбудавалі "вазоўню", якая больш нагадвала ўніверсальны склад. Гаспадарчыя пабудовы складаліся з аднаго большага і некалькіх меншых хлявоў і "падвала". У адну з кватэр дома, якая складалася з двух пакояў, вялікай кухні і вялікай залы, меўся ўваход праз вялікі ганак. Другая кватэра з асобным уваходам складалася з жылога пакоя, кухні і вітальні..."* [13].

Вызначаныя сучасным метадам каардынаты Прачысценскай царквы: 53.886184832612535, 25.30730971739487.

Месцазнаходжанне **цэркваў Св. Яна і Св. Спаса,** якія таксама меліся ў Лідзе, не высветлена. Вядома толькі, што царква Св. Спаса знаходзілася недзе бліжэй да цэнтра горада. Улічваючы, што тая Ліда займала зусім маленькую тэрыторыю, ёсць шанец, можа, нават і выпадкова, знайсці падмуркі цэркваў ці, што больш верагодна, чалавечыя парэшткі на каляцаркоўных могілках.

Аднак, нягледзячы на бясконцыя раскопкі тэхнічных камунікацый у нашым горадзе, да нашага часу не знойдзена слядоў гэтых цэркваў і, асабліва, могілак каля іх, можна выказаць гіпотэзу, што цэрквы Св. Яна і Св. Спаса - гэта розныя, ранейшыя асвячэнні цэркваў, якія стаялі на месцы Прачысценскай царквы і цэркваў Св. Мікалая - Св. Міхала. Драўляныя цэрквы часта гарэлі і нават пасля адбудовы на тым жа самым (ці прыкладна на тым жа самым) месцы, маглі асвячацца па-іншаму. Гэта мы бачым на прыкладзе цэркваў Св. Мікалая - Св. Міхала *(гл. вышэй)*. Таму, магчыма, царква Св. Спаса стаяла на месцы цэркваў Св. Мікалая - Св. Міхала, а Св. Яна - на месцы Прачысценскай царквы. Для зусім невялікага ў той час горада, хапіла б і дзвюх цэркваў.

**Апошняя лідская ратуша.** Таксама зусім блізка ад месца раскопак 2023 г. стаяла апошняя лідская ратуша. Накладанне карты горада канца XVIII ст. на сучасную спадарожнікавую гугль-карту, паказвае, што контур ратушы, у асноўным, знаходзіцца пад сучасным домам № 13 і на прамежку паміж дамамі № 13 і № 11 вул. Савецкай (там дзе зараз працуе гульнявы цэнтр). Улічваючы, што месца вакол ратушы інтэнсіўна забудоўвалася пасля пажару 1891 г. (тады згарэла і сама ратуша), і другі раз тое самае рабілася з канца 1950-х гг., верагоднасць захавання падмуркаў ратушы, на жаль, вельмі малая.

Апошняя лідская ратуша, згарэўшая ў 1891 г., абазначана на карце, якая складзена ў канцы XVIII ст. пры ўдзеле вучняў піярскага калегіюма.

Накладанне гэтай карты на сучасны здымак гугль-карты я рабіў з пэўным скепсісам, бо ведаў, што ў гэтай справе даецца ў знакі нават аптычная хібнасць аб'ектываў, а тут карта, намаляваная ад рукі! Аднак атрыманыя вынікі перасягнулі ўсе мае чаканні. Карта была зроблена бездакорна - вымярэнне адлегласцяў і кутоў зроблена абсалютна дакладна - выбраныя мной апорныя кропкі - тры касцёлы (фарны, кармелітаў і піяраў) і перакрыжаванне вуліц Віленскай з Каменскай (Савецкай з Ленінскай) дакладна ляглі на свае месцы. Таму, хачу яшчэ раз сказаць некалькі слоў пра гэту цудоўную карту, з дапамогай якой я вызначыў каардынаты ратушы і дзвюх нашых цэркваў.

У малодшых класах піярскага калегіюма па некаторых прадметах меліся практычныя заняткі. Пад час візітацыі 6 чэрвеня 1785 г. прафесару геаметрыі ўказа-

[12] На ўсходняй ускраіне Зарэчча яшчэ ў першай палове XX-га ст. існаваў невялікі засценак "Мастоўшчына", потым ён стаў лічыцца фальваркам.

[13] Архіў аўтара.

на, *"каб вучыў геаметрыі на практыцы, на полі, разам з рысаваннем карт"*. Школьная рада 2 траўня 1791 г. вызначыла час землямернай практыкі. У рукапісе "Дзеі лідскіх піяраў" 25 лістапада 1797 г. запісана: *"Каморнік, прызначаны Літоўскім урадам вымяраць горад Ліду і зрабіць план, прасіў аб дапамозе студэнтаў. Сход настаўнікаў, зыходзячы з вялікай практычнай карысці для вучняў, якія вывучаюць геаметрыю, каб удасканаліцца ў гэтай навуцы, дазволіў. А таксама каб і настаўнікі хадзілі на тую практыку, аднак без занядбання школьных і кляштарных абавязкаў"*. Гэтак з дапамогай піяраў і з'явілася першая ў гісторыі, цудоўная карта нашага горада[14]. Дадам, што "геаметрыя" - у прамым перакладзе як раз і азначае "землямер'е".

Па шматлікіх прычынах, пералік якіх склаў бы вялікі артыкул, гарадскую ратушу абавязкова трэба аднавіць. Але з-за таго, што пляц, дзе стаяла лідская ратуша, забудаваны, нам трэба браць на ўзбраенне вопыт нашай сталіцы Менска, дзе з-за той жа прычыны, адноўленая ратуша зрабіла крок цераз вуліцу на вольнае ад забудовы месца. Адноўленай Лідскай ратушы таксама давядзецца пераступіць вуліцу Савецкую і стаяць на зараз свабодным пляцы за домам Савецкая, 16. Тут маецца вялікая пляцоўка, вольная ад забудовы, але трэба памятаць, што на гэтым месцы гарадская забудова існавала, недзе з XVI ст. (калі не раней), і перад аднаўленнем ратушы, гэтае месца патрабуе дэталёвага археалагічнага вывучэння! А знойдзеныя, па-сапраўднаму старажытныя рэчы (а не рэчы сярэдзіны XX ст.) маглі б упрыгожыць калекцыю нашай будучай ратушы.

Каардынаты апошняй ратушы нашага горада: 53.89222962259373, 25.3027088101095.

**Кляштар і касцёл кармелітаў.** Яшчэ адным цікавым месцам, дзе трэба весці раскопкі, з'яўляецца касцёл і кляштар кармелітаў.

Зараз прыкладна там, дзе стаяў кармеліцкі кляштар, знаходзіцца будынак музычнага каледжа, а на тым месцы, дзе быў касцёл кармелітаў, праходзіць паўдзённая праезджая частка вуліцы Ленінскай, таму для пошукаў тут трэба перакрываць дарожны рух. У гэтым месцы, пры пракладцы камунікацый, неаднаразова знаходзіліся парэшткі пахаванняў людзей, што не дзіва - мы добра ведаем, што вакол касцёла кармелітаў, як і належала ў той час, меліся могілкі.

Пры дабудове да сучаснага музычнага каледжа памяшкання спартыўнай залы былі ўскрыты магутныя лёхі былога кляштара са скляпеністай столлю - старая Ліда чарговы раз нагадала пра сябе[15] і можна спадзявацца, што падмуркі найцікавейшага лідскага гмаха XVIII ст. захаваліся, і тады пасля раскопак і ўскрыцця падмуркаў кляштара, патрэбна была б па-сапраўднаму




***Перспектыўныя археалагічныя аб'екты на сучаснай гугль-карце (спадарожнікавым здымку) Ліды старая "Ліда Нарбута" ў сучасным парку засталася па-за межамі гэтай карты). 2 - Вялікая лідская сінагога. 7 - Іешыва Рэйнеса. 8 - Месца, дзе стаяла апошняя лідская ратуша. 9 - Кляштар піяраў. 10 - Грэка-каталіцкая царква св. Мікалая, а потым царква Міхала Арханёла. 11 - Прачысценская грэка-каталіцкая царква. 12 - Кляштар кармелітаў. 13 - Касцёл кармелітаў***

крэатыўная ідэя, як уладкаваць гэты найважнейшы археалагічнага аб'ект, які бясспрэчна выклікаў бы вялікую цікаўнасць у турыстаў.

Каардынаты касцёла кармелітаў - 53.8902029730584, 25.302287950056257.

Каардынаты кляштара кармелітаў - 53.88971617458282, 25.301914047661725.

[14] Гл: Лаўрэш Л.Л. Інстынкт пазнання. Нарысы з гісторыі адукацыі ў горадзе Ліда. Гродна, 2023. С. 21.

[15] Падрабязней гл: Лаўрэш Л. Л. Шпацыры па старой Лідзе. Гродна, 2020. С. 92-97.

*Леанід Лаўрэш*

# Пісьменнік Юзаф Мацкевіч пра магілу Алаізы Пашкевіч у газеце "Слова", 1938 г. і яшчэ трошкі пра сям'ю Алаізы

Раз за разам вяртаючыся да заходнебеларускай прэсы, выпадкова знайшоў наступную зацемку ў газеце "Беларускі фронт":

*"**Яшчэ аб памятніку па Цётцы.***

*У справе памятніка ў сакавіку зьмясьціла вялікі рэпартаж "Slowo" (7.03) пяра Язэпа Мацкевіча, каторы быў на месцы і грунтоўна зазнаёміўся з справай. Аказваецца, што памятнік, які меў беларускі напіс, некаму не падабаўся. Каму - трудна згадаць - піша Я. М., можа старасьце, можа паліцыянту, каморніку, войту - і ў рэзультаце прышла ў гміну папера ад шчучынскага старасты: памятнік у працягу трох дзён павінен быць зьнесены. Гэтакую апінію выдаў кансэрватарскі ўрад, бо быццам памятнік не эстэтычны...*

*Гэтак піша "Slowo". Ад сябе адзначым, што цяпер, калі ў абарону выступіла "Slowo", магчыма памятнік ня будзе зьнесены. Калі б гэтак сталася, "Slowu" належыцца падзяка ад бел. грамадзянства. …"*

*Беларускі фронт. 1938. № 4 (26), 5 красавіка.*

Потым пашукаў і знайшоў яшчэ і наступныя зацемкі:

*"**У справе помніка Цёткі.***

*У прошлым годзе ў фальварку Стары двор Шчучынскага павета, быў пастаўлены помнік Цётцы, беларускай паэтцы, над яе магілай. Памятнік паставіла сястра Цёткі. Даведаўшыся, што лёс гэтага памятніка цяпер няпэўны …"*

*Chryscijanskaja Dumka, № 5 (153), 20 лютага 1938.*

*"**Сумныя весткі аб памятніку Цёткі.***

*У мінулым годзе ў Старым Двары (Шчучынскі павет) беларускай вядомай паэтке Цётцы, сястра яе паставіла помнік з адпаведным беларускім надпісам … ходзяць чуткі, што кансерватарская ўправа дамагаецца, каб памятнік гэты быў зняты …"*

*Шлях Моладзі. № 6 (122), 26 лютага 1938.*

Я адразу пачаў чытаць нумар "Слова" з артыкулам пісьменніка Юзафа Мацкевіча (які праз нейкі час стане агульнавядомым, славутым пісьменнікам) і зразумеў, чаму не звярнуў на яго ўвагу раней - у артыкуле ні разу не згадваецца, чый гэта помнік. Ні разу.

Трошкі ніжэй падаю пераклад артыкула з невялікімі скаротамі. У артыкуле шмат цікавых фактаў пра старэйшую сястру Алаізы Кайрыс з Пашкевіч (Цёткі) - Стэфанію Сапоцьку (1860 г.н.)[1].

Вядома, што Стэфанія, вучылася ў Гародні на агранома. Яна не вельмі спачувала поглядам малодшай сястры Алаізы, яна была выхаваная на польскі манер і хацела заставацца полькаю, а палітыкі наогул не разумела і не хацела ў яе ўмешвацца. З артыкула Юзафа Мацкевіча, даведваемся, што Стэфанія была актывісткай руху патаемных польскіх школ. А яе малодшая сястра Алаіза ў той самы час усе свае сілы паклала на арганізацыю сярод сялянскіх дзяцей патаемных беларускіх школ. У 1911-1914 гг. на ўскраіне Вільні, у Нова-Вілейцы, каля станцый Яшуны і Беняконі на Лідчыне, а таксама на радзіме Цёткі пад Васілішкамі дзейнічалі патайныя беларускія школы. Дзейнічалі яны і ў іншых кутках Лідчыны.

Шмат работы ўклала Цётка ў арганізацыю беларускага дзіцячага прытулку ў Менску, а калі скончыліся грошы на яго ўтрыманне, дык частку дзяцей-сірот, Алаіза адправіла на сваю радзіму, у Стары Двор, пад апеку старэйшай сястры Стэфаніі. І старэйшая сястра трымала іх на сваім харчаванні, вучыла роднай беларускай мове .

Лепшы лідскі гісторык XX ст. Міхал Шымялевіч, паведаміў, што ў 1940 г. старэйшая сястра Алаізы Пашкевіч ва ўзросце 80 гадоў была выслана ў Палудзенскі раён Казахстана. Шымялевіч - сябар Таварыства беларускай школы - быў добра абазнаны ў беларускай культуры, ён пісаў: *"Стэфанія паходзіць з ваколіцы Пешчын Васілішскай гміны, з дому Пашкевіч. Была замужам за Сапоцькам у фальварку Шымкаўшчына Сабакінскай гміны. Удава. Яе малодшая сястра Алаіза Пашкевіч, у замустве Кайрыс, знаная беларуская паэтка з псеўданімам "Цётка" з віленскіх "Нашай Долі" і "Нашай Нівы", якая памерла ў часы Першай сусветнай вайны".* Маючы больш за 80 гадоў, тым не менш Стэфанія Сапоцька ў ссылцы працавала вартаўніком у калгасе. У 1946 г. выехала ў Польшчу[2]. Памерла Стэфанія ў 1947 годзе ў Шчэціне ў багадзельні. Вось такі быў лёс роднай сястры класіка беларускай літара-

[1] Гл. яшчэ: Лаўрэш Леанід. Лёсы родных Алаізы Пашкевіч // Лідскі Летапісец. 2016. № 3 (75). С. 15-16.

[2] Michal Szymielewicz. Wysiedlenie do Kazachstanu w r. 1940 znacznej czesci mieszkancow powiatu Lidzkiego / / Fundacja-Zaklad narodowy im. Ossolinskich. Katalog Rekopisow akcesyjnych Akc. 26/56. S. 80.

туры.

Цікава, што Алаіза Пашкевіч была пахавана ў фальварку Шымкаўшчына, які належаў мужу яе сястры Сапоцьку. Юзаф Мацкевіч не згадвае гаспадара фальварка, і таму можна зрабіць выснову, што муж Стэфаніі да таго часу ўжо памёр.

Раскажу трошкі пра абставіны смерці Алаізы Пашкевіч (Цёткі), як пра іх расказвае Лідзія Арабей.

6 студзеня 1916 г. Алаіза атрымала з дому вестку, што ў бальніцы ў Лідзе памёр ад тыфу яе бацька, і таму адразу паехала на пахаванне. Аплаквалі бацьку толькі тры дачкі. Да гэтага часу адзін сын быў забіты, другі пасля ранення зноў ваяваў з немцамі, маці з дачкою Каралінай і з жонкаю брата Войцеха выехалі ў бежанцы, яны жылі ў Чавусах Магілёўскай губерні. Бацька не паехаў з маці ў бежанцы, бо не хацеў пакінуць гаспадарку, і да таго ж ён быў хворы, у яго адымаліся ногі.

Сястра Стэфанія адразу пасля пахавання вярталася ў Шымкаўшчыну, дзе жыла замужам. У Старым Двары заставалася адна сястра Зося. І Алаіза пасля пахавання бацькі захацела трошкі пажыць на радзіме, у сястры ў Старым Двары.

Але Цётка не магла проста ціха адпачыць у роднай хаце, яна пачала хадзіць па дварах, па хатах, лячыць людзей ад хваробы - ведала, як гэта рабіць, бо сама нядаўна працавала ў інфекцыйным бараку. Але не было медыкаментаў, у хатах не было належнай санітарыі, хворым часта не было чаго есці. Таксама ў гэты час Алаіза пачала збіраць статыстычныя звесткі для публікацыі аб матэрыяльным становішчы сялян.

Нядоўга давялося Цётцы змагацца з народнай бядою, бо яна сама захварэла тыфам. Адразу зразумела, адчула, што ўжо не ўстане, і папрасіла сястру, каб пахавала яе на радзіме і пасля гэтага хутка ўпала ў бяспамяцтва. Доктар-немец з Васілішак не дапамог, і ноччу з 4 на 5 лютага 1916 г., Алаіза Кайрыс (з Пашкевічаў) памерла. Памёр вялікі чалавек, незвычайная жанчына, памерла паэтка, палітык, гонар Лідчыны і ўсёй Беларусі. Пахавалі яе ў труне, якую зрабілі суседзі Казімір Вінча і Баляслаў Яхоўскі .

Родная сястра Стэфанія Сапоцька загадала выбіць на помніку сястры паэткі чатыры радкі з яе верша:

*На магіле ўзыду дубам,*
*Пачну шаптаць братнім губам*
*Аб іх долі, аб свабодзе,*
*Стану песьняй у народзе!*

У 1943 г. каля магілы Алаізы была пахавана яе родная пляменніца Феліцыя (дачка брата Войцеха) і яе сяброўка Аля. Дзяўчаты разам вучылася ў Віленскім універсітэце і да 1942 г. жылі ў Вільні. Калі пачаўся вываз моладзі ў Германію, сяброўкі пераехалі з Вільні ў вёску. Вечарам 27 красавіка 1943 г. да іх у хату зайшлі трое невядомых і расстралялі дзяўчат.

***

Як вядома, нічога карыснага не можа вырасці на пустым месцы, і таму нам трэба ведаць, чаму менавіта гэты, спрадвечны беларускі куток Лідчыны даў нам Алаізу Пашкевіч, Вацлава Іваноўскага з яго сястрой Аленай Скіндар з Іваноўскіх, Фелікса Стацкевіча і вялікую колькасць іншых вялікіх і славутых беларусаў. Думаю, уся справа ў тым, і славуты пісьменнік Юзаф Мацкевіч пацвярджае гэта, што гэтыя мясціны маюць вялікую гістарычную і культурную традыцыю, яны з'яўляюцца сапраўдным *"сэрцам Вялікага Княства Літоўскага"*.

А зараз падаю свой пераклад гэтага цікавейшага артыкула выбітнага пісьменніка і журналіста Юзафа Мацкевіча. Заўважым, што структура артыкула ў нечым нагадвае артыкулы савецкіх часоў - першая палова артыкула пра вялікія поспехі, другая - пра асобныя недахопы. Гэта не дзіва, палітычны рэжым тагачаснай Польшчы ўжо не быў дэмакратычным, і трэба памятаць, што праз год, родны брат і галоўны рэдактар газеты "Слова" Станіслаў Мацкевіч (псеўданім - "Cat") за пазіцыю газеты на непрацяглы тэрмін нават патрапіць у Бяроза-Картузскі лагер.

***Юзаф Мацкевіч:***

# "На працягу трох дзён знесці гэты помнік"![3]

**Цэнтр Віленшчыны**

На поўдзень ад Вільні ляжыць край, багаты не толькі матэрыяльнымі рэчамі, але і маральнай традыцыяй гісторыі. Вельмі старой, пеpажытай гісторыі. Тут ідзе галоўны тэрытарыяльны шлях для ўздыму Рэчы Паспалітай "абодвух народаў". Бо са старых часоў самы важны палітычны шлях з Вільні да Кракава ішоў праз Эйшышкі, Радунь і г. д., а потым - і з Вільні да Варшавы[4] […].

І ў матэрыяльным сэнсе гэты край ніколі нізка не западаў. Гэта, у цэлым, самадастатковы край з не самай горшай зямлёй. Рынкі, якія адбываюцца ў Эйшышках ці Радуні, фэсты і кірмашы маюць такую ж традыцыю, як і праезды каралёў і розныя гістарычныя падзеі. Тут заўсёды было сэрца Вялікага Княства Літоўскага - на поўдзень ад Трок і Вільні, а не крэсы ці безуладнае гуляй-душа поле. Блізкае да сталіцы месца, законапаслухмянае, прачэрчанае трактамі. Хоць на шляху гэтых трактаў і ляжала Рудніцкая пушча, а пад Гародняй - ад Новага Двара да Астрыны - непраходныя Бярштанскія лясы.

Зараз гэты край ляжыць у трохкутніку дзвюх чыгунак Вільня - Гародня, Вільня - Ліда, а замыкае

[3] J. M. [Jozef Mackiewicz] "W ciagu trzech dni zniesc ten pomnik"! // Slowo. № 64 (4988), 7 marca 1938.

[4] Маецца на ўвазе галоўная дарога ВКЛ, так званы "Каралеўскі тракт". Гл: Шымялевіч Міхал. Збор твораў / укл. Л. Лаўрэш. Гродна, 2019. С. 136-138.

трохкутнік вялікая Варшаўская шаша. Па чыгунцы імчацца хуткія цягнікі, а па шашы едуць шматлікія лімузіны, а нават і аўтамабіль № 1 у Польшчы - прэзідэнта Масціцкага. І хаця край гэты зараз выглядае зусім па-іншаму…, але для Варшавы, можа, ён і ёсць крэсамі, а для нас застаўся цэнтрам, якім быў - такім і застанецца!

**Край тыповы**

Трэба лічыць гэты край важным тэрытарыяльна і палітычна. Сабраў ён у сябе ўсё важнае на малым адцінку, усё характэрнае для ўсіх "усходніх ваяводстваў". Тут этнаграфічная мяжа адступаючага пад напорам беларускай мовы летувіскага элемента. І тут навокал свеціць тыповая віленская польскасць шляхецкіх засценкаў і двароў. Мястэчкі поўныя яўрэяў, ганарыстыя касцёлы і малыя цэрквы з цыбулінамі. […] Край тыповы.

**Эйшышкі і новая Радунь**

[…] на рынку ў Эйшышках пабудавалі цукерню, якая выглядае грандыёзна. Заезджыя дамы, бензінавая калонка, рух.

У Радуні памёр стары цадзік[5]. "Ах, які быў чалавек! Такога больш не будзе! - кажуць яўрэі, пляскаючы языкамі і ківаючы галавой. - Ён не браў грошы, жыў як святы, слаўны быў на цэлы свет! - Гэта праўда". Ён памёр, і ўся Віленшчына памятае яго дасканалае пахаванне. Меліся нават на Радуньскіх ржышчах прымаць самалёты міжнародных капіталістаў. Самалёты ўсё ж не селі, але калі людзі ішлі за пахавальнай працэсіяй, цыліндраў на галовах было больш, чым бруку ў мястэчку.

- Ай, ай, вось гэта быў цадзік! Пакінуў 80-ці гадовага сына, шматлікую сям'ю і вялікую школу рабінаў. Але ўсё ўжо не тое.

Яўрэі наракаюць:

- Радунь - Мекка рабінаў, Тэль-Авіў старых ашкеназінаў зараз прыйдзе ў заняпад. Гэтак, як раней, не паплывуць даляры з Амерыкі. З 500 вучняў засталося 200, бо сын - не бацька!

Гэта праўда, але …

Але ў самой Радуні, у самым цэнтры, з пустацельнай цэглы будуецца цэнтр хрысціянскага кааператыва, і ў ім будуць крамы і вітрыны. Стаіць перад ім грузавое і фірмовае аўто з таварамі. А што мяне найбольш цешыць, дык тое, што туалет на тым самым рынку, пасярэдзіне мястэчка, у такім жаласным стане, у такім страшным занядбанні і брудзе, што бярэ страх, каб бургамістра не саслалі ў Бярозу[6]. Але гэта добры знак таго, што людзі ў нас адварочваюцца ад туалетаў і звяртаюць больш увагі на дамы для гандлю і жыцця. А не так, як у іншым месцы - хата ўжо валіцца, і толькі туалет, як палац. Бо ў рэшце-рэшт разуменне іерархіі інвестыцый - гэта наша самая вялікая балячка.

**Бюракратычныя бар'еры развіцця**

Пра ўсё гэта напісаў наўмысна, каб на гэтым тле засведчыць, што я не ёсць такім ужо бескампрамісным песімістам. Адзначу, што можна дзейнічаць разумна і пачціва і "цягнуцца ўверх" не толькі праз распырскванне вапны[7] ці падсыпанне пясочку перад прыездам інспекцыі з ваяводства, а і праз рэальныя справы для грамадства. Калі можна рабіць матэрыяльныя рэчы, гэта станоўча адаб'ецца і на маральны стан. Таму яшчэ раз паўтараю: не трэба саромецца і чырванець з-за памылак, не трэба з-за гэтага, каб не ганьбіцца, нічога не рабіць, а трэба выпраўляць памылкі.

Калі мы зараз успомнім, што гэты па-хуткаму апісаны мной край - яго ядро, яго цэнтр які злучаны з Вільняй і цягнецца да Вільні, але быў ад яе адарваны па левы бераг ракі Сольчы з не вядома з якіх палітычных ці гаспадарчых мэтаў, але толькі з-за бюракратычнага глупства, і далучаны да Наваградскага ваяводства - дык трэба змагацца з такім збачэннем здаровага сэнсу. І ніхто не павінен бачыць у гэтым дрэнныя, а павінен бачыць толькі добрыя намеры.

Калі ў гэтым самым, па-хуткаму апісаным мною краю, нейкі чыноўнік, ці група чыноўнікаў, па падказцы зверху, знізу, або саматужна, дазволіць сабе адносіцца да літары закону, да пастановаў і правілаў, гэтак жа, як гэта было зроблена ў адносінах да фальварка на тракце з Васілішак да Сабакінцаў[8], і пры гэтым яны будуць падмацоўваць свае паводзіны аўтарытэтам уладаў - дык такіх паноў трэба браць у цуглі прававой дзяржавы. Не хаваць паміж пальцаў тое, што нельга схаваць, тое, што расцякаецца, паўтараю, як па далоні праз плёткі, размовы, нараканні, скаргі і зласліва-іранічныя ўсмешкі насельніцтва.

Калі мы павінны змагацца з бюракратызацыяй здаровага сэнсу, мы павінны яшчэ больш змагацца з бюракратызацыяй законнасці, якая ёй пагражае.

Таму не буду называць імёны і прозвішчы. Фактаў дастаткова, каб зразумець нахабства сістэмы, якая пануе ў нашай краіне.

[5] Ісраэль Меір Коэн (Акаэн) (Хафец-Хаім; сапраўднае прозвішча Пупко; 1839-1933) - рабін, галахіст і мараліст. Пра яго гл: Лаўрэш Л. Л. Шэпт пажоўклых старонак. Лідчына ў люстэрку прэсы. 1900-1939 гг. Гродна, 2017. С. 224-225.

[6] Аўтар іранізуе над барацьбой тагачасных польскіх уладаў за наяўнасць і чысціню туалетаў. Гл: : Лаўрэш Леанід. Славойкі на Лідчыне // Лідскі Летапісец. 2017. № 4 (80). С. 39-40.

[7] Аўтар іранізуе пра прымус сялян фарбаваць вапнай хаты і туалеты. Гл: : Лаўрэш Леанід. Славойкі на Лідчыне.

[8] Зараз Першамайск Шчучынскага р-на.

**Двор каля тракту**

Каля тракту з Васілішак да Сабакінцаў стаіць двор. Драўляны і на падмурках.

Бяда.

За сцяной жыве арандатар, другая палова "халодная", не адчыняецца наогул. На ганку ляжаць дровы. Сені вялікія і пустыя. Святло толькі ў двух пакоях. Сабака не брэша, плот пахіліўся, дарожка да хаты зарасла травой. Кусты здзічэлі. У гэтых двух пакоях жыве бабулька. Узростам, успамінамі, маладосцю ўрасла ў перадваенныя часы, калі яна тайна трымала школку і па лясах спявала з дзецьмі "Божа, чаму Польшча". Сёння зласліва і горка іранізуе з тых часоў. Чаму?

Пераступае парог, але ўздымае галаву ўверх: на паддашку гучны тупат і гармідар, несамавітыя бойкі і піск.

- Можа, шчуры?

- Пацы, - спакойна адказвае бабулька і, каб стала сявятлей, падкручвае газавую лямпу.

Сядаем. Адзінае крэсла. Адзіная выява на сцяне - група вучаніц перадваеннай віленскай гімназіі Прозаровай[9]. Адзіная каштоўнасць, памяць і любоў бабулькі - гэта магіла яе сястры.

Слухаю.



**Засталася толькі магіла сястры**

Памерла ў 1916 г. і пахаваная на адмыслова выдзеленай, уласнай зямлі. Малыя могілкі асвяцілі два ксяндзы, на магіле паставілі драўляны крыж, які стаяў і нікому не замінаў 21 год.

У 1936 г. пашыралі дарогу да Васілішак і ўзялі частку маёнткавай зямлі (да гэтага часу не заплацілі за яе), такім чынам наблізіліся да могілак. Аднак, і сёння могілкі ляжаць на адлегласці 11 метраў ад дарожнага паса і не маюць з ім нічога агульнага.

У 1937 г. бабулька паставіла на магіле памерлай сястры ладны помнік у простым, тыповым для могілкаў стылі. Замяніла ім ўжо гнілы крыж, пасадзіла кветкі, упарадкавала ўсё навокал, бо ўсё, што мае дачыненне да сястры, паўтараю, гэта апошні сэнс яе жыцця.

**"Некаму" помнік не спадабаўся**

Але па тракце каля двара праязджаюць не толькі сяляне на гандаль … Помнік некаму не спадабаўся. Як найменей. Не ведаю каму: старасту, паліцыянтам, каморніку ці войту. Шмат маем чыноўнікаў. У любым выпадку сярод гэтых чыноўнікаў не было дзяржаўнага кансерватара. Падкрэсліваю гэта, каб зразумець далейшае.

Але некаму не спадабаўся. І ў студзені гэтага года (1938 г. - *Л. Л.*) бабульку выклікалі ў гміну. Там войт, не даўшы ёй у рукі, толькі прачытаў ліст шчучынскага старасты: гаспадыня павінна знесці каменны помнік.

- На працягу трох дзён, - сказаў войт - бо …

- Як гэта? Якім правам?! На сваёй зямлі, высвечанай ксяндзамі, праз 22 гады існавання магілы! Пан войт жартуе? Чыіх рук гэта справа? На літары якога закона грунтуецца пастанова?

- Здаецца … пана кансерватара[10].

**"Не эстэтычны"**

Па-праўдзе, кансерватар помніка ніколі не бачыў. Ці яму загадалі?

Пытаюся я ў віленскага кансерватара:

- Прашу паінфармаваць: ці трэба дазвол на ўладкаванне помніка на могілках?

- Не.

- Ну, дык справа чыстая.

Даведваюся, што віленскі адначасова з'яўляецца і наваградскім кансерватарам. Тады пытаюся ў яго, як звычайная справа дайшла да такога грунтоўнага інцыдэнту?

Пачухаў твар, задумаўся …

- А, так. Той помнік не эстэтычны.

- Што?!!!

---

[9] Віленская прыватная 8-мі класная жаночая гімназія В.М. Прозаравай з правамі дзяржаўнай гімназіі. У гэтай гімназіі вучылася Алаіза Пашкевіч. Хто ведае, можа гэты здымак недзе захоўваецца і сёння.

[10] Асоба, якая адказвала за стан, захаванне і кансервацыю помнікаў культуры і гісторыі ў ваяводстве. У той час кансерватарам Віленскага і Навагрудскага ваяводстваў быў Вітольд Кяшоўскі, гл: Slowo. 1939. № 189.



*Сучасны помнік Алаізе Пашкевіч (Цётцы) у Старым Двары*

- Вы яго бачылі?!

- Маю здымак …

Не абмяркоўваю пытанне пра эстэтыку, якое, відочна, штучна прыцягнутае.

- Што наогул вы можаце сказаць? Загадаў стараста? На якой падставе?

- Гэта … ёсць распараджэнне, што на публічных пляцах нельга ставіць помнікаў.

- Але гэта ёсць звычайнае надмагілле! На прыватных могілках, на прыватнай зямлі - бясспрэчнай уласнасці гаспадыні маёнтка!

- Так … хм … у такім разе трэба ўдакладніць, ці гэтая зямля і сапраўды - прыватная маёмасць.

**Кожны ведае, што не слушна**

І зноў, адклаўшы ў бок пытанне, што гэта - злая воля ці толькі памылка з-за нейкіх асабістых ці палітычных мэтаў, ці проста непавага да права, але дзеля гэтага крыжа, гэтага помніка працаваў цэлы бюракратычны апарат. Яго фатаграфавалі. Прыязджала камісія, усё вывучала, апытвала суседзяў. Кожны з чыноўнікаў ведаў, што робіць гэта незаконна, кожны ведаў, чыя гэта зямля ўжо шмат гадоў, што могілкі высвечаны, агароджаны, недалёка ад двара. І пры гэтым усе рабілі гэтую справу.




А хто ім за гэта плаціць? Гэтым чыноўнікам, гэтым камісіям? Дзяржаўны скарб? Той самы скарб, куды бабулька плаціць падаткі.

З вялікай горыччу, з несумненным перабольшваннем яна іранізуе сама з сябе, пра свае даваенныя мары. Няма чаму дзівіцца, яна ўжо старая, і толькі магіла сястры засталася ў яе сэрцы.

Адчайна бароніцца. Піша скаргі міністрам, у Варшаву, да прэм'ера. Справа павінна ўсплыць у Варшаве, бо вельмі ўжо яна яскрава-абуральная.

"Слава Богу". Няма чаго саромецца. Бо, існуюць інстанцыі, якія бароняць закон.

*Леанід Лаўрэш*

# Мястэчка Ражанка і касцёл у ім

З "Паведамленнях аб літоўскіх шляхах" ("Die Littauischen Wegeberichte") бачна, што каля 1400 г. гэтую маёмасць меў Доўкша Кімантавіч, і ў крыжацкіх крыніцах Ражанка мае назву Кімантэдорф. На поўдзень ад Ражанкі жыў Васюта, уладальнік вёскі "Waisedendorf"[1]. "Паведамленне аб літоўскіх шляхах" з'яўляецца важнай крыніцай па гісторыі ВКЛ і Лідчыны XIV ст., яно было напісана на мяжы XIV-XV ст., напярэдадні Вялікай вайны ВКЛ і Польскага каралеўства з Тэўтонскім ордэнам. Гэты тэкст утрымлівае апісанне дарог праз тэрыторыю заходняй часткі ВКЛ, у большасці сваёй зробленае паміж 1385 і 1404 г. шпіёнамі Ордэна.

Першы вядомы ўладальнік Ражанкі Доўкша Кімантовіч атрымаў герб Пяршхала ў Гародлі. У Віленскай дамове 1401 г. як сведкі выступаюць Кімант з сынам Доўкшам. Апошні раз Доўкша Кімантавіч згадваецца ў Хрыстмемельскай дамове 1434 г.[2] Яго бацька Кімант упершыню згадваецца ў прывілеі Вітаўта 1388 г., апошні раз - у 1401 г. у Віленска-Радамскай дамове. У 1396 г. Кімант быў прызначаны Вітаўтам кіраўніком дэлегацыі на перамовы з Ордэнам пра межы. Ёсць меркаванне, што Кімант паходзіў з Гародні[3].

Потым маёмасць пераходзіць ад бацькі да сына - пасля Доўкшы ўладальнікам стаў яго сын Пац Доўкшавіч Кімантовіч[4]. Упершыню згадваецца ў Гарадзенскай дамове ў 1434 г., да якой ён прыклаў пячатку са знакам негарадзельскага паходжання. На пячатцы Паца Доўкшавіча напісана імя яго дзеда - Кімант. Імя Паца Доўкшавіча прысутнічае ў прысязе да Берасцейскага міру ў 1435 і ў 1447 гг. У 1434 і 1435 гг. ён займаў пасаду гаспадарскага маршалка. Юзаф Вольф лічыць Паца Доўкшавіча пачынальнікам роду Пацаў, вядома, што ён меў сына Юрыя. Акрамя Ражанкі Пацы мелі вотчынную зямлю ў ваколіцах Гародні і маёнткі ў Камянецкім павеце[5].

Пац Доўкшавіч некалькі разоў згадваецца ў Метрыцы ВКЛ: *"Пацу Довъкшевичу Довъкгяловы люди, транадцать ч(о)л(о)в(е)ковъ Овъдеевичи, на имя: Олекса, Яков, Воробеи Павел, Ходот, Ондрон, Конон, Климъ, Тищъ, Осипъ, Величко, Микита, Ондрониск" і "Пацевичи Довкшевичи шесть ч(о)л(о)в(е)ка"* [6].

Пасля Паца Доўкшавіча па чарзе Ражанкай валодалі: Юры Пацавіч[7] - сын Паца Доўкшавіча, герба Газдава. Юры Пацавіч упершыню згадваецца ў 1480 г., памёр ён у 1505 ці 1506 г. Быў жанаты два разы: з першай жонкай Анастасіяй меў сына Мікалая, які потым ажаніўся з дачкой князя Аляксандра Юр'евіча Гальшанскага Аляксандрай. Другая жонка Фядора (ці Федзька), дачка Яна Рагатынскага. Юры Пацавіч у 1480-1492 гг. займаў пасаду гаспадарскага маршалка, у 1486-1492 гг. - кіеўскага ваяводы. У 1492-1496 гг. - наваградскі стараста[8] - сын Паца Доўкшавіча, герба Газдава. Юры Пацавіч упершыню згадваецца ў 1480 г., памёр ён у 1505 ці 1506 г. Быў жанаты два разы: з першай жонкай Анастасіяй меў сына Мікалая, які потым ажаніўся з дачкой князя Аляксандра Юр'евіча Гальшанскага Аляксандрай. Другая жонка Фядора (ці Федзька), дачка Яна Рагатынскага. Юры Пацавіч у 1480-1492 гг. займаў пасаду гаспадарскага маршалка, у 1486-1492 гг. - кіеўскага ваяводы. У 1492-1496 гг. - наваградскі стараста[9]. У 1495 г. разам з жонкай Анастасіяй, сынам і групай кіеўскіх святароў Юры Пацавіч запісаўся ў брацтва св. Духа ў Рыме. У 1496-1500 гг. Юры Пацавіч - полацкі намеснік, у 1505 г. - мерацкі стараста[10]. Да Юрыя Пацавіча і яго другой жонкі Фядоры мы яшчэ вернемся.

Наступны гаспадар Ражанкі - сын Юрыя Пацавіча - літоўскі лоўчы і падкаморы ды падляшскі ваявода Мікалай Юр'евіч Пац (+1545/1546)[11], ён атрымаў гэтую маёмасць пасля смерці сваёй мачахі. У 1511 г. Мікалай Юр'евіч Пац паведаміў пра сваю маёмасць каля Гародні, якой валодалі яго продкі: *"И панъ Микола поведалъ передъ нами: тая де пашня здавна дедина и отчизна моя была ..."* [12]. Кардынал Юрый Радзівіл запісаў у сваім дзённіку: *"13 [кастрычніка] ... я заначаваў у шаноўнага біскупа кіеўскага Мікалая Паца ў яго сядзібе Ражанцы, размешчанай за 4 мілі ад Васілішак,*

---

[1] Лаўрэш Леанід. Лідчына ў XIV стагоддзі // Лідскі Летапісец. 2020. № 3(91). С. 14-32

[2] Пятраўскас Рымвідас. Літоўская знаць у канцы XIV-XV ст.: Склад - структура - улада. Смаленск, 2014. С. 248.; 285.

[3] Там жа. С. 258.; 248.

[4] Wolff. Pacowie : materyjaly historyczno-genealogiczne. Peterburg, 1885. S. 225.

[5] Пятраўскас Рымвідас. Літоўская знаць у канцы XIV-XV ст.: Склад - структура - улада. С. 285.

[6] Lietuvos Metrika. Knyga Nr. 3. (1440-1498). Vilnius, 1998. P. 37., 64.

[7] Wolff. Pacowie : materyjaly historyczno-genealogiczne. Peterburg, 1885. S. 225-227.

[8] Пятраўскас Рымвідас. Літоўская знаць у канцы XIV-XV ст.: Склад - структура - улада. С. 285-286.

[9] Wolff. Pacowie : materyjaly historyczno-genealogiczne. Peterburg, 1885. S. 7-8.

[10] Пятраўскас Рымвідас. Літоўская знаць у канцы XIV-XV ст.: Склад - структура - улада. Смаленск, 2014. С. 285-286.

[11] Wolff. Pacowie : materyjaly historyczno-genealogiczne. Peterburg, 1885. S. 225-227.

[12] РИБ. Т. 20. С. 753.

*і быў ім шчодра і ласкава прыняты"* [13].

Віленскі кашталян Павел Пац (+1595) у 1594 г. перадаў Ражанку ў заставу літоўскаму падскарбію Дзмітрыю Халецкаму (+1598)[14] і пасля гэтага на працягу каля 90 гадоў Ражанка была маёмасцю гэтага роду.

Пасля смерці Дзімітрыя Халецкага маёмасць успадкаваў яго сын, лідскі маршалак Аляксандр Халецкі (+1651), потым яго ўдава Альжбета з Раецкіх, якая запавядала маёнтак свайму другому мужу, літоўскаму падчашаму Крыштафу Патоцкаму. Ад яго застаўныя правы на Ражанку перайшлі да кракаўскага ваяводы Фелікса Казіміра Патоцкага, а ад яго - да Гедэона і Яўфіміі Халецкіх.

Першым з Пацаў пажадаў вярнуць сямейную сядзібу вялікі літоўскі гетман і віленскі ваявода Міхал Казімір Пац (1624-1628), які 20.03.1682 г. падпісаў дамову з Халецкімі аб выкупе маёмасці. Аднак яго раптоўная і безпатомная смерць 04.04.1682 г. зрабіла вынікі дамовы нядзейснымі. Пасля яго смерці спадчыннікі зракліся ад правоў на Ражанку на карысць батоцкага старасты Яна Крыштафа Паца, які пасля яшчэ 3-х гадовай спрэчкі з Халецкімі 03.04.1685 г. увайшоў у права валодання маёнткам, хоць усе юрыдычныя праблемы былі вырашаны толькі 19.06.1687 г. Пасля яго безпатомнай смерці ў 1702 г. маёнтак перайшоў да яго ўдавы Зоф'і з Падбярэскіх (+1720 г.). Чарговым дзедзічам Ражанкі стаў пляменнік Яна Кшыштафа, вілейскі староста Пётр Пац (+1756 г.), які ў 1727 г. атрымаў для мястэчка Ражанка права на тры кірмашы ў год.

Наступным уладальніка Ражанкі стаў Юзаф Пётр Пац (1736-1797), з магнацкага роду Пацаў герба Газдава. Бацька - староста пінскі і вілейскі Пётр Пац, маці - князёўна Ефрасіння з Агінскіх, сёстры - Бенядзікта і Альжбета. Дзяржаўны і ваенны дзеяч ВКЛ, у 1757 г. Юзаф Пётр Пац атрымаў патэнт генерал-маёра літоўскіх войскаў, а не пазней за 1758 г. - патэнт генерал-ад'ютанта вялікай літоўскай булавы[15].

У дэпешы ад 2 кастрычніка 1767 г. да прэзідэнта калегіі замежных спраў Расійскай імперыі Мікіты Паніна, расійскі пасланнік Мікалай Рапнін назваў Юзафа Паца годным чалавекам для рэалізацыі расійскіх планаў на сойме 1767 г., куды ён абіраўся ад Лідскага павета[16]. Абіраўся Пац і дэпутатам ад Лідскага павета на канфедэратыўны сойм 1776 г. Ён з'яўляўся праціўнікам так званай "Фаміліі" - партыі Чартарыйскіх і Панятоўскіх. 16 сакавіка 1792 г. Юзафа Паца ўзнагародзілі ордэнам Белага арла.

24 красавіка 1794 года на плошчы перад ратушай ў Вільні быў урачыста абвешчаны "Акт паўстання", які пацвярджаў адзінства віленскіх інсургентаў з паўстанцамі Тадэвуша Касцюшкі. У той жа дзень была створана Найвышэйшая Літоўская Рада на чале якой стаў Юзаф Несялоўскі. Сярод іншых у склад Рады ўвайшоў і вілейскі староста Юзаф Пац, ён лічыўся ў складзе ваеннай камісіі Рады. Пра сур'ёзнасць намераў гэтага "паўстанца" кажа тое, што 15 чэрвеня 1794 г. ён ахвяраваў паўстанню ажно тры лёгкія янычарскія ружжы! Нагадаю, што Юзаф Пац быў вельмі багатым чалавекам, бо ў сваім тастаманце (06.03.1797 г.) акрамя вялікай нерухомасці, ён пералічвае і грашовыя квоты ў памеры 4 мільёнаў злотых [17].

Першая хваля расійскіх казакаў прайшла праз Ражанку прасторы 7-15 траўня 1794 г., рабуючы маёмасць на сваім шляху. Маштабы рабункаў вядомы па такому факту, што ў лагеры генерала Цыцыянава пад Жалудком стаяла 4 тысячы падвод, нагружаных нарабаваным дабром. Казакі не маглі абысці маёнтак Юзафа Паца, але дзейнічалі больш акуратна. Орган Найвышэйшай Рады "Газета Нарадова Віленска" (Gazeta Narodowa Wilenska) паведамляе: *"Цыцыянаў ... няведама з якіх прычын частку рэчаў, зрабаваных у ражанкаўскіх уладаннях пана старасты Вілейскага, вярнуў уладальніку, менавіта 28 коней, і з забранай сумы некалькі тысяч аддаў, а ў два разы больш сабе і сваім падначаленым пакінуў"* [18]. Напалеон Роўба пісаў, што з ражанкаўскага маёнтка расійскія грэнадзёры вывялі 35 жарабцоў і кабыл коштам не меней, не меней як па 100 чырвоных злотых за кожную жывёлу і вывезлі 4693 чырвоных злотых і да 10 пудоў срэбра[19]. У пачатку лета 1794 г. у Ражанцы стаялі лагерам паўстанцкія аддзелы генерала Хлявінскага[20].

У ліпені 1794 г. Юзаф Пац выехаў у Галіцыю *"для папраўкі здароўя на водах"* і вярнуўся толькі пасля задушэння паўстання.

Юзаф Пац меў вялікую зямельную маёмасць у Лідскім і іншых паветах, памёр 13.03.1797 г. ва ўзросце 61 год бяздзетным і быў пахаваны ў капліцы касцёла ў Ражанцы, дзе меў вялікую маёмасць (пісаўся - "граф на Ражане"). У тастаманце ад 09.03.1797 г. усю сваю маёмасць, акрамя раней запісанай для касцёла ў Ражанцы, запісаў свайму далёкаму крэўнаму Людвіку Міхалу Пацу *"як апошняму з дома і роду пацаўскага"* [21].

Генерал Людвік Пац (+1835 г.) быў апошнім

[13] Рагойша Аляксандр. Ражанка ў XIV - I пал. XX стст. Нарыс асобных (і дыскусійных) старонак гісторыі мястэчка (Глава з нашай сямейнай хронікі). Мінск, 2023. С. 13.

[14] Wolff. Pacowie : materyjaly historyczno-genealogiczne. Peterburg, 1885. S. 225-227.

[15] Polski Slownik Biograficzny. Wroclaw-Warszawa-Krakow-Gdansk. 1979. T. 24. S. 705.

[16] Носов Б. В. Установление российского господства в Речи Посполитой. 1756-1768 гг. Москва, 2004. С. 668.

[17] Polski Slownik Biograficzny. T. 24. S. 705.

[18] Рагойша Аляксандр. Ражанка ў XIV - I пал. XX стст. С. 6.

[19] Rouba N.. Przewodnik po Litwie i Bialejrusi. Wilno, 1909. S. 169.

[20] Kuwalek R. Powstanie 1794 r. w powiecie lidzkim // Ziemia lidzka. 1994. № 15.

[21] Polski Slownik Biograficzny. T. 24. S. 705.

уладальнікам Ражанкі, якая за удзел генерала ў паўстанні 1831 г. была ў 1832 г. канфіскавана і пераведзена ў дзяржаўную маёмасць[22].

Людвік Пац (1780-1835) быў сынам Міхала і Людвікі з Тызенгаўзаў. Цікава, што бацька Людвіка Паца - Міхал Пац *"запаў у меланхолію і памёр 29 студзеня 1800 г. у Мыто* (каля Ліды - *Л. Л.*), *маючы 46 гадоў"* - памёр у маёнтку свайго сына, але быў пахаваны *"ў катакомбах Езненскага касцёла"*[23].

Па сведчанні сучаснікаў, Людвік атрымаў *"старраннае выхаванне ў Францыі, Англіі і на радзіме"*, а ў 1796 г. стаў студэнтам Віленскай акадэміі. Праз год атрымаў у спадкі ад далёкага сваяка Юзафа Паца вялікую маёмасць: ключы[24] Ражанку (з Мыто) і Гарадзішча на Лідчыне і Наваградчыне, Даўспуду, Рачкі і Мазуркі на Беласточчыне, якая ў той час стала часткай Прусіі, палацы ў Вільні і Гародні і тыя самыя 4 мільёны злотых гатоўкай, пра якія я пісаў вышэй.

У 1802 г. Людвік па тагачасных законах стаў паўнагадовым і распачаў ваяжы па Еўропе: наведаў парыжскі салон княгіні Ганны Сапяжанкі, а потым з яе братам Станіславам Замойскім у 1803 г. перабраўся ў Лондан. Тут, у Англіі, Шатландыі і Ірландыі, ён вывучаў сельскую гаспадарку. У 1808 г. у Парыжы са званнем *"шэф эскадрона"*[25] паступіў у полк лёгкаконнай гвардыі. Ваяваў у Іспаніі, дзе атрымаў раненне багнетам у сцягно. Прыняў удзел Аўстра-Французскай вайне 1809 г., належаў да эскорту Напалеона, атрымаў ордэн Ганаровага легіёна, пасля чаго пайшоў у адстаўку і пераехаў у Варшаўскае княства. Адсюль ён займаўся арганізацый выведкі на тэрыторыі былога ВКЛ і перад кампаніяй 1812 г. атрымаў чын палкоўніка. Напачатку камандаваў 15-м палком уланаў, а ў траўні 1812 г. атрымаў 2-гі ўланскі полк. Пасля ўваходу Напалеона ў Вільню, сустракаў яго тут у сваім палацы. 16 ліпеня атрымаў чын брыгаднага генерала і прайшоў з Напалеонам да Масквы праз усе бітвы. У 1814 г. стаў дывізіённым генералам і камандаваў кавалерыйскай брыгадай, якую сам і сфармаваў. Пры канцы вайны камандаваў усёй французскай коннай гвардыяй і недалёка ад Парыжа быў паранены. На баку Напалеона прайшоў чатыры ваенныя кампаніі і пасля адстаўкі, у траўні 1814 г,. выехаў у Англію, дзе зноў пільна вывучаў сельскую гаспадарку.

Пасля амністыі Людвік Пац вярнуўся дахаты і тут разам з Адамам Чартарыйскім прэтэндаваў на руку Ганны Сапяжанкі. Канкурэнцыя з Чартарыйскім за руку і сэрца дзяўчыны набыла палітычнае адценне, бо Адам Чартарыйскі быў сябрам маладосці цара Аляксандра I і ў 1804-1806 гг. займаў пасаду міністра замежных спраў Расійскай імперыі. Справа даходзіла да дуэляў са шчаслівым канкурэнтам, і цікава, што апошняя дуэль паміж імі адбылася, калі абодва рывалі ўжо былі жанатыя.

У 1817 г. Людвік Пац бярэ шлюб з Каралінай Малахоўскай, якая прынесла яму 1 мільён злотых пасагу. Але хутка, у 1822 г. ён аўдавеў. Жыў у беластоцкіх маёнтках і быў віца-прэзідэнтам мясцовага Аграрнага таварыства. Пабудаваў цікавы палац у стылі англійскай готыкі ў Даўспудзе і перабудаваў куплены ў 1823 г. у Радзівілаў палац па вуліцы Мядовай у Варшаве, пасля рэканструкцыі, тут паўстала *"адно з самых арыгінальных прасторавых рашэнняў Варшавы"*. Палац паступова ператварыўся ў музей, дзе месціліся калекцыі Людвіка Паца, у тым ліку і калекцыя антыкаў, купленая ім асабіста ў Рыме і Пампеях. Тут былі грэцкая, гатычная, і маўрытанская залы і калекцыі жывапісу, у тым ліку і партрэты Пацаў розных эпох. Госці з захапленнем разглядалі сервізы са срэбра, крышталю, наборы сеўрскай парцэляны коштам у дзесяткі дукатаў за талерку. Жартавалі, што гэты гмах актуалізаваў даўнюю прымаўку: *"Варты Пац палаца"*. Менавіта ў гэтым палацы і жыў калятар царквы ў Мыто. Перад 1830 г. нерухомасць Паца ў Польскім каралеўстве ацэньвалася ў 3 мільёны, а ў былым ВКЛ - у 1 мільён злотых[26].

Касцёл у Ражанцы з'явіўся па ініцыятыве вельмі цікавай жанчыны Фядоры з Рагатынскіх, асобы, якая, як быццам, сышла са старонак авантурнага гістарычнага рамана. Раскажу пра яе, спасылаючыся на вядомага гісторыка Юзафа Вольфа.

Першым мужам Фядоры быў князь Іван Сямёнавіч Кобрынскі, які вядомы нам па сваіх набожных фундацыях. Разам са сваёй жонкаю Фядорай у 1473 г. фундаваў царкву ў гонар Божага Нараджэння ў сваім маёнтку Дабучаны (цяпер Пружаны). Фядора была дачкою пана Івана Рагатынскага, а ўнучкаю (па маці) князя Андрэя Уладзіміравіча Альгердавіча. Абое, князь Іван Сямёнавіч Кобрынскі ды ягоная жонка княгіня Фядора (ці Федка), у 1478 г. пацвярджаюць запіс князя Андрэя Уладзіміравіча, які са сваёй жонкаю Марыяй запісаў маёнтак Осава на царкву Прачыстай Маці Божай у Кіеве, а ў наступным годзе пацвярджаюць святару Якубу загадванне царквою Маці Божай у Кобрыне. Князь Іван ад імя сваёй жонкі ў 1484 г. судзіцца з князем Сямёнам Іванавічам Валадзімеравічам (Бельскім) за маёнткі жончынага дзеда, князя Андрэя Уладзіміравіча, і гэтыя маёнткі кароль прысудзіў княгіні Фядоры. На сваю жонку княгіню, дачку пана Івана Рагатынскага, а ўнучку князя Андрэя Уладзіміравіча, князь Іван Сямёнавіч Кобрынскі запісаў трэцюю частку ўсёй сваёй маёмасці, а 25 студзеня 1487 г. запісвае на яе як пасаг дзве тысячы дукатаў з дзвюх іншых частак. Тым самым днём княгіня Фядора Іванава Сямёнавіча Кобрынская, адпісвае свайму мужу 2 000 злотых з дзвюх частак маёмасці, атрыманай у спадчыну па дзеду, князю Андрэю

[22] Uchowicz K. Sladami Pacow. Rzecz o kosciele w Rozance. Menotyra. 2013. T. 20. nr. 1, S. 22-23.

[23] Wolff J. Pacowie : materyjaly historyczno-genealogiczne. Peterburg, 1885. S. 284-285., 305.

[24] Ключ - вялікі двор, які дзяліўся на фальваркі ці засценкі.

[25] У французскай арміі слова "шэф" з'яўлялася часткай назваў воінскіх званняў: маёр французскага войска традыцыйна называецца "шэф батальёна" (фр. *Chef de bataillon*) або "шэф эскадрона" (фр. *Chef d'escadron*).

[26] Polski Slownik Biograficzny. T. 24. S. 718-720.

Уладзіміравічу. Наступным днём муж ды жонка павялічваюць суму, выдадзеную на царкву ў Дабучанах, фундатарамі якой былі. У хуткім часе, каля 1490 г., памёр князь Іван, а княгіня Кобрынская Фядора, выконваючы волю нябожчыка мужа, 10 чэрвеня 1491 г. адпісвае манастыру Збавіцеля ў Кобрыне маёнтак Корчыцы. Па мужчынскай лініі на князі Іване скончыўся род князёў Кобрынскіх, і Кобрын вярнуўся да караля, які пакінуў княгіні Фядоры валоданне ім.

Каб маёмасць працавала на карысць дзяржавы, у канцы 1491 ці напачатку 1492 г. кароль выдаў Фядору за намесніка кіеўскага пана Юрыя Пацавіча. Юры Пацавіч у 1501 г. адышоў ад грамадскага жыцця ды пачаў кіраваць маёнткамі жонкі. Пад канец жыцця ён атрымаў ва ўладанне маёнтак Марэцкае і памёр каля 1506 г. Пані Юр'ева Пацэвіча Федзька ў хуткім часе па другім аўдавенні, у 1506 г., дабіваецца ад караля і вялікага князя Аляксандра пацверджання запісаў свайго першага мужа, князя Івана Сямёнавіча Кобрынскага, які запісаў на яе трэцюю частку ўсёй сваёй маёмасці. Спешка тая мела аснову, бо ейныя сваякі выказвалі свае права на спадчыну. Ужо ў наступным годзе перад каралём Жыгімонтам зноў узнікае справа пані Юр'евай Пацэвіч з сястрою ейнага першага мужа Вацлававай Касцевічавай, якая, лічачы Кобрын сваім спадчынным маёнткам, выклікала на суд пані Пацаву. Кароль не прызнаў правоў пані Вацлававай ды яшчэ раз пацвердзіў валоданне Кобрынам пані Пацавай. У тым самым 1507 г. пані Пацава выйшла з усходняга абраду, якому ейныя продкі шчыра служылі, і перайшла ў каталіцызм, узяўшы імя Соф'я. Факт пераходу ў каталіцызм найлепей засведчаны ў пастанове каралевы Боны ад 1541 г.: архімандрыт Кобрынскага манастыра выклікае Мікалая Жамбоцкага на суд за зямлю, якую надаў манастыру князь Іван Сямёнавіч Кобрынскі, на гэта Жамбоцкі прызнаецца, што пані Соф'я тыя землі дала ягонаму бацьку, аднак з увагі на тое, *"што пані Соф'я па смерці свайго (першага) мужа князя Івана Сямёнавіча Кобрынскага выйшла за пана Паца і перайшла на рымскую веру, таму мела права тыя землі забіраць у царквы"*, аднак каралева загадвае вярнуць іх архімандрыту.

Адказваючы на позвы сваякоў, пані Юр'ева Пацава ў 1508 г. выклікае на суд Вацлава Касцевіча ды ягоную жонку за нанесеныя шкоды ў маёнтках і за запіс князёўны Кобрынскай. Каб дамагчыся свайго, пані Юр'ева Пацавіч Соф'я паказала каралю запіс княгіні Юлляны, сваёй свякрові, маці пані Вацлававай Касцевіча Ганны, якім яна адпісвае Юрыю Пацавічу ды ёй 600 коп грошаў з дзвюх частак Грушава і Чаравачыцаў; але кароль адхіляе скаргу пані Пацавай ды пакідае Касцевічам валоданне маёнткамі.

Хаця была ўжо ў гадах, пані Пацава у 1508 г. пашлюбавалася яшчэ і ў трэці раз, з Мікалаем Радзівілавічам, ваяводам Віленскім ды канцлерам Літоўскім. Перажыла яна, аднак, і трэцяга мужа, які памёр 16 ліпеня 1509 г. Трохразовая ўдава фундавала касцёл у Кобрыне ды адпісала Станіславу Жамбоцкаму зямлю Мардвіноўшчыну пад Кобрынам.

Будучы тры разы замужам, наша гераіня памерла без нашчадкаў у ліпені ці жніўні 1512 г. Пахаваная была ў Ражанцы, у маёнтку свайго пасынка Мікалая Юр'евіча Пацавіча. Зараз жа пасля ейнай смерці блізкія і далёкія сваякі заявілі пра свае правы на спадчыну.

У гэты ж час кароль пацвярджае ігумену Кобрынскага манастыра запіс нябожчыцы княгіні Іванавай Сямёнавіча Кобрынскай Фядоры на сяло Корчыцы. Сваім тастамантам, які падпісалі кароль і нават рымскі папа, Фядора-Соф'я запісала на свайго пасынка Мікалая Паца двары Лемніцу, Палонна з сёламі: Ходчам, Аляксеніцамі, Беразовічамі і Белым, 500 коп са Славенска, Магільна ды Кунасы, 250 коп доўгу княгіні Слуцкай і 80 коп доўгу князю Сакалінскаму; пры гэтым даручае яму пабудаваць касцёл у Ражанцы, дзе хоча быць пахаванай, ды расплаціцца з даўгамі.

Пац не мог захаваць тое, што адпісала яму мачаха, і быў выкліканы на суд князем Юрыем Сямёнавічам Слуцкім, князем Канстанцінам Астрожскім ды Аляксандрам Хадкевічам. Каб пазбегнуць працэсу, пачаў перамовы, у выніку чаго саступіў князю Канстанціну маёнткі "ў рускай старане", а менавіта - двары Лемніцу і Палонну, а таксама частку сумы, што запісала на яго мачаха. І нават праз некалькі дзесяткаў гадоў Пацу прысудзілі выплату віленскаму бургамістру 180 коп доўгу ягонай мачахі[27].

Ражанкаўская парафія згадваецца ў 1522 г.[28] але, верагодна, існавала яшчэ раней, разам з касцёлам св. Пятра і Паўла, які, як і жадала Фядора-Соф'я быў фундаваны ў 1514 ці 1516 г. Мікалаем Юр'евічам Пацам і яго жонкай Аляксандрай Гальшанскай. Ёсць інфармацыя што пад час Рэфармацыі касцёл стаў кальвінскім зборам, але калі гэта і сапраўды так, дык ужо ў 1595 г. храм у Ражанцы фігуруе ў спісе каталіцкіх парафій.

У 1578 г. будучы праваслаўны мітрапаліт Анісіфар, а ў той час *"дваранін Яго Каралеўскай Міласці"* Міхаіл Пятровіч Дзевачка прадставіў у Гарадзенскі земскі суд выпіс з актавых кніг Віленскага гродскага суда аб продажы яму кіеўскім рымска-каталіцкім епіскапам-намінатам Мікалаем Пацам часткі грунту ў маёнтку Ражанка за 60 коп літоўскіх грошаў. Сам дакумент аб продажы быў складзены ў Вільні яшчэ 28 жніўня 1577 г., а актыкаваны ў Віленскім гродскім судзе 15 снежня 1577 г. З дакумента вынікае, што на гэты час Міхаіл Пятровіч быў свецкай асобай і сямейным чалавекам - грунт набываецца пакупніком з магчымасцю перадачы *"малжонце, детемъ и потомъкомъ его"*. З дакумента бачна, што Пац прадае гэты кавалак зямлі, бо ён яму мала патрэбны і ляжыць асобна ад іншых земляў маёнтка Ражанка *"межы кгрунтовъ пана Девоччыных"*. Пададзена і падрабязнае апісанне межаў гэтага кавалка:

[27] Вольф Юзаф. Князі на абшарах Вялікага Княства Літоўскага ад канца XIV ст. // Спадчына. 1993. №6. С. 86-88.

[28] Kurczewski Jan. Biskupstwo wilenskie Wilno, 1912. S. 177.

*"Идучы от Рожанки от грушки до ростани, отъ которое ростани две дороги пошли, делячы тые кгрунъты от кгрунтовъ пана Девоччыных, одна дорога по левеи идеть в болота Терпиж, тое дорогою до межы, которая делить кгрунт пана Девоччын названыи Глинаковщину тою межою в дорогу зъ Заболотья дворов земян повету Городеньского пановъ Павловичовъ Гамшеевъ и пана Залеского под двор Девоччынъ, а дорогою оною до тое ж вышеи мененое грушки и ростани от кого ся початокъ тым кгрунтомъ сталъ".* Калі паглядзець на карту, то можна ўбачыць, што гэтыя землі належаць да маёнтка Алешавічы - у той час радавога маёнтка будучага мітрапаліта[29].

Бясспрэчна, першы касцёл быў драўляным. У першай палове ці каля сярэдзіны XVII ст. у Ражанцы паўстаў мураваны храм, пра такое датаванне, па меркаванні гісторыкаў архітэктуры, сведчыць тагачасная барочная архітэктура касцёла: агульны выгляд, тып скляпення і двухвежавы тып фасада, высокі празбітэрыюм з доўгімі вокнамі яшчэ гатычнай традыцыі, пра што вядома з вопіса 1700 г.

У 1659 г. касцёл быў разрабаваны, знішчаны ўсе дакументы, а пробашч касцёла Сымон Птак забіты. Наступны пробашч Стэфан Дранеўскі з 1668 г. займаўся рамонтам касцёла, і 17 чэрвеня 1674 г. біскуп Мікалай Слупскі высвяціў адноўленую святыню.

З візітацыі 1700 г. бачна, што касцёл быў пабудаваны ў форме крыжа з дзвюма капліцамі, меў двухвежавы фасад, сігнатурку і вежачкі над шчытамі капліц, а таксама аднапавярховую сакрыстыю.

У 1796 г. занатавана, што касцёл *"па большай частцы развалены і зараз пусты"*, набажэнтвы адбываліся ў часовым, драўляным касцёле, пабудаваным у 1793 г. за грошы Юзафа Паца. У 1797 г. Пац загадаў зруйнаваць патрэсканы фасад старога касцёла. Ён не змог пачаць пабудову новага касцёла і пераклаў гэты абавязак за свайго спадкаемцу Людвіка Паца, пра што зрабіў запіс у сваім тастаманце[30].

5 сакавіка 1797 г. ён напісаў тастамант *"Юзаф Пац, будучы па сваім бацьку Пятру, старастам Вілейскім, дзедзічам маёмасці Ражанка з авульсамі* (авульс - фальварак без сялян) *Далкеўшчынай і Заполлем, фальваркамі Тур'я, Малевічы, Багушоўшчына і Дражна ў Лідскім павеце* [далей ідзе пералік маёнткаў па-за межамі Лідскага павета]*... акрамя таго маючы палац ў Вільні і Гародні, аддаю ўсё гэта свайму найбліжэйшаму крэўнаму ... Людвіку Пацу ... як апошняму з дома і імені Пацаў ..".* Таксама Юзаф Пац запісаў Людвіку Пацу маёмасць, якую ён сам набыў ў Лідскім павеце: *"Вялікую Дзітву ці Мыто, а таксама Жыжму"* і 4 мільёны злотых гатоўкай. Уладальнік Ражанкі пажадаў быць пахаваным у Ражанкаўскім касцёле[31].

Апошні з Пацаў - Людвік Пац, які меў палацы ў Варшаве, Вільні і Гародні, працягнуў будаваць у Ражанцы дасканалую рэзідэнцыю. У Варшаве ён трымаў дыстанцыю ад палітыкі, тым не менш з'яўляўся сенатарам каралеўства. Прыняў удзел у паўстанні 1830-1831 гг. і ахвяраваў на паўстанне 100 000 злотых - больш за ўсіх іншых сенатараў. Пасля паразы паўстання выехаў у Парыж[32].

Царскі ўрад канфіскаваў усю маёмасць Людвіка Паца, у тым ліку і ключ Ражанку (1351 душу)[33], але нейкія капіталы ў яго захаваліся, і таму і за мяжой граф заставаўся багатым чалавекам. У 1834 г. з рознымі даручэннямі кола эмігрантаў Пац выехаў з Парыжа ў Італію - жыў у Генуі, Рыме, Неапалі, дзе, пакінуўшы дачку пад нагляд манахінь, усю зіму бавіўся ў арыстакратычным *"элегантным свеце"*. У 1835 г. выехаў у Грэцыю, дзе таксама займаўся палітычнымі справамі. З Афін перабраўся ў старажытны грэцкі горад Смірна, што ў Малой Азіі[34], дзе 31.08.1835 г. памёр. Некаторыя даследчыкі лічаць, што Людвік Пац для Адама Міцкевіча з'яўляўся правобразам Графа ў паэме "Пан Тадэвуш" [35].

Адзіная дачка Людвіка Паца - Людвіка (1819 г.н.) выйшла замуж за князя Ксаверыя Сапегу з Высокага Літоўскага. Аднак яна мала што магла ўспадкаваць ад свайго бацькі, маёмасць якога была канфіскавана за ўдзел у паўстанні 1831 г. Канфіскавана была таксама і Ражанка. Са "Слоўніка геаграфічнага" даведваемся, што ў другой палове XIX ст. маёнтак Ражанка быў дзяржаўнай маёмасцю, якая паступова была распрададзена мясцоваму насельніцтву.

Напрыканцы XVIII ст. Юзаф Пац пабудаваў новую сядзібу па праекце італьянскага архітэктара Карла Спампані, двухпавярховую аранжарэю, пейзажны парк і гаспадарчы двор, істотна пашыраны пры наступных уладальніках Ражанкі. Вядома, што Юзаф Пац быў вялікім аматарам коней і, верагодна, з тых часоў і пайшла легенда пра дываны і люстэркі ў пацавых стайнях, хто ведае, можа, гэта была і праўда.

Палаца-паркавы комплекс з'явіўся тут напрыканцы XVIII стагоддзя. Праект італьянскага дойліда Карла Спампані як нельга лепш адпавядаў амбіцыйным запатрабаванням гаспадароў, ён уключаў аднапавярховы сядзібны дом з высокім ламаным дахам, два аднапавярховыя флігелі - раскоша панавала тут і ў архітэктурных формах, і ў інтэр'ерах. Сядзібу акружаў шыкоўны парк з круглымі газонамі, англійскім садам і мураванай аран-

[29] Лісейчыкаў Д.В., Бобер І.М. *"Варуючы и милуючы малъжонку мою законную венъчалъную..."*: жыццё і смерць мітрапаліта-*"дваяжэнца"* Анісіфара Дзевачкі // Беларускі гістарычны часопіс. № 5. 2018. С. 14.

[30] Uchowicz K. Sladami Pacow. Rzecz o kosciele w Rozance. Menotyra. 2013. T. 20. nr. 1, S. 24-26.

[31] Wolff. Pacowie : materyjaly historyczno-genealogiczne 1885. S. 284-285., 305.

[32] Polski Slownik Biograficzny. T. 24. S. 721-720.

[33] Лаўрэш Леанід. Паўстанчы дух. 1812, 1831, 1863 гады на Лідчыне. Гродна, 2016. С. 209.

[34] Разваліны Смірны знаходзяцца зараз на тэрыторыі сучаснага турэцкага горада Ізмір.

[35] Polski Slownik Biograficzny. T. 24. S. 720.





***Сядзібны дом у Ражанцы, 1930-я гг.***

жарэяй на два паверхі, дзе, безумоўна, валадарылі ружы. Флігель, канюшня ды фрагменты парку - гэта, на жаль, усё, што сёння засталося ад колішняга фальварка.

Да 1939 г. у Ражанцы ў добрым стане захоўвалася вялікая сядзіба, якая магчыма, паходзіла яшчэ з XVII ст. У гэтым двары, да смерці Юзафа Паца, сям'я мела сваю рэзідэнцыю. Аднапавярховы сядзібны дом меў форму шырокага прастакутніка. Ад фронту, з правага боку да дома была дабудавана вялікая веранда. Высокі гонтававы дах амаль што ў два разы перавышаў вышыню самога дома. У 1920-30-я гг. у гэтым доме знаходзілася сельска-гаспадарчая школа, дзякуючы якой быў захаваны вялікі парк з вялікім газонам перад фронтам дома[36].

У 1960-я гг. дом разабралі. Да цяперашняга часу захаваліся толькі стайня, рэшткі аранжарэі, парку і брукаванай дарогі.

Адметнасцю мястэчка Ражанка, безумоўна, і сёння з'яўляецца памятны слуп-каплічка, які, па легендзе, Людвік Пац загадаў устанавіць у памяць усіх загінуўшых салдат падчас вайны 1812 г. Але ёсць меркаванне, што капліца паўстала яшчэ ў XVIII ст.

Людвік Пац досыць доўга не выконваў волю свайго памерлага сваяка і прыступіў да рамонту і перабудовы касцёла толькі ў 1824 г. Падчас гэтых работ, касцёлу быў нададзены сучасны, неагатычны выгляд. Вонкавыя працы былі закончаны ў 1828 г., а ўнутраныя ў 1830 г. - менавіта ў гэтым годзе былі пастаўлены мураваныя неагатычныя хоры і амбон. Пры выкананні работ не быў парушаны агульны контур ранейшага барочнага касцёла акрамя выгляду галоўнага фасада. Быў разабраны двухвежавы фасад і пабудаваны новы, плоскі





***Першапачатковы праект Марконі перабудовы касцёла ў Ражанцы, 1827 г.***

фасад з гарызантальнымі падзеламі і мазаікай, які завяршаўся трохкутным шчытом.

Архітэктар Генрык Марконі спраектаваў неагатычны касцёл у Ражанцы для генерала Людвіка Паца і таму сучасны выгляд касцёла - вынік перабудовы, бо ранейшы касцёл быў пабудаваны ў стылі барока. Ролю галоўнага элемента фасада сёння выконвае вежа, ссунутая на правы край. Першапачатковы праект Марконі

[36] Aftanazy. Dzieje rezydencji na dawnych kresach Rzeczypospolitej. Tom 4. S. 337-338.



***Касцёл у Ражанцы на малюнку Напалеона Орды***

прадугледжваў больш элементаў готыкі, чым мае сучасны касцёл. Адхіленнем ад першапачатковага стала тое, што камнем быў абліцаваны ўвесь галоўны фасад, была захавана сакрыстыя і паўцыркульныя вокны на капліцах, бакавых фасадах і апсідзе, а таксама адмовіліся ад двух дадатковых вокнаў на капліцах[37]. Неаготыка, прыўнесеная на тэрыторыю сучаснай Беларусі Пацам, праз нейкі час стала асноўным стылем у каталіцкай архітэктуры.

Акрамя Марконі ў Ражанцы працавалі яшчэ два італьянцы, якіх запрасіў Людвік Пац. Нікола дэ Анджэліс з 1823 па 1828 г. намаляваў абраз свсв. Пятра і Паўла для новага галоўнага алтара. А Карла Аўрэлі ў 1823-1826 гг. выканаў для касцёла скульптуры са стуку св.св. Пятра і Паўла.

Энрыка Марконі (1792-1863 гг.) лічыцца адным з самых буйных польскіх архітэктараў XIX ст., ён нарадзіўся ў Рыме і быў старэйшым сынам італьянскага архітэктара Леанарда Марконі і Элеаноры з Гербертаў.

Цікавую інфармацыю пра касцёл у Ражанцы паведаміў прыхаджанін суседняга касцёла ў Жалудку Яўстах Шалевіч. Як вядома, каталіцкім касцёлам у 1850-х гадах быў ініцыяваны рух за цвярозасць, які разглядаўся ўладамі як пагроза напаўненню бюджэту і небяспечная "польская" грамадская ініцыятыва. Аднак ураду давялося пайсці на пэўныя захады, каб зменшыць спажыванне алкаголю. Пасля 1863 г. ксяндзам было забаронена ўтрымліваць брацтвы цвярозасці, але некаторыя ксяндзы не склалі зброі і рабілі справу, пераважна, на споведзі. Шалевіч пісаў:

*"Такім быў кс. Рыхлевіч з Ражанкі. Прыходзіць да яго чалавек да споведзі:*

*- А ці ты п'еш водку?*

*- П'ю, ксёнжачку!*

*- Тады ідзі сабе, з Богам, я цябе спавядаць не буду.*

*Пасля гэта чалавек кідаў піць і толькі тады ішоў да споведзі. І гэтак ксяндзы працягвалі сваю барацьбу"* [38].

Таксама, Шалевіч паведаміў, што вікарый жалудоцкі кс. Ішора, пасля таго, як у 1863 г. прачытаў у сваім касцёле паўстанчы маніфест, *"у той жа дзень выехаў да кс. Рыхлевіча ў Ражанку ... Кс. Ішора мог пайсці ў лес ці выехаць за мяжу, але яго арыштавалі, бо ён сам аддаў сябе ў рукі ўладаў, кажучы пры гэтым: "Я маніфест чытаў, бярыце мяне, пробашч не вінаваты ..."* [39].

У другой палове XIX ст. Ражанка стала звы-



***Касцёл у Ражанцы, чэрвень 2021 г.***

[37] Uchowicz K. Sladami Pacow. Rzecz o kosciele w Rozance. Menotyra. 2013. T. 20. nr. 1, S. 26-27.

[38] Szalewicz Eustachy. Historja koscila Zoludzkiego oraz wspomnienia o Zoludzkiej parafji. Slow pare o obok lezacej Iszczonskiej parafji. Slow kilka o Szczuczynie. Lida. Parafja Kolesnicka // ДГАЛ. Ф. 1135. Воп. 4. Спр. 482. Арк.8.

[39] Там жа.

чайным яўрэйскім мястэчкам. Сёння ў былой сінагозе пачатку XX ст., якая ў савецкі час выкарыстоўвалася як клуб, размясцілася праваслаўная царква.

У 1924-1925 гг. адбыўся грунтоўны рамонт касцёла падчас якога з'явіўся насценны роспіс віленскіх мастакоў Казіміра і Міхала Роўбаў (роспіс не захаваўся да нашага часу).

Без страт касцёл у Ражанцы перажыў Другую сусветную вайну. Аднак пасля арышту ў 1949 г. апошняга пробашча кс. Яна Мароза касцёл не працаваў 40 гадоў. У 1961 г. была знесена плябанія, у 1974 г. згарэў дах касцёла, пасля чаго было знішчана скляпенне і насценныя роспісы.

У 1991 г. прайшла рэканструкцыя касцёла, пасля якой папярэдні інтэр'ер не быў узноўлены, з-за чаго сёння лепш чытаецца барочны стыль старога касцёла. І на галоўным фасадзе, як і раней, усіх наведвальнікаў касцёла сустракае тарча з выявай герба Пацаў Газдавай[40].

***Дадатак***

***Каміла Юрэвіч з Нарбутаў***

**Пустэльнік з Ражанкі**[41]

*Не, гэта яшчэ не твае мясціны -*
*ты прыйшоў з іншых і для іншых ты*
*наканаваны.*
***Дж. Г.***

У эпоху, калі шал чалавечых учынкаў стрымлівае халодны розум, які ўсялякую экзальтацыя лічыць смешнай, у эпоху, калі нават надзея жыцця вечнага, надзея, якую не аспрэчваюць філосафы і якая аднак стала пытаннем для асвечанага класа і вырашаецца ім па-рознаму, словам, у XIX стагоддзі незвычайнай з'явай павінен лічыцца рэлігійны летуценнік і пустэльнік, цалкам адарваны ад зямнога свету, пустэльнік, які з чыстай верай у Хрыста імкнецца да неба.

Аднак такі чалавек жыве ў Лідскім павеце, у Ражанкаўскай парафіі.

Я не жадаю ведаць - з гербам ён нарадзіўся ці без герба. Ці насілі яго продкі кунтушы і залатыя пасы, ці яны апраналіся ў шэрыя сукманы? Я ведаю толькі, што ад Бога ў святым хрышчэнні ён прыняў імя Ян, а ад бацькі - прозвішча Калясінскі[42].

Тры гады таму я чытала пра яго, а ў гэтым годзе, падчас наведвання сваіх кузынаў, якія жывуць у Ражанкаўскай парафіі, я з ім асабіста пазнаёмілася.

15 лютага з паняй Тэкляй М. мы паехалі ў Ражанку, да якой з маёнтка, дзе я гасцявала, было вёрст з дзесяць.

Заснежаныя палі, аголеныя ад лісця дрэвы, замёрзлыя ручаі. Гэты аднастайны зімовы від наднёманскага наваколля, прызвычайвае да думкі пра чалавека, выкрасленага са спісу жывых, і выклікае тугу, якую нарэшце перапыняюць словы маёй кузынкі: "Вось і Ражанка!"

Узняўшы вочы, я ўбачыла касцёл з дзвюма вежамі, пра які пазней даведалася, што ён быў вымураваны некалькі дзясяткаў гадоў таму на сродкі генерала Паца, на месцы старога храма, пабудаванага некалі яго продкамі. Тут знаходзяцца пахаванні графаў Пацаў. Але прах апошняга фундатара касцёла не змяшаўся з прахам продкаў - ён памёр у Смірне падчас пілігрымкі ў Святую Зямлю[43].

Сані спыніліся за некалькі тысяч крокаў ад касцёла каля брамы, якая вядзе ў сад, дзе растуць фруктовыя дрэвы, італьянскія таполі, агрэст і іншыя расліны. З цяжкасцю сунуліся мы па снежных сумётах да хаціны, якая стаяла пасярод саду. Тут сустрэў нас высокі мужчына сярэдняга ўзросту і моцнага целаскладу, апрануты ў грубую вясковую вопратку. Яго аблічча казала пра лагодны характар, колер твару сведчыў аб добрым здароўі - гэта і быў пустэльнік.

Пасля прывітання яго імем Езуса Хрыстуса, мая сяброўка пані Тэкла М. назвала маё імя. Ён лёгка пакланіўся, падаў мне руку і дапамог прайсці праз цесныя сені ў пакой з шасцю малюсенькімі квадратнымі акенцамі. З мэблі тут меўся вялікі стол, два зэдлікі для сядзення і высокі пастамент з дошак, на якім паміж дзвюма лаёвымі свечкамі стаяў крыцыфікс[44] і абраз Марыі Магдалены.

- Можа, пані, хацелі б паслухаць песні пустэльніка?

Сказаўшы гэта, ён запаліў свечкі і праспяваў гімн Богу. Тэкст гэтага гімна і ліст з тэкстам яго ўласнага рэлігійнага твора - вельмі містычны і амаль незразумелы, ён ахвяраваў мне пры развітанні.

Пасля спеваў пачалася размова наступнага зместу:

- Як даўно пан Калясінскі жыве ў гэтай хаце?

- Васямнаццаць гадоў.

- Што адштурхнула вас ад звычайнага жыцця?

- Воля майго Творцы, які прызваў мяне да сябе.

- Хацелася б ведаць, праз што выявілася гэта воля?

- Праз бязбожнасць людзей! - усклікнуў ён з бачным узрушэннем і хутка расказаў нам, як, скончыўшы школу шчучынскіх ксяндзоў-піяраў, ён доўгія гады служыў у маёнтках. Спачатку ў маёнтку генералавай Мараўскай, потым рахункаводам у генерала Паца. Тады, з-за павагі да Паца, ён расказаў яму аб дрэнных паводзінах яго служак, а потым з-за інтрыг гэтых паноў

[40] Uchowicz K. Sladami Pacow. Rzecz o kosciele w Rozance. Menotyra. 2013. T. 20. nr. 1, S. 33-34.
[41] Jurewiczowa Kamilla. Koleda Kamilli Narbut dla kuzynek i przyjaciolek na rok 1852. Wilno, 1852. S. 85-100.
[42] Калясінскія - разгалінаваны род лідскай шляхты, пад Лідай ёсць вёска Калясішча. - *Л. Л.*
[43] Гэта вядома з успамінаў пра пілігрымку на Святую зямлю ксяндза Галавінскага.
[44] Настольнае ўкрыжаванне (cruci fixus - lat.). - *Л. Л.*

быў прымушаны звольніцца са службы.

Неразуменне Паца, подласць дворных і далейшыя непрыемныя падзеі, праз якія вёў яго лёс, пакінулі балючую рану на сэрцы і розуме, амаль што давялі да вар'яцтва. У такім ліхаманкавым стане ён пражыў цэлы год. Каб вярнуць здароўе, выпрасіў у ксяндза-пробашча Ражанкі паўтара морга закінутай смеццем зямлі, якую сваімі рукамі ачысціў, ускапаў і ўгнаіў. Дзве часткі засадзіў дрэвамі, а трэцюю, пакінуў пад ячмень і бульбу. З ячменю ён сам сабе пячэ праснакі і ўжывае іх замест хлеба, а бульба - яго адзіная ежа, бо ён ніколі не есць мяса, рыбы, масла і сыру. Восем гадоў жыў у падзямеллі, якое сам выкапаў. Аднак ад страшнага чаду часта на некалькі гадзін нават страчваў прытомнасць і таму мусіў паклікаць на дапамогу людзей і пабудаваць хацінку з двух малых пакойчыкаў, але з комінам і шведскай печчу. Я зазірнула ў яго спальню - тут не мелася ні ложка, ні посцілкі - адна толькі салома і ніякіх коўдраў.

- Улетку ў вас ёсць добры занятак ў садзе, але што вы робіце ў доўгія зімовыя вечары?

- Я вучу чытанню і катэхізісу сыноў бедных сялян.

- Я чула, - сказаў мая кузынка, - што галоўнай прычынай меланхоліі пана Калясінскага было няшчаснае каханне?

- Я хацеў ажаніцца, - сказаў ён, апусціўшы вочы, і сумны змрок пакрыў яго твар.

Задумлівы пустэльнік лаканічна паведаміў, што наша размова скончылася, пасля чаго мы развіталіся. Праводзячы нас, ён паказаў рукой на крыж, які стаяў на клумбе. Пад ім у цёплыя месяцы года ён мае звычку спяваць пакаянныя псалмы.

Я здзівілася, заўважыўшы дзясятак-другі вуллёў з пчоламі,.

- Пчолы задавальняюць адну з маіх неабходных патрэб: штогод маю некалькі рублёў за мёд і на гэтыя грошы купляю сабе адзенне.

З хаты пустэльніка мы напрасткі рушылі да двара Ражанка, былой любімай рэзідэнцыі старасты Паца (дзядзькі генерала), а сёння казённага маёнтка ў арэндзе панства Ж. Калі мы праходзілі ля паркана англійскага саду, бачылі гіганцкія дрэвы, з-за якіх, у адным месцы выглядаў грот, а ў другім альтанка. Вялікі, складзены з цэглы жылы дом страціў свой гатычны стыль, бо нядаўна былі разбураны дзве вежы, якія яго ўпрыгожвалі, і, нягледзячы на старанны рамонт, зроблены дзяржавай, дом ужо не заслугоўвае права называцца палацам, як яго завуць навакольныя жыхары. У гаспадыні, кабеты годнай веры пані Ж., я знайшла пацвярджэнне таго, пра што казаў яе блізкі сусед-пустэльнік пра свой лад жыцця, усё гэта была шчырая праўда.

Падчас майго тыднёвага знаходжання ў Ражанкаўскай парафіі я распытвала пра Яна Калясінскага асоб з рознага стану. Найбольш папулярная думкай была тая, што ў свой час ён закахаўся ў панну з багатага класа але яго пачуцці былі з пагардай адрынуты. Пасля ліхаманкавай гарачкі наступіла ціхая, лагодная меланхолія, вынікам якой і сталася самавыдаленне Калясінскага з грамадства і адмова ад усіх выгод і задавальненняў жыцця.

Відавочна, што такая, неацэненая людзьмі чулая і высакародная, душа прысвяціла сябе выключна Богу, замяніла зямны дабрабыт на надзею пра светлую вечнасць.

Тое, што атачае хатку Калясінскага, дае ўяўленне пра пяшчоту яго пачуццяў: сад мае форму сэрца і некалькі клумб маюць тую ж форму. У адной з іх расце пунсовая півоня, якая азначае (як ён сам тлумачыў мінулым летам маёй кузынцы) сумную рану. Дванаццаць тапаляў, якія растуць роўнай лініяй - дванаццаць апосталаў. Пяць кустоў ружаў - пяць ран Хрыста, сем раслін розных відаў - сем смуткаў Маці Збаўцы.

Ад арыстакратыі Ражанкі (такую можна сустрэць паўсюдна) я пачула два крыўдныя для пустэльніка расказы: адзін элегантны пан, абапёршыся на мяккае, зручнае падгалоўе годнай канапы, з цыгарэтай у губе, запэўніў мяне, што Ян Калясінскі - невылечны вар'ят; другі, палітык-эканаміст, назваў яго непатрэбным цяжарам на зямлі.

На мой погляд, чалавек, які шануе Бога і праз навучанне бедных дзяцей чытанню і рэлігіі выконвае адзін з найвялікшых абавязкаў чалавека, не павінен разглядацца ні як вар'ят, ні як непатрэбны цяжар, тым больш, што забяспечвае ён сябе сам, сваёй ўласнай працай і не вымагае падтрымкі.

Я бачыла ў пустэльніка карліка, вышынёй толькі ў паўтара локця: гэта яго былы калега і адзіны таварыш, якога ён выратаваў дзесяць гадоў таму ад галоднай смерці. Гэты хлопец мае васямнаццаць гадоў, і ўжо не магчыма чакаць, што ён калісьці падрасце. Некаторыя людзі кажуць, што недахоп паўнавартаснай ежы (бо яе няма ў пустэльніка) - прычына яго малога росту.

Акрамя пустэльніка, у Ражанкаўскай парафіі ёсць яшчэ дзве рэчы, пра якія варта сказаць.

Вялікая прастора зямлі, на якой ёсць пашы і ворныя палі мае назву Абсоч - належыць яна цяпер абывацелям памежжа, але ў далёкім мінулым, (паводле мясцовай легенды) была ўласнасцю аднаго шляхціца, якому, вядомая ў нашай гісторыі каралева Бона, падаравала столькі зямлі, колькі ён мог абысці, г. зн., заараць адной сахой ад усходу да заходу сонца. Шляхціц прааараў вялікі круг, і адсюль пайшла назва Абсоч.

Другой цікавай рэччу, ёсць прыгожая сасна на беразе Нёмана, у лесе маршалка Марачэўскага. Форма яе па-сапраўднаму незвычайная: вельмі тоўсты ствол разыходзіцца на дзве больш тонкія галіны, якія ўтвараюць вялікае акно, а потым яны зноў зліваюцца у адзін ствол, які заканчваецца наверсе густым вянком з галін. Праз гэтае акно нейкі сабака кусае людзей і жывёл, і гэта, на думку мясцовых людзей, з'яўляецца надзейнай абаронай супраць шаленства.

*Леанід Лаўрэш*

# Астрынская, Глыбоцкая і Дэмбраўская цэрквы Лідскага павета, але Гарадзенскага дэканата

З рэестра інвентароў вернікаў Лідскага дэканата 1827, 1828 і 1829 гг.[1] бачна, што Лідскі дэканат, незадоўга да скасавання грэка-каталіцкай царквы, складаўся з вялікай колькасць цэркваў розных паветаў.

Лідскага: Дзікушкі, Голдава, Бабры, Збляны, Нагародавічы, Ганчары, Дакудава, Жыжма, Ліда, Мыто, Радзівонішкі, Лебяда, Маламажэйкава, Ракавічы, Турэйск, Орля, Сабакінцы, Глыбокае, Астрына, Дэмбрава,

Слонімскага: Дзятлава, Молчадзь, Новаельня

Наваградскага: Дварэц, Марозавічы, Ахонава, Ізва

Але пры гэтым тры грэка-каталіцкія парафіі: Астрынская, Дэмбраўская і Глыбоцкая, знаходзіліся ў Лідскім павеце, але ўваходзілі ў Гарадзенскі дэканат.

## Парафія ў Астрыне

Гарадзішча каля вёскі Кульбачына (3 км ад мястэчка Астрына) размешчана на беразе ракі Астрынкі і належыць да тыпу гарадзішчаў, умацаванні якіх не залежаць ад рэльефу мясцовасці. Аналіз археалагічнага матэрыялу паказвае, што паселішча ўзнікла ў канцы X ст. у ходзе каланізацыі Панямоння славянскім насельніцтвам. З самага пачатку гэта была цвердзь - апорны пункт асваення правабярэжжа Нёмана, у глыбіні балцкіх зямель, потым, з XII ст. пасяленне стала памежнай цвердзю Гарадзенскага княства і феадальнай сядзібай - замкам[2].

Верагодна, упершыню ў пісьмовых крыніцах Астрына згадваецца ў літоўска-крыжацкім дагавары 1379 г.[3] Наступнае згадванне знаходзім у "Паведамленнях аб літоўскіх шляхах" ("Die Littauischen Wegeberichte") якое было напісана на мяжы XIV-XV ст.[4]

У 1556 г. святары астрынскай царквы Іван Яновіч, Фёдар Антраповіч і дыякан Лагвін Апанасавіч *"били челом"* каралю Жыгімонту II Аўгусту, друйскаму старасту Станіславу Давойне і іншым *"державцом Острынским"*. Чалабітчыкі даводзілі, што іх царкве быў нададзены немалы фундуш панамі Зяневічамі (Зэнявічове) - продкамі *"тивуна Виленского и державцы Ушполького, Пенявского і Радуньского Шимки Мацковича"* [5]. Праўда, праз пэўны час гэты фундуш зменшыўся, бо іншы дзяржаўца пан Пётр Фалеўскі забраў чатыры валокі, і пры царкве засталіся толькі тры валокі зямлі. Сваёй граматай ад 4 жніўня 1556 г. Жыгімонт Аўгуст гэтыя тры валокі юрыдычна замацоўваў за Астрынскай царквой[6]. У 17-м томе АВАК у тэксце палюбоўнай згоды ад 15 лютага 1540 г. гаспадарскага свечніка Каленіка Васюковіча з яго цёткай Сценай Зенькавай, верагодна, згадваецца жонка Зенявіча[7]. Пасля Шымкі Мацкавіча Астрыной нейкі час валодалі яго нашчадкі.

У візітацыі царквы 13.05.1696 г. запісана: *"Мы былі на візітацыі ў вялебнага а. Феліцыяна Якімовіча, астрынскага празбітара, які трымае царкву Святога Спаса фундацыі Іх Міласцяў Каралёў. Фундуш знаходзіцца ў згаданага вялебнага а. Якімовіча. Загадалі яму перадаць фундуш у архіў, таксама і ў папярэднім акце візітацыі было запісана, каб гэты фундуш быў перададзены ў архіў, але ранейшы святар, нябожчык, вялебны а. Ян Якімовіч, астрынскі празбітар не перадаў, покуль яго смерць не нагнала"* [8]. Як бачым, пасля чарговага загаду, Астрынскі празбітар а. Феліцыян Якімовіч перадаў гэтую каралеўскую грамату царквы Святога Спаса для запісу *"ва ўрадавыя кнігі"* [9]. На вышэйзгаданую каралеўскую грамату ў 1696 г. спасылаўся пробашч астрынскай царквы св. Спаса айцец Феліцыян у сувязі з разглядам судовай справы аб нявыплаце царкве даходу з фундушавых валокаў.

---

[1] LVIA Ф. 634. Воп. 1. Сп. 10. Арк. 1 а.

[2] Піваварчык С. Беларускае Панямонне у раннім сярэднявеччы (X-XIII ст. ст.) // BZH. № 2 (6). 1996. С. 7-18.

[3] Ліцкевіч А.У. Гародня і Гарадзенскі рэгіён у другой палове XIII-XIV ст. назва і межы // Гарадзенскі палімпсет, 2012. Людзі старой Гародні. XV-XX ст. С. 36.

[4] Scriptores Rerum Prussicarum. Die Geschichtsquellen der Preussischen Vorzeit bis zum Untergange der Ordensherrschaft. Bd. 2. Leipzig, 1863. S. 701-708.

[5] Фундатар Маламажэйкаўскай царквы Шымка Мацкавіч сярод іншай маёмасці меў Астрыну і Забалаць (Wolff J. Kniaziowie litewsko-ruscy. Warszawa. 1895. S. 372).

[6] АВАК. Том 33. Вильна, 1908. С. 51-53.

[7] АВАК. Т. 17. Вильно, 1890. С. 74-75.

[8] Лісейчыкаў Д. В. Звон з Каложы і падсвечнікі з Караляўца: візіты ўніяцкіх цэркваў Гарадзенскай пратапопіі 1696 г. // Архіварыюс. Зборнік навуковых паведамленняў і артыкулаў. Вып. 16. Мінск, 2018. С. 78.

[9] АВАК. Т. 33. Вильно, 1908. С. 52.

З візітацыі царквы 1696 г. даведваемся: *"Сама царква драўляная. Дэісусам* (іканастас з абразамі дэісуснага чыну - *Л.Л.*) *і абразамі як належыць аздобленая. Верх царквы патрабуе рамонту. У Вялікім алтары святыя дары ў пацiры без накрыўкі. Літон* (абрус які на прастоле сімвалізуе вопратку Хрыста - *Л.Л.*) *адзін. Пацір з дыскасам, зорка і лыжачка з волава …"*. Цікава, што на абразе Найсвяцейшай Панны *"крыжык срэбны маскоўскі"*. Візітатары адзначаюць, што *"сам святар добры, ніякіх скарг на яго не было"*. Але *"парафія няслушна страчвае хросты, службы, пахаванні, якія адпраўляюць ЯМ Станіслаў Апільскі, лядскі пробашч і другі кс. Пацукевіч, васілішскі пробашч"* і далей, у тэксце неразборліва, яшчэ нейкі ксёндз з Новага Двара[10].

У "Падымным рэестры шляхты Лідскага павета 1728" г. згадваецца нейкі *"Айцец празбітар Астрынскай царквы, тры чвэрці дыма"* [11].

Тэрытарыяльна Астрынская грэка-каталіцкая парафія перакрыжоўвалася з Новадворскай рыма-каталіцкай. У вопісе Навадворскай парафіі 1784 г. чытаем: *"Астрынская парафіяльная царква, на землях васпана Зянковіча, старасты астрынскага"*. З гэтага ж вопісу даведваемся, што дарога з Новага Двара ў Лядск *"... ідзе да Астрыны, мястэчка васпана Зянковіча. Уехаўшы ў мястэчка цераз брод, потым цераз мост і грэблю да карчмы, якая стаіць каля самага рынку, адсюль па левую руку цераз мост і грэблю каля млына, далей [трэба ехаць] каля царквы і прама на вёску Баклажнікі да фальварка Кульбачына васпана Сцыпіёна..."* [12]. А галоўнай дарогай, на якой ляжала Астрына, быў так званы Мытлянскі гасцінец, які з Ліды ішоў на Васілішкі, Астрыну, Азёры і далей да Гародні[13]. У вопісе Васілішскай рыма-каталіцкай парафіі 1784 г. таксама знайходзім *"каралеўскае мястэчка"* Астрыну[14].

Прафесар Літоўскай семінарыі І. Юркевіч пісаў у 1853 г. пра Астрыну: *"Гэта мястэчка, якое калісьці належала да так званых каралеўскіх "сталовых" маёнткаў, а зараз скарбовае. Падобна іншым мястэчкам Заходніх губерняў, мае каралеўскія прывілеі* (Магдэбургскае права - *Л. Л.*)*, 16 чэрвеня 1792 г. кароль Станіслаў Аўгуст пацвердзіў права мястэчка Астрына дыпломам "Renovationis", які напісаны ў Варшаве залатымі літарамі на пергаменце. Астрынскую царкву Святога Спаса першапачаткова фундушом надзяліў цівун Шымка Мацкавіч з абшарнікамі Зянявічамі. У 1556 г., 4 жніўня, гэты фундуш зацвердзіў у Вільні кароль Жыгімонт Аўгуст"* [15].

Больш пра гэта старажытнае мястэчка можна даведацца са "Слоўніка геаграфічнага…": *"Астрына раней была досыць гандлёвым мястэчкам. … Магдэбургскае права атрымала ад караля Уладзіслава IV у 1641 г. У 1666 г. канцлерам ВКЛ Крыштафам Жыгімонтам і Кларай Ізабэлай (парыжанкай з роду дэ Майлі Ласкарыс) Пацамі тут быў фундаваны касцёл. У часы Рэчы Паспалітай Астрына была цэнтрам неградовага староства. У 1771 г. ім валодаў інстыгатар ВКЛ Андрэй Зянковіч. Каля 1508 г. астрынскім старастам быў падсарбій ВКЛ Федзька Багданавіч Храбтовіч"* [16]. Дарэчы, у 1673 г. менавіта Крыштаф Пац дабіўся прыняцця закона, паводле якога кожны трэці Сойм Рэчы Паспалітай павінен быў праходзіць у Гародні.

У першай палове XIX ст. у Астрыне стаяла старая драўляная прыходская Прэабражэнская царква, аб часе пабудовы якой звесткі адсутнічалі[17]. На яе званіцы знаходзіўся звон з надпісам па-стараславянску[18].

Новы мураваны храм, які быў пабудаваны замест старой драўлянай царквы быў асвечаны 11 ліпеня 1865 г. Пасля асвячэння царквы быў высвечаны пачатак будаўніцтва прыходскай вучэльні і Астрынскай сельскай управы[19]. "Слоўнік геаграфічны …" паведамляў, што ў 1886 г. акрамя мураванай царквы мелася яшчэ і драўляная капліца[20].

## Парафія ў Глыбокім

Вядома, што каля 1593-1601 г.г. Глыбокае належала наваградскаму кашталяну Аляксандру Палубінскаму[21].

[10] Лісейчыкаў Д.В. Звон з Каложы і падсвечнікі з Караляўца: візіты ўніяцкіх цэркваў Гродзенскай пратапопіі 1696 г. // Архіварыус: зб. навук. паведамл. і арт.; вып. 16 / рэд. В.Ф.Голубеў [і інш.]. - Мінск: НГАБ, 2018. - С. 78.

[11] Лаўрэш Леанід. Падымны рэестр шляхты Лідскага павета, 1728 г. // Лідскі Летапісец. 2022. № 3-4 (99-100). С. 43-60. С. 50.

[12] Парафія Навадворская // Лідскі летапісец. 2013. № 2 (62). С. 45., 47.

[13] Шымялевіч Міхал. Збор твораў / укл. Л. Лаўрэш. Гродна, 2019. С. 39.

[14] Парафія Васілішская // Лідскі Летапісец. 2014. № 1(65). С. 26.

[15] Юркевич И. Остринский приход // Этнографический сборник издаваемый Императорским русским географическим обществом. Вып. 1. Санктпетербург, 1853. С. 283-284.

[16] Slownik Geograficzny Krolestwa Polskiego. T. 7. Warszawa, 1886. S. 733-734.

[17] Материалы для географии и статистики России, собранные офицерами генерального штаба. Виленская губерния. СПб., 1861. С. 551.

[18] Труды Виленского отделения Московского предварительного комитета по устройству в Вильне IX Археологического съезда. Отдел II. Вильна, 1893. С. 111.

[19] ЛЕВ. 1865. № 15. С. 566-577.

[20] Slownik Geograficzny Kroestwa Polskiego. T. 7. S. 733-734.

[21] Гл: AGAD. AR. Dz. X. Syg. 4.

Царква ў Глыбокім падчас візітацыі 1681 г. адносілася да лідскага дэканату (пратапопіі)[22].

У акце візітацыі 1696 г. запісана: *"Вялебны а. Пётр Багдановіч, празбітар, трымае Глыбоцкую царкву Св. Мікалая. Згодна з пратаколам ранейшай візітацыі не дастае антымісу …які забраў астрынскі празбітар а. Феліцыян Якімовіч і да гэтага часу трымае. Загадалі, каб аддаў яго глыбоцкаму святару. А зараз пра антыміс с.п. кс.* (мітра-паліта - *Л.Л.*) *Селявы, які мы загадалі абавязкова перадаць у капітулу. … З'явілася новае: вялікі звон і алавяная дарахавальніца з верхам. Скаргаў на самога вялебнага айца не было, толькі сам вялебны айцец скардзіўся на астрынскага вялебнага айца, які* post decessum (пасля смерці - *Л.Л.*) *а. Пятра Татарчыца*[23]*, продка вялебнага айца, забраў яго рэчы …"* [24].



***Старая ўніяцкая царква ў Глыбокім, каля 1900 г.***

Глыбоцкая (Глэмбоцкая) царква Св. Мікалая, угодніка Божага, згадваецца ў "Ведомости о церквах, церковных фундушах, имениях … митрополичей литовского-виленской епархии …" за 1811 г.[25] Пры ёй была прыпісная царква на могілках ў вёсцы Гершты, заснаваная ў 1816 г. мясцовымі сялянамі[26].

У Нацыянальным гістарычным архіве Беларусі ў г. Гародня ёсць дакумент ад 22 лістапада 1834 г. "Справа па прашэнні святара Глыбоцкай царквы Ядкоўскага аб перадачы касцёла скасаванага Шайбакпольскага Францішканскага кляштара ў прыходскую Глыбоцкую царкву" [27]. Вядома, што ўладальнік Шайбакполя Лукаш Александровіч у 1737 г. фундаваў Францішканскі драўляны кляштар з драўляным касцёлам пад тытулам Св. Бенедыкта. Казімір Александровіч, падчашы лідскі, тастамантам ад 5 чэрвеня 1754 г. запісаў францішканцам у Шайбакполі лугі Драцілішкі на рацэ Дзітва і загадаў сваім нашчадкам пабудаваць капліцу ў маёнтку Пеляса, якую як філію ахвяраваў тым жа францішканцам. Згодна з люстрацыяй 1796 г. мясцовыя францішканцы атрымалі фундушовы фальварак Старадворцы з вёскай у 7 дымоў. У 1825 г. Шайбакпольскі канвент меў склад: гвардыян кс. Базыль Рудзкі, канцыанатар кс. Лукаш Невяроўскі, Тамаш Шалевіч, манахі - Андрыян Невяроўскі, Тамаш Шалевіч, Антон Вітвіцкі і клерык Венцаслаў Ілгевіч. Кляштар быў скасаваны ў 1832 г.[28]

Не магу не прывесці тут характэрны аповяд пра нейкага пана Якімовіча, які падае Тэадор Нарбут і цытуе ў сваім артыкуле пра Шайбакполе Міхал Шымялевіч: *"Ён* (Якімовіч) *пасля закрыцця кляштара францішканцаў у Шайбакполі Лідскага павета атрымаў у валоданне ад скарбу фальварак з сялянамі і гаспадарскія пабудовы былога кляштара, дзе і жыў. Падобна, што, рамантуючы будынкі, ён знайшоў на кляштарным паддашшы, заваленыя рознай непатрэбнай мэбляй старыя паперы і стосы друкаваных кніг. Кнігі і паперы былі ўжо збуцвелыя і паедзеныя мышамі. З гэтых крыніц і быў напісаны біяграфічны нарыс біскупа*[29]*. Таксама быў там збор рэцэптаў і сакрэтаў алхімічных, але гаспадар мне іх не паказваў. Згодна з нейкім рэцэптам, (Якімовіч) хацеў зрабіць нейкі бальзам. Для гэтага, як патрабаваў рэцэпт, ён знайшоў цнатлівую дзяўчыну ва ўзросце 18 гадоў. Уважліва вывучыўшы паперы, алхімік развёў агонь у пустых склепах пад былым касцёлам, пры гэтым агні прыставіў флягу ці шкляную колбу, а сам разам з дзяўчынай раздзеліся дагала і пільнавалі начынне колбы, якое складалася з гаручых матэрыялаў. Хутка колба лопнула, адбыўся моцны выбух агню, ад чаго сам алхімік і*

[22] Лісейчыкаў Д.В. Звон з Каложы і падсвечнікі з Караляўца: візіты ўніяцкіх цэркваў Гарадзенскай пратапопіі 1696 г. С. 67.

[23] А. Пётр Татарчыц, ранейшы святар царквы ў Глыбокім.

[24] Лісейчыкаў Д.В. Звон з Каложы і падсвечнікі з Караляўца: візіты ўніяцкіх цэркваў Гарадзенскай пратапопіі 1696 г. С. 78-79.

[25] Описание документов архива западнорусских униатских митрополитов. Т. 2. СПб., 1907. С. 681.

[26] Материалы для географии и статистики России, собранные офицерами Генерального штаба. Виленская губерния. СПб., 1861. С. 550.

[27] Нацыянальны гістарычны архіў Беларусі ў г. Гродна. Ф. 1, воп. 27, спр. 712.

[28] Шымялевіч Міхал. Збор твораў. С. 127.

[29] Віленскага біскупа Андрэя Васілы, факты з жыцця біскупа Тэдор Нарбут атрымаў *"з невядомага рукапісу невядомага аўтара XVII ст."*. Рукапіс гэты ён атрымаў ад *"пана Якімовіча, які трымаў маёнтак па францішканцах Шайбакоўскага кляштара ў Лідскім павеце і жыў у саміх кляштарных пабудовах, дзе і знайшоў, як ён сам казаў "завалы старых папераў, ад рукі напісаных""*. - гл. Шымялевіч Міхал. Збор твораў. С. 126.

*дзяўчына атрымалі апёкі, ад якіх хутка памерлі. Гэта было ў 1837 г. Якімовіч у гэты час меў 35 ці 37 гадоў узросту"* [30].

23 верасня 1879 г. у Глыбокім высвечана пабудаваная за кошт дзяржаўнага скарбу царква[31]. Падчас асвячэння, Шчучынскі дабрачынны а. Мікалай Пігулеўскі сказаў, што ранейшая царква зусім старая і малая і таму на святы палова вернікаў стаяла на вуліцы. Дабрачынны адзначыў ахвярнасць мясцовага абшарніка сп. Мікульскага, які *"сам не з'яўляецца прыхаджанінам гэтага храма … ахвяраваў на гэтую царкву ўвесь неабходны лясны матэрыял і саступіў пляц пад царкву. Ахвяраванне сп. Мікульскага можна ацаніць у 1000 рублёў. … Гэтай справай сп. Мікульскі працягнуў справу сваіх продкаў па ўпрыгожванні мясцовай царквы, што вам даўно вядома. Бо яны ёсць галоўнымі ахвярадаўцамі пры пабудове старой царквы, … без яго матэрыяльнай дапамогі наўрад ці … быў бы пабудаваны ранейшы, параўнальны бедны храм"* [32].



***Дэмбрава, на фоне храма Святой Тройцы мы бачым ўжо ўдовага а. Паўла Лебедзева з малодшымі дочкамі, каля 1900 г.***

У 1889 г. у часопісе "Збор звестак па айчыннай антрапалогіі" ("Zbior wiadomosci do antopologii krajowej" 1889. Т. 13.) Уладзіслаў Вярыга апублікаваў працу "Беларускія думкі з вёскі Глыбокае Лідскага павета Віленскай губерні, запісаныя ў 1885 годзе", якая змяшчае 42 беларускія народныя песні.

Старую, верагодна, яшчэ ўніяцкую Мікалаеўскую царкву, пра якую кажа дабрачынны, можна ўбачыць на фотаздымку Яна Балзункевіча, зробленым каля 1900 г.

## Парафія ў Дэмбраве

З візітацыі 1696 г. бачым, што Дэмбраўскую царкву Святой Тройцы, якую фундавалі ЯП Копці, трымаў вялебны а. Марцыян Занеўскі. На момант візітацыі ў царкве не было акта фундушу. Папярэдні святар царквы а. Рыгор Занеўскі (бацька а. Марцыяна) павінен быў падаць пратэстацыю на страту фундушовага запісу, якая адбылася пры адным з яго папярэднікаў а. Філону Рамашкевічу.

З акта візітацыі 1696 г. даведваемся, што *"сама царква драўляная. Усе рэчы, запісаныя ў папярэднім акце візітацыі, знаходзяцца ў царкве. Да ранейшых дадаліся: пацір з дыскасам, прыгожая срэбная таблічка (вота), чатыры срэбныя ножкі (воты), царкоўнае начынне з бляхі і два алтарныя малыя званы. Невядома з якой рацыі, вялікі царкоўны звон забралі да сабе а. езуіты, вялебны айцец не паказаў ніякага дакумента і нават не званіў у звон, калі прыехалі візітатары"* [33]. Як бачым, прыезд візітатара належала суправаджаць царкоўным звонам, але а. Марцыян Занеўскі аддаў вялікі царкоўны звон езуітам. Як вядома, святар, да якога прыехалі візітатары, мусіў забяспечыць іх харчаваннем і начлегам у сваім доме (плябаніі). Таксама яго абавязкам было забеспячэнне кормам візітатарскіх коней. Але калі высветлілася, што плябанія пры царкве ў м. Дэмбрава Лідскага павета з-за нядбайнасці гаспадара адсутнічае, візітатары мусілі былі спыніцца ў карчме[34].

Верагодна, вышэйзгаданая царква да XIX ст. струхлела, і ў 1830 г. вернікі пабудавалі новую драўляную царкву[35].

22 лістапада 1834 г. па загадзе Гарадзенскага губернатара касцёл у Дэмбраве быў перададзены пад уніяцкую прыходскую царкву[36] і, верагодна, яго мы бачым на здымку Яна Балзункевіча, зробленым каля 1900 г. На здымку на фоне храма Святой Тройцы мы бачым ўжо ўдовага а. Паўла Лебядзева з малодшымі дочкамі.

Вядома, што ў 1886 г. у мястэчку былі 2 царквы.

У першай палове XX ст. драўлянай царквы ўжо не існавала. Праваслаўная царква св. Іаана Багаслова (XIX ст.) перавезена ў 1993 г. з вёскі Завалкі.

[30] Шымялевіч Міхал. Збор твораў. С. 126.

[31] ЛЕВ. 1979. № 40. С. 319.

[32] ЛЕВ. 1979. № 44. С. 353-354.

[33] Лісейчыкаў Д.В. Звон з Каложы і падсвечнікі з Караляўца: візіты ўніяцкіх цэркваў Гарадзенскай пратапопіі 1696 г. С. 77.

[34] Там жа. С. 68.

[35] Материалы для географии и статистики России, собранные офицерами Генерального штаба. Виленская губерния. СПб., 1861. С. 550.

[36] Нацыянальны гістарычны архіў Беларусі ў г. Гародня. Ф. 1, воп. 27, спр. 713.

*Дадаткі*

# Інвентар Астрынскага староства 1765 г.[37]

У Лідскім павеце, дзяржава васпана Андрэя Зянковіча, інстыгатара ВКЛ, згодна з Канстытуцыяй 1764 г. прынятай на Канвакацыйным Сойме ... [выкананая] праз Юзафа Казімірам Стыпалкоўскага, гродскага суддзі і Юзафа Длускага, канюшага, чыноўнікаў і люстратараў Лідскага павета ... праз ЯВп Дамініка Нямежыновіча, астрынскага эканома ...

20 жніўня 1765 г.

### Апісанне пабудоў двара

Прыехаўшы з мястэчка да двара:

Старая брама са старым дахам з гонты. Далей па правы бок - стары будынак рэзідэнцыі староства, з ганкам, крыты гонтай. Недалёка новы будынак з вялікімі выгодамі, яшчэ незакончаны. За ім ў полі такі ж.

Новая лядоўня з круглага дрэва, крытая саломай. Ад гэтай лядоўні, вярнуўшыся назад да старога будынка [убачым] пры яго тарцы ... сажалку.

Новы будынак фальварка крыты дранкай, каля яго добрая рэзідэнцыя для эканома. Каля іх агароджанае гумніска з круглага дрэва. За ім невялікая спіжарня (амбар - *Л.Л.*) з ганкам, крытая саломай, ад спіжарні недалёка новая адрына з круглага дрэва, крытая саломай, каля адрыны, папярок кутом будуецца новае вялікае гумно, таксама з круглага дрэва. З другога боку, таксама кутом, пабудавана другая адрына, крытая саломай, з круглага дрэва ... .

Новая абора з круглага дрэва пабудавана квадратам, крытая саломай ... .

Малая старая стайня, крытая дранкай, стаіць тут жа.

Хлявок для гусей са старым свіранам ... .

Другая стаенка, крытая дранкай, з яслямі і драбінамі.

... трэцяя новая стаенка, крытая дранкай. Ад яе, ў напрамку да старога будынка, стаіць вялікая сяноўня на чатырох слупах. За ім, недалёка, ззаду, стары бровар, крыты дранкай, са студняй з калаўротам.

Ад гэтага бровара далей, над ставам, будзе вышэй апісаная брама. ...

Спіжарні дзве ў адным зрубе, крытым дранкай. Недалёка млячарня ... .

Дзядзінец і фальваркавы падворак часткова агароджаны, агароджа з круглага дрэва.

### Апісанне дворных садоў

1. Сад вялікі за фальваркам.
2. Малы сад каля фальварка.
3. Вялікі сад за лядоўняй.
4. Малы сад хмелю каля сяноўні.

### Апісанне палеткаў і абшараў

1. Поле ва ўрочышчы Дворышча ад Кульбачына.
2. Поле ва ўрочышчы Маўсёўня каля Дворышча.
3. Поле ва ўрочышчы Царковішча.
4. Поле ва ўрочышчы Касцяноўшчына.
5. Поле ва ўрочышчы Паўкоўшчына.
6. Поле ва ўрочышчы Мяшчанка.
7. Поле ва ўрочышчы Абруб, нававырабленае.
8. Поле ва ўрошчышы Слуцкія валокі ці Канюшкі.

Гэтыя палі, у большай меры, абрабляюць месцічы і аддаюць трэцюю частку.

### Апісанне сенажацей двара

1. Сенажаць каля поля Дворышча.
2. Сенажаць каля поля Маўсёўня.
3. Сенажаць каля поля Царковішча.
4. Сенажаць каля поля Касцяноўшчына.
5. Сенажаць каля поля Лайкоўшчына.
6. Сенажаць каля поля Мышчанкі
7. Сенажаць над ставам.
8. Сенажаць Пастаўнік за гумнамі.
9. Сенажаць, ... ад лазні.

### Азёры двара

1. Возера Бярштовіца.
2. Возера Доўгае.
3. Возера Суботняе.
4. Возера Глінішчы.
5. Возера Шчучы.
6. Возера Ярузын.
7. Возера Гімніца.
8. Возера Яроўскае пад Салатамі.

За ўсе азёры штогод плацяць 600 злотых.

### Пушчы і лясы

Згодна з былымі спісамі межаў і граніц у даўніх інвентарах, якія апісвалі Гарадзенскую эканомію ... з рознай дзедзічнай маёмасцю ... дасканала павінны ведаць.

### Ставы і млыны

1. Стаў у Ціхаве з млынам.
2. Стаў па-за дваром ... з млынам.

[37] ДГАЛ Ф. 11. Спр. 30. Lustracja starostw, dzierzaw i innych Krolewszczyzn w powiecie Lidzkim sytuowanych w r. 1765.

**Партыкулярныя корчмы**

1. Карчма Бярозаўская, 530 зл.
2. Карчма Шастакоўская, у арэндзе мястэчка.
3. Карчма Рычанская, 100 зл.
4. Карчма Шчанецкая, 250 зл.
5. Карчма Кулавецкая, 250 зл.
6. Карчма Пугачоўская, 100 зл.
7. Карчма Бакштанская, 220 зл.
8. Карчма Малятыцкая, 120 зл.
9. Карчма Лучкоўская, 150 зл.
10. Карчма Пялоўская, 200 зл.

Разам - 2 020 зл.

| Дымы | Пляцы | | Валокі | | Моргі | | | Грашовая плата | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | асадныя | палявыя | чыншавыя | вольныя | ралля | сенажаці | | злотыя | грошы | шэлягі |
| Рынок | | | | | | | | | | |
| 1-я лінія ад вуліцы Дворнай да вуліцы Скідальскай | | | | | | | | | | |
| 1 | 1/2 | | | | | | Карчма скарбовая | 1 | | |
| 2 | 1 | 2 | 4 | | | | Яцка Левусевіч | 11 | 10 | |
| 3 | 1/2 | | 2/3 | | 3/4 | | Васіль Жалесня | 8 | 12 | 1½ |
| 4 | 3/4 | 4 3/4 | 1/2 | | 1½ | | Яцка Абрамовіч | 12 | 22 | 1½ |
| 5 | 3/4 | | 1/6 | | | | Мойша Калясовіч | 3 | 15 | |
| 6 | 3/4 | | 3 | | | | Мікалай | 4 | 25 | |
| | | | | | | | Качынскі | | | |
| 2-я лінія | | | | | | | | | | |
| 7 | 3 | | | | | | Дом скарбовы за які плаціць кагал | 6 | | |
| 8 | 1 ½ | 1 ½ | 1/2 | | | | Мойша Міцкевіч | 9 | 15 | |
| 3-я лінія | | | | | | | | | | |
| 9 | 1/3 1/2 | 1/2 | | | | | Янкель Шмеркович | 1 | 5 | |
| 10 | 1 | 1/2 | | | | | Мойша Янкелевіч | 2 | 15 | |
| 11 | 1/2 | | 1/4 | | | | Арон Захарэвіч | 3 | 15 | |
| 12 | 1/2 | | | | | | Абрахам Ізраілевіч | 1 | | |
| 4-я лінія | | | | | | | | | | |
| 13 | 1/2 | | | | | | Абель Эльяшэвіч | 1 | | |
| 14 | 1/2 | | | | | | Янкель Лезаровіч | 1 | | |
| 15 | 1 | 1/2 | 1/4 | | 1/2 | | Мойша Мейеровіч | 5 | 15 | |
| 16 | 1/2 | 1/2 1/2 | 1/3 1/4 | | 1/8 | | Сымон Ізраілевіч | 14 | 10 | |
| 17 | 1 | 6 | 1/3 | | 3¾ | | Гірш Давідовіч | 15 | 2 | 1 |
| 18 | 1 1/4 | 4 1/4 | 2 1/3 | | 1½ | | Мойша Абрамовіч | 16 | 25 | |
| 19 | 1 1/4 | | | | | | Давід Нехцяловіч | | 15 | |
| 20 | 1 | | | | | | Ясь Нехцяловіч | 2 | | |

| | | | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Вуліца Дворная | | | | | | | | | | |
| 21 | 1 1/4 | | 1/4 1/6 | | 1½ | 1/2 | Дамінік Дзямідовіч | 7 | 12 | 12 |
| 22 | 1 1/2 | | 1/4 | | 3/4 | | Томаш Слатынскі | 4 | 22 | 1½ |
| 23 | 1 | | 1/2 1/8 | | | | Даніла Яўхімовіч | 4 | 4 | 1/2 |
| | 1 | | | | | | Каменда (памяшканне - Л. Л.) Пяцігорскай харугвы | | | |
| 24 | 3/4 | | | | | | Іцка Рубіновіч цырульнік | 1 | 22 | 1½ |
| 25 | 1/2 | | | | | | Бабрыцкая, яўрэйка, удава | | 15 | |
| Вуліца Скідальская, левы бок ад рынку | | | | | | | | | | |
| 25 | 2 1/2 | 1/2 | 1/2 1/16 | | 1 | 1/2 | Эльяш Антановіч | 10 | | |
| 26 | 1/2 | | | | | | Мардух Лейзаровіч | | 15 | |
| 27 | 3/4 | 1/4 1/3 | | | | | Стэфан Нямейка | 6 | 17 | 1 ½ |
| 28 | 3/4 | | 1/2 | | 1 | 1/4 | Хвёдар Табакала | 4 | | |
| 29 | 1 1/2 | 1/4 1/6 | | | | | Томаша Траяновіч | 5 | 20 | |
| 30 | 1 | 1 | 1/2 1/16 | | | | Ян Ванатоўскі | 4 | 15 | |
| 31 | 1 1/4 | 1 | 3/4 | | 1/4 | | Міхал Антановіч | 10 | | |
| 32 | 1 1/2 | 1/2 | 1 1/8 | | 2 ¾ | 1 | Ян Стэфановіч | 14 | | |
| Вуліца Скідальская, правы бок у даўжыню | | | | | | | | | | |
| 33 | 1 | | | | | | Дом скарбовы за які плаціць мястэчка | 1 | | |
| 34 | 2 | | 1/2 | | 1/2 | 1/4 | Дамінік Навіцкі | 7 | 22 | 1 ½ |
| 35 | 14 | | 1/2 1/8 | | | | Стэфан Венатускі | 7 | 15 | |
| 36 | 1 1/2 | | 3 1/4 | | 1 | 1 | Якуб Басько | 9 | 10 | |
| 37 | 1 1/2 | | 1/4 | | 2 | 1 | Васіль Каранкевіч | 7 | | |
| 38 | 1 | | 6 1/8 | | | | Ян Каранкевіч | 3 | 24 | |
| 39 | 1/4 | | | | | | Эльля, кравец | | 4 | 1 ½ |
| 40 | 1/4 | | | | | | Копель Юдовіч | | 4 | 1 ½ |
| Вуліца Гродзенская, левы бок | | | | | | | | | | |
| 41 | 1 | | | | | | Шмуйла Школьнік | 1 | | |
| 42 | 1/2 | | | | | | Шмуйла Карабейнік | | 15 | |
| 43 | 1 | 1/2 | 1/4 | | | | Цімох Цілюк | 4 | | |
| 44 | 1 3/4 | 1/2 | 1/4 1/8 | | | | Хвёдар Каранкевіч | 6 | | |

| | | | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Вуліца Гродзенская, правы бок | | | | | | | | | | |
| 45 | 1 1/2 | | 48 | | | 1/4 | Яська Стэфановіч | 5 | 15 | |
| 46 | 1 | | 1/4 | | 1 | 1/2 | Мацей Бабковіч | 5 | | |
| 47 | 1 3/4 | 1/3 | 2 | | 2 ½ | 1/2 | Алсська Намейка, войт | 15 | 12 | 1 ½ |
| 48 | 3/4 | | | | | | Мойша Мардуховіч | | 2 2 | 1½ |
| 49 | 1 | | | | | | Зэльман Мардуховіч | 1 | | |
| 50 | 1 1/4 | | 1/4 | | 3/4 | 1/2 | Алеська Амельянчык | 5 | 4 | 1 ½ |
| | 1/2 | | | | | | Яўрэйскі шпіталь | | 15 | |
| 51 | 1/4 | | | | | | Мойша Мейеровіч | | 4 | 1 ½ |
| Завулак | | | | | | | | | | |
| 52 | 1/8 | | | | | | Яўрэйская школа | 1 | | |
| | | | | | | | Еўфраім Сапфаёвіч | | 3 | ¼ 1/8 |
| 53 | 1/8 | | | | | | Аўсіц Юдовіч | | 3 | ¼ 1/8 |
| Вуліца Занякоўская, левы бок | | | | | | | | | | |
| 54 | 1/2 | | | | | | Хаім Мейеровіч | | 15 | |
| 55 | 1/2 | | | | | | ... Яковіч | | 15 | |
| 56 | 1/2 | | | | | | ... Гіршовіч | | 15 | |
| 57 | 1/2 | | | | | | Мардух, яўрэй, кушнер | | 15 | |
| 58 | 1/4 | | | | | | Абрам Мейеровіч | | 4 | 1/2 |
| 59 | 1 | 1 1/2 | 3/4 | | 3/4 | 1/2 | Хвёдар Амельянчык | 11 | 4 | 1 ½ |
| 60 | 1/2 | | | | | | Явар Кадушкевіч | | 15 | |
| 61 | 1/2 | | 1/8 | | 1/2 | | Томаш Лемяноўскі | 2 | 4 | 1 ½ |
| 62 | 3/4 | | 1/4 8/11 | | 1/2 | | Савосця Лемяноўскі | 5 | 18 | 1 ½ |
| 63 | 1/2 | | 1/4 | | | | Юзаф Кандыба | 3 | | |
| 64 | 1 ½ | 3 | 1/2 | | 1 1/3 | 1/2 | Леон Маевіч | 11 | 22 | 1 ½ |
| 65 | 1 | | 1/4 | | | | Удава Ляшкевіча | 3 | 15 | |
| 66 | 1/2 | 1 ½ | ¼ 1/8 | | 1 ¼ | 1 ½ | Грыгор Каренкевіч | 10 | | |
| Вуліца Зянявікоўская, правы бок | | | | | | | | | | |
| 67 | 1 | | ¼ 1/8 | | 1 ¼ | 1 | Ян Квач | 7 | | |
| 68 | 1 ½ | | 1/2 | | 1 | | Андрэй Ваналоўскі | 4 | 15 | |
| 69 | 3/4 | | 6 1/8 | | 3 | 3/4 | Мацей Лях | 5 | 5 | |
| 70 | 3/4 | 1/2 | 1/4 | | 2 ¼ | 1 | Якуб Бляхоўскі | 7 | | |
| 71 | 3/4 | 1 ½ | 1/3 | | 1/2 | 1/2 | Пятрук Бляхоўскі | 4 | 14 | 1 ½ |

| | | | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 72 | 3/4 | 1 3/4 | 3 1/4 | | | | Васіль Рымашкевіч | 8 | 10 | |
| 73 | 3/4 | 1/2 | 1/2 | | 3/4 | | Антон Чахоўскі | 7 | | |
| 74 | 3/4 | | 1/6 | | | | Ян Лянцэвіч | 2 | 12 | 1 ½ |
| 75 | 1 | 1/2 | 2 8 ¼ 1 | | 2 | 1 ½ | Даніла Амеляшка | 12 | 25 | |
| 76 | 3/3 | 1 ½ | 6 | | 1/2 | | Ян Баха | 4 | 12 | 1 ½ |
| Вуліца Віленская, левы бок | | | | | | | | | | |
| 77 | 12 | 2 | 4 | | 1 | | Ян Жыдкоўскі | 4 | | |
| 78 | 1/4 | | | | | | Каваліха, удава | | 4 | 1 ½ |
| 79 | 1 | | 1/3 | | 1 ¾ | | Ян Акула | 9 | 12 | 1 ½ |
| 80 | 1/2 | | 1/8 | | 1 | | Ян Удот | 3 | 4 | 1 ½ |
| 81 | 3/4 | 1/2 | 1/2 | | 1/2 | 1/4 | Ян Лях | 7 | | |
| 82 | 1 | | | | | | Базыль Кажамяка | 1 | | |
| 83 | 1 | | ½ 1/6 | | 3/4 | | Даніла Дзечыц | 8 | 12 | 1 ½ |
| 84 | 1 | | 8 | | | | Сцяпан Каралькевіч | 2 | 4 | 1 ½ |
| Вуліца Віленская, правы бок | | | | | | | | | | |
| 85 | 1 | 1/2 | 1/2 | | | | Павел Бярнацкі | 6 | 15 | |
| 86 | 1/2 | 1 | 1/4 | | | | Павел Жыдкоўскі | 4 | | |
| 87 | 1 ½ | | 4 1/6 | | 1/2 | | Раман Баха | 6 | 15 | |
| 88 | 28 | | 1/6 1/8 | | 3/4 | | Хвёдар Карповіч | 5 | 24 | |
| 89 | 1/2 | | ½ 1/16 | | | | Міхал Аніська | 6 | | |
| 90 | 1/2 | 1/2 | ¼ 1/8 | | 1/4 | | Пятрук | 6 | 15 | |
| | | | | | | | Жалезня | | | |
| 91 | 1 ¼ | ½ 1/8 | | | 1/2 | | Ян Жалезня | 9 | 15 | |
| 92 | 1/8 | | | | | | Берка, яўрэй | | 3 | 1/4 |
| Слабодка Ленішчоўская | | | | | | | | | | |
| 93 | | | 1/4 | | | | Грыгор Скурка | 2 | 15 | |
| 94 | | 1/2 | 1/4 | | | | Андрэй Паўлюкевіч | 3 | | |
| 95 | | | 1/4 | | | | Пётр Паўлюкеіч | 2 | 15 | |
| 96 | | | 1/4 | | | | Ілюк Матэўшэвіч | 2 | 15 | |
| | | 1/2 | | | | | Пусташ, за якую плоцяць тыя, якія ужываюць яе | 4 | 15 | |
| | | | | 4 | | | Вольных: войтаўскіх - 2, столяр - 1, кагал - 1, царква - 3 | | | |
| | 19 ¼ | 9 ½ | 4 ¾ 1/12 | 4 | 11 ¾ | 9 ¼ | Разам | 128 | 4 | 1 ¾ |
| | | | | | | | | | | |

Пустых, валок у зараслях, багнах і неўдобіцах - 9 ¾ 1/8
За татарскія землі ад месцічаў - 8 зл.
Чыншу ад месцічаў - 9 зл.

Разам, з мястэчка:
Гаспадароў - 96.
Пляцаў заселеных і поле - 133 $^{1}/_{2}$ 1/3
Усіх валок - 43 $^{1}/_{2}$ 1/8
Усіх моргаў - 46 1/3

Штогадовыя выплаты:
Чынш - 531 зл. 25 гр.
Арэнды з корчмаў, з карчмы Шастакоўскай - 4 500 зл.
Падводнага, з яўрэяў - 80 зл.
Жняёвага, з яўрэяў - 40 зл.
Лаёвага (тлушчавага - *Л. Л.*), з яўрэяў - 48 зл.
Разам - 5199 зл. 25 гр.

| Дымы | Зямля, валокі | | | | Грашовая плата | | | Авёс | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | Асадныя | Чыншавыя | Вольныя | | Злотыя | Грошы | Шэлягі | Бочкі | Чвэрці |
| Вёска Бярозаўцы | | | | | | | | | |
| 1 | 1/3 | | | Сцяпан Давель | 2 | 20 | | | 1 1/3 |
| 2 | 1/3 | 1/4 | | Грыгор Копец | 5 | 20 | | | 1 1/3 |
| 3 | 1/4 | ¼ 1/8 | | Сцяпан Аўсейчык | 6 | 15 | | | 1 |
| 4 | 1/4 | 1/4 | | Хвёдар Госпад | 5 | | | | 1 |
| 5 | 1/4 | 1/4 | | Міхал Макуш | 5 | | | | |
| 6 | 1/4 | 1/2 | | Васіль Паўлюкевіч | 8 | | | | |
| 7 | 1/4 | 4 8 | | Даніла Аўсейчык | 6 | 15 | | | 1 |
| 8 | ¼ 1/8 | 1/4 | | Мацей Паўлюкевіч | 6 | | | | 1 1/8 |
| 9 | 1/3 | 1/4 | | Грыгор Мікульчык | 5 | 20 | | | 1 1/3 |
| 10 | 1/3 | 1/4 | | Мацей Мікульчык | 5 | 20 | | | 1 1/3 |
| 11 | 1/3 | 1/4 | | Самусь Давель | 2 | 20 | | | 1 1/3 |
| 12 | 1/4 | 1/2 | | Паўлюк Брэдняк | 8 | | | | 1 |
| 13 | 1/4 | 1/3 | | Якуб Сямашка | 6 | | | | 1 |
| 14 | 1/4 | 1/4 | | Удава Сямашкі | 5 | | | | 1 |
| 15 | 1/6 | ¼ 1/8 | | Цімох Сямашка | 5 | 25 | | | 1/6 |
| 16 | 1/6 | | | Юзаф Сямашка | 1 | 10 | | | 1/6 |
| 17 | 1/4 | 1/2 | | Яська Сямашка | 8 | | | | 1 |
| 18 | 1/4 | ¼ 1/8 | | Удава Паўлюкевіча | 6 | 15 | | | 1 |
| 19 | | ¼ 1/6 | | Кастусь Падгайнік | 5 | | | | |
| 20 | 1/4 | 3/4 | | Яська Сташкевіч, войт | 11 | | | | 1 |
| 21 | 1/4 | 1/6 | | Алеська Госпад | 4 | | | | 1 |
| 22 | 1/4 | ½ 1/6 | | Яська Тарашчык | 10 | | | | 1 |
| 23 | 1/4 | 1/2 | | Марцін Адашкевіч | 8 | | | | 1 |
| 24 | 1/4 | 1/4 | | Панас Скопец | 5 | | | | 1 |
| 25 | 1/6 | 1/3 | | Ламук Госпад | 5 | 10 | | | 1 |
| 26 | 4 | ¼ 1/3 | | Ціхан Павайба | 9 | | | | 1 |
| 27 | 1/3 | 1/4 | | Карпук Леваневіч | 5 | 20 | | | 1/3 |
| 28 | | ¼ 1/3 | | Раман Леваневіч | 7 | | | | |
| 29 | 1/4 | 1/4 | | Васіль Барысевіч | 5 | | | | 1 |
| 30 | 1/4 | | | Хвёдар Васілевіч | 2 | | | | 1 |
| 31 | 1/4 | 1/4 | | Хвёдар Кандратовіч | 5 | | | | 1 |
| 32 | 1/2 | 1/4 | | Мікалай Цэхановіч | 7 | | | | 2 |
| 33 | 1/4 | 1/4 | | Ян Цэхановіч | 5 | | | | 1 |
| 34 | 1/4 | 1/4 | | Мікалай Леваневіч | 5 | | | | 1 |
| 35 | 1/2 | 1/4 | | Міхал Конан | 7 | | | | 2 |
| 36 | 1/4 | 1/4 | | Юзаф Стэльмашік | 5 | | | | 1 |
| 37 | 1/3 | 1/4 | | Балтрук Ярманчык | 5 | 20 | | | |
| 38 | 1/3 | 1/4 | | Сцяпан Макара | 6 | 20 | | | |
| 39 | 1/3 | 1/3 | | Лаўрук Грышкевіч | 2 | 20 | | | |
| 40 | 1/3 | 1/4 | | Хвёдар Шымановіч | 5 | 20 | | | |
| 41 | 1/3 | | | Ян Віркейка | 2 | 20 | | | |
| 42 | 3 | | | Грыгор Віркейка | 2 | 20 | | | 1 1/3 |

| | | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 43 | ¼ 1/8 | | | Нікіфар Кандратовіч | 3 | | | | 1 1/8 |
| 44 | 1/4 | 1/4 | | Сідар Васілейчык | 5 | | | | 1 |
| 45 | 1/4 | 1/4 | | Грыгор Хвалейчык | 5 | | | | 1 |
| 46 | 1/4 | 1/4 | | Міхалка Сямановіч | 5 | | | | 1 |
| 47 | 1/4 | 1/4 | | Нікіфар Леановіч | 5 | | | | 1 |
| 48 | 1/4 | | | Балтрук Семяновіч | 2 | | | | 1 |
| 49 | 1/4 | 1/4 | | Васіль Сямашка | 5 | | | | 1 |
| 50 | 1/4 | 1/4 | | Сцяпан Кушнер | 5 | | | | 1 |
| 51 | 1/4 | | | Удава Кушнера | 2 | | | | 1 |
| 52 | | | | Нікіфар Кот | | | | | |
| 53 | 1/4 | 1/4 | | Іван Кот | 11 | | | | 1 |
| 54 | 1/8 | 1/3 | | Хвёдар Кандратовіч | 5 | | | | 1/8 |
| 55 | 1/4 | 1/4 | | Цімох Кандратовіч | 5 | | | | 1 |
| 56 | | 1/2 | | Габрусь Станіслававіч | 6 | | | | |
| | | | 12 | Вольная для арэнды | | | | | |
| | | ½ 1/3 | | Трымае і плаціць яўрэй | 10 | | | | |
| 56 | 4 ½ | 4 1/3 | 1 ½ | Разам | 148 | | | 8 | |
| Вёска Кулёўцы | | | | | | | | | |
| 1 | 1/4 | 1/2 | | Сцяпан Антончык | 6 | 14 | 1/4 | | 1 |
| 2 | | 1/4 | | Храноўская, удава | 3 | | | | |
| 3 | 1/4 | 1/2 | | Крыська Педа | 6 | 14 | 1/4 | | 1 |
| 4 | 1/4 | 3/4 | | Якуб Хоміч | 9 | 14 | 1/4 | | 1 |
| 5 | 1/4 | 3/4 | | Францішак Кудзін | 9 | 14 | 1/4 | | 1 |
| 6 | 1/4 | 1/4 | | Юзаф Дзічыц | 3 | 14 | 1/4 | | 1 |
| 7 | 1/4 | 3/4 | | Мацей Верабей | 9 | 14 | 1/4 | | 1 |
| 8 | 1/4 | 1/2 | | Сцяпан Верабей | 6 | 14 | 1/4 | | 1 |
| 9 | 1/4 | 3/4 | | Янка Жук | 9 | 14 | 1/4 | | 1 |
| 10 | | 1/2 | | Вінцэсь, прымак | 6 | | | | |
| 11 | 1/4 | 1/2 | | Тамаш Лянсевіч | 6 | 14 | 1/4 | | 1 |
| 12 | 1/4 | 1/2 | | Юзаф Янушкевіч | 6 | 14 | 1/4 | | 1 |
| 13 | 1/4 | 3/4 | | Міхалка Антончык | 9 | 14 | 1/4 | | 1 |
| 14 | 1/4 | 1/2 | | Юрка Жук | 6 | 14 | 1/4 | | 1 |
| 15 | 1/4 | 1/2 | | Сямён Жук | 6 | 14 | 1/4 | | 1 |
| 16 | 1/4 | 3/4 | | Антон Верабей | 9 | 14 | 1/4 | | 1 |
| 17 | 1/4 | 1/4 | | Юрка Павайба | 3 | 14 | 1/4 | | 1 |
| 18 | 1/4 | 1/4 | | Васіль Павайба | 3 | 14 | 1/4 | | 1 |
| 19 | 1/4 | 1/4 | | Ясюк Антончык | 3 | 14 | 1/4 | | 1 |
| 20 | 1/4 | 1/2 | | Яська Краўчэня | 6 | 14 | 1/4 | | 1 |
| 21 | 1/4 | 1/2 | | Юрка Лявончык | 6 | 14 | 1/4 | | 1 |
| 22 | 1/4 | 1/4 | | Юзаф Хрчаношскі | 3 | 1 1/4 | 1/4 | | 1 |
| 23 | 1/4 | 3/4 | | Барталамей Жук | 9 | 14 | 1/4 | | 1 |
| 24 | | 1/4 | | Крыська Антончык | 3 | | | | |
| 25 | | 1/4 | | Гярдзеіха, удава | 3 | | | | |
| | | | 1 | Яўрэй у арэндзе вольна трымае | | | | | |
| | 1/2 | | | Уся вёска плаціць | 6 | | | | |
| 25 | 5 1/4 | 12 3/4 | 1 | Разам | 163 | | | 5 | 1 |
| Вёска Шастакі | | | | | | | | | |
| 1 | 1/2 | 1/3 | | Сцяпан Табакала | 6 | 10 | | | |
| 2 | 1/2 | | | Гаўрыла Табакала | 4 | | | | |
| 3 | 1/2 | 1/4 | | Сцяпан Гардзейчык | 6 | | | | |
| 4 | 1/2 | | | Даніла Гардзейчык | 4 | | | | |

| | | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 5 | 1/4 | 3/4 | | Францішак Кудзін | 9 | 14 | 1/4 | | 1 |
| 6 | 1/4 | 1/4 | | Юзаф Дзічыц | 3 | 14 | 1/4 | | 1 |
| 7 | 1/4 | 3/4 | | Мацей Верабей | 9 | 14 | 1/4 | | 1 |
| 8 | 1/4 | 1/2 | | Сцяпан Верабей | 6 | 14 | 1/4 | | 1 |
| 9 | 1/4 | 3/4 | | Янка Жук | 9 | 14 | 1/4 | | 1 |
| 10 | | 1/2 | | Вінцэсь, прымак | 6 | | | | |
| 11 | 1/4 | 1/2 | | Тамаш Лянсевіч | 6 | 14 | 1/4 | | 1 |
| 12 | 1/4 | 1/2 | | Юзаф Янушкевіч | 6 | 14 | 1/4 | | 1 |
| 13 | 1/4 | 3/4 | | Міхалка Антончык | 9 | 14 | 1/4 | | 1 |
| 14 | 1/4 | 1/2 | | Юрка Жук | 6 | 14 | 1/4 | | 1 |
| 15 | 1/4 | 1/2 | | Сямён Жук | 6 | 14 | 1/4 | | 1 |
| 16 | 1/4 | 3/4 | | Антон Верабей | 9 | 14 | 1/4 | | 1 |
| 17 | 1/4 | 1/4 | | Юрка Павайба | 3 | 14 | 1/4 | | 1 |
| 18 | 1/4 | 1/4 | | Васіль Павайба | 3 | 14 | 1/4 | | 1 |
| 19 | 1/4 | 1/4 | | Ясюк Антончык | 3 | 14 | 1/4 | | 1 |
| 20 | 1/4 | 1/2 | | Яська Краўчэня | 6 | 14 | 1/4 | | 1 |
| 21 | 1/4 | 1/2 | | Юрка Лявончык | 6 | 14 | 1/4 | | 1 |
| 22 | 1/4 | 1/4 | | Юзаф Хрчаношскі | 3 | 1 1/4 | 1/4 | | 1 |
| 23 | 1/4 | 3/4 | | Барталамей Жук | 9 | 14 | 1/4 | | 1 |
| 24 | | 1/4 | | Крыська Антончык | 3 | | | | |
| 25 | | 1/4 | | Гярдзеіха, удава | 3 | | | | |
| | | | 1 | Яўрэй у арэндзе вольна трымае | | | | | |
| | 1/2 | | | Уся вёска плаціць | 6 | | | | |
| 25 | 5 1/4 | 12 3/4 | 1 | Разам | 163 | | | 5 | 1 |
| Вёска Шастакі | | | | | | | | | |
| 1 | 1/2 | 1/3 | | Сцяпан Табакала | 6 | 10 | | | |
| 2 | 1/2 | | | Гаўрыла Табакала | 4 | | | | |
| 3 | 1/2 | 1/4 | | Сцяпан Гардзейчык | 6 | | | | |
| 4 | 1/2 | | | Даніла Гардзейчык | 4 | | | | |
| 5 | 1/2 | 1/4 | | Гарасім Паўлюкевіч | 6 | | | | |
| 6 | 3 1/4 | 1/4 | | Мацей Андрэйчык | 6 | 20 | | | |
| 7 | 1/4 | | | Васіль Цярабіла | 2 | | | | |
| 8 | 1/3 | 1/4 | | Міхалка Гардзейчык | 4 | 20 | | | |
| 9 | 1/3 | | | Грыгор Удот | 2 | 20 | | | |
| 10 | 1/3 | | | Даніла Удот | 2 | 20 | | | |
| 11 | 1/2 | | | Яська Аўсейчык | 6 | | | | |
| 12 | 1/4 | 1/4 | | Раман Гардзейчык | 4 | | | | |
| 13 | 1/2 | | | Грыгор Удот | 4 | | | | |
| 14 | 1/4 | 1/3 | | Мікалай Удот | 4 | 20 | | | |
| | | | | Уся вёска плоціць | 3 | 2 | 1½ | | |
| 14 | 5 1/3 ½ | ½ 1/6 | | Разам | 66 | 22 | 1 ½ | | |
| Вёска Рыча | | | | | | | | | |
| 1 | 1/2 | 1/4 | | Яська Храпа | 4 | | | | |
| 2 | 1/2 | 1/2 | | Пятрук Храпа | 10 | | | | |
| 3 | 1/2 | 1/2 | | Лявон Цярабільчык | 3 | | | | |
| 4 | 1/2 | | | Антон Хільмончык | 4 | | | | |
| 5 | 1/2 | | | Юрка Гардзейчык | 4 | | | | |
| 6 | 1/2 | 1/4 | | Дзям'ян Тарашчык | 4 | | | | |
| 7 | 1/2 | 1/4 | | Пракоп Цярабільчык | 4 | | | | |
| 8 | 1/2 | | | Васіль Аніська | 4 | | | | |
| 9 | 1/2 | 1/2 | | Грыгор Гардзейчык | 10 | | | | |
| 10 | 1/2 | 1/4 | | Ілюк Цярабіла | 4 | | | | |

| | | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 11 | 1/2 | | | Яська Аўсейчык | 6 | | | | |
| 12 | 1/4 | 1/4 | | Раман Гардзейчык | 4 | | | | |
| 13 | 1/2 | | | Грыгор Удот | 4 | | | | |
| 14 | 1/4 | 1/3 | | Мікалай Удот | 4 | 20 | | | |
| | | | | Уся вёска плоціць | 3 | 2 | 1½ | | |
| 14 | 5 1/3 ½ | ½ 1/6 | | Разам | 66 | 22 | 1 ½ | | |
| Вёска Рыча | | | | | | | | | |
| 1 | 1/2 | 1/4 | | Яська Храпа | 4 | | | | |
| 2 | 1/2 | 1/2 | | Пятрук Храпа | 10 | | | | |
| 3 | 1/2 | 1/2 | | Лявон Цярабільчык | 3 | | | | |
| 4 | 1/2 | | | Антон Хільмончык | 4 | | | | |
| 5 | 1/2 | | | Юрка Гардзейчык | 4 | | | | |
| 6 | 1/2 | 1/4 | | Дзям'ян Тарашчык | 4 | | | | |
| 7 | 1/2 | 1/4 | | Пракоп Цярабільчык | 4 | | | | |
| 8 | 1/2 | | | Васіль Аніська | 4 | | | | |
| 9 | 1/2 | 1/2 | | Грыгор Гардзейчык | 10 | | | | |
| 10 | 1/2 | 1/4 | | Ілюк Цярабіла | 4 | | | | |
| 11 | 1/2 | 1/4 | | Васіль Аніська, другі | 4 | | | | |
| 12 | 1/2 | 1/4 | | Яська Аніська | 4 | | | | |
| 13 | 1/2 | 1/4 | | Яська Аніська, другі | 4 | | | | |
| | | | 1/2 | У арэндзе вольна трымае яўрэй | | | | | |
| | | 1/2 | | Той жа за чынш | 6 | | | | |
| | | | ½ ½ | Пусташ усёй вёскі | 23 | | | | |
| | | | | Разам | 67 | | | | |
| Вёска Шчанец | | | | | | | | | |
| 1 | 1/3 | 1/3 | | Яська Хоха | 5 | 28 | 1 | | |
| 2 | 1/3 | 1/3 | | Андрусь Казун | 5 | 28 | 1 | | |
| 3 | 1/3 | 1/3 | | Алеська Варонка | 5 | 28 | 1 | | |
| 4 | 1/3 | 1/6 | | Васіль Чэйпа | 4 | 14 | | | |
| 5 | 1/3 | 6 | | Пракоп Кур'яновіч | 4 | 14 | | | |
| 6 | 1/3 | 1/6 | | Якуб Сямашка | 4 | 14 | | | |
| 7 | 1/3 | 1/3 | | Самусь Табакала | 5 | 28 | 1 | | |
| 8 | 1/3 | 1/6 | | Антон Верабей | 4 | 14 | | | |
| 9 | 1/3 | 1/6 | | Яська Маркевіч | 4 | 14 | | | |
| 10 | 1/3 | 1/3 | | Пятрусь Верабей | 5 | 28 | 1 | | |
| 11 | 1/3 | 1/3 | | Лаўрук Рашка з Пятрусём Вераб'ём і Мацеем Карачка | 5 | 28 | 1 | | |
| | | | 1/2 | Яўрэй у арэндзе вольна трымае | | | | | |
| 12 | 3 1/3 | 2 ½ 1/3 | | Разам | 58 | | | | |
| Вёска Малятычы | | | | | | | | | |
| 1 | 1/2 | 1/4 | | Мікалай Акула | 10 | 24 | 1/4 | | 2 |
| 2 | 1/2 | 1/2 | | Якуб Грышкевіч | 8 | 24 | 1/2 | | 2 |
| 3 | 1/2 | 1/4 | | Васіль Акула | 6 | 16 | 3/4 | | |
| 4 | 1/3 | 1/4 | | Даніла Саўкаў | 7 | 8 | 1/6 | | 2 |
| 5 | 1/3 | 1/4 | | Яська Стасевіч | 4 | 29 | 2 1/3 1/4 | | 2 |
| 6 | 1/4 | 1/4 | | Сцяпан Саўка | 4 | 10 | 2 ½ | | 1 |
| 7 | 1/2 | 1/4 | | Мікалай Бакала | 6 | 16 | 3/4 | | 2 |
| 8 | 1/2 | | | Хвёдар Стасевіч | 4 | 10 | 2 ½ | | 2 |
| 9 | 1/2 | 4 | | Хвёдар Саўка | 6 | 16 | 3/4 | | 2 |
| 10 | | | 1 | Яўрэй трымае вольна ў арэндзе | | | | | |
| | | 1 ½ | | Той жа на чынш | 13 | 2 | 1 ½ | | |
| | | 1/4 | | Уся вёска | 2 | 5 | 1 ¼ | | |

| | | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 10 | 4 1/4 | 4 3/4 | 1 | Разам | 48 | 15 | | 4 | 2 |
| Вёска Бакшты | | | | | | | | | |
| 1 | 1/4 | 1 | | Андрэй Сідаровіч | 12 | 15 | | | |
| 2 | 4 | 1 | | Міхал Сідаровіч | 12 | 15 | | | |
| 3 | 1/2 | 1/4 | | Юрка Сідаровіч | 4 | 15 | | | |
| 4 | 1/2 | 1/4 | | Янук Давідчык | 12 | 15 | | | |
| 5 | 1/2 | 1 ½ | | Крысюк Давідчык | 20 | | | | |
| 6 | 1/2 | 1/4 | | Юзаф Сідаровіч | 4 | 15 | | | |
| 7 | 1/2 | 1/4 | | Мікалай Чэчык | 4 | 15 | | | |
| 8 | 1/2 | 1/2 | | Іван Давідчык | 10 | | | | |
| 9 | | 1/2 | | Лаўрук Санкевіч | 5 | | | | |
| | | | 1 ½ | Яўрэй вольна трымае ў арэндзе | | | | | |
| | | 1 | | Той жа на чынш | 10 | | | | |
| | | | 2 | Царкоўных, фундушовых | | | | | |
| 9 | 3 ½ | 4 | 3 ½ | Разам | 105 | | | | |
| Вёска Лычкаўцы | | | | | | | | | |
| 1 | 1/4 | 1/2 | | Яська Рашотнік | 8 | 20 | | | 1 |
| 2 | 1/4 | 1/2 | | Якуб Грышкевіч | 5 | 23 | 2 ½ | | 1 |
| 3 | 1/4 | 1/2 | | Міхал Парфяновіч | 8 | 20 | | | 1 |
| 4 | 1/4 | 1/2 | | Мацей Грышкевіч | 8 | 20 | | | 1 |
| 5 | 1/4 | 1/4 | | Міхал Грышкевіч | 5 | 23 | 2 ½ | | 1 |
| 6 | 1/4 | 1/4 | | Сцяпан Гардзейчык | 5 | 23 | 22 | | 1 |
| 7 | 1/4 | 1/4 | | Хвёдар Грышкевіч | 5 | 23 | 2 ½ | | 1 |
| 8 | 1/4 | 1/4 | | Ілюк Аніська | 5 | 23 | 2 ½ | | 1 |
| 9 | 1/4 | 1/2 | | Ян Таўкач | 8 | 20 | | | 1 |
| 10 | 1/4 | 1/4 | | Стэфан Грышкевіч | 5 | 23 | 2 ½ | | 1 |
| 11 | 1/4 | 1/4 | | Леон Сяргеевіч | 5 | 23 | 2 ½ | | 1 |
| 12 | 1/4 | | | Томаш Таўкач | 2 | 24 | | | 1 |
| 13 | 1/4 | 1/4 | | Дзмітрок Скроб | 5 | 23 | 22 | | 1 |
| 14 | 1/4 | | | Мацей Скроб | 2 | 24 | | | 1 |
| 15 | 1/4 | 1/4 | | Ян Скроб | 5 | 23 | 2 ½ | | 1 |
| 16 | 1/4 | 1/4 | | Тамаш Быкоўскі | 5 | 23 | 2 ½ | | 1 |
| 17 | 1/4 | 1/4 | | Базыль Таўкач | 5 | 23 | 2 ½ | | 1 |
| | | | 1/2 | Арандатар Лычкоўскі ў арэндзе вольна трыма з якой не плаціць | | | | | |
| | | 1/2 | | Той жа на чынш трымае і плаціць | 5 | 23 | 2 ½ | | 1 |
| 14 | 4 ¼ | 5 ¼ | ½ | Разам | 110 | | | 4 | 2 |
| Вёска Пугачы | | | | | | | | | |
| 1 | 1/4 | 1 | | Алеська Захара | 12 | 26 | 1 ½ | | 1 |
| 2 | 1/4 | 1 | | Юзаф Захара | 12 | 26 | 1 ½ | | 1 |
| 3 | 1/4 | 3/4 | | Юрка Захара | 10 | 12 | 1 ½ | | 1 |
| 4 | 1/4 | 1/4 | | Марцін Дзічыц | 10 | 12 | 1 ½ | | 1 |
| 5 | 1/4 | 1/4 | | Мацей Дзічыц | 5 | 6 | | | |
| | | | 1 ½ | Яўрэй пугачоўскі ў арэндзе вольна трымае з якой не плаціць | | | | | |
| | | 1/2 | | Той жа на чынш трымае і плаціць | 5 | 6 | | | |
| 5 | 1 ¼ | 4 ¼ | 1 ½ | Разам | 54 | | | 1 | 1 |
| Вёска Пілоўцы | | | | | | | | | |
| 1 | 1/2 | 1 ½ | | Сцяпан Давідчык | 21 | 6 | | | 1 |
| 2 | 1/2 | 2 | | Ясюк Давідчык | 26 | 13 | 3/4 | | 1 |
| 3 | 1/2 | 1 | | Даніла Рашкевіч | 15 | 27 | | | 1 |
| 4 | 1/2 | 1 | | Яська Рашкевіч | 15 | 27 | | | 1 |

| | | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | Яўрэй арандатар Палякоўскі ў арэндзе вольна трымае | | | | | |
| | | 8 | | Пустых валок, за якія падданыя Ягамосьці паноў Нарбутаў штогод астрынскаму двару плацяць | 56 | | | | |
| | | 1 | | Яўрэй арандатар Пялоўскі на чынш трымае, плаціць | 10 | 16 | | | |
| | | 9 | | Разам | 66 | 16 | 1/4 | | |
| Вёска Якубавічы | | | | | | | | | |
| 1 | 1/2 | | | Янка Верабей | 25 | | | | |
| 2 | 1/2 | | | Ясюк Верабей | 25 | | | | |
| | | | 1 | Фундушовая зямля Астрынскай царквы, вольная ад платы | | | | | |
| 2 | 1 | | 1 | Разам | 50 | | | | |
| Вёска Обруб | | | | | | | | | |
| 1 | 1/2 | | | Ігнат Табакала | 3 | | | | |
| 2 | 1/2 | | | Паўлюк Стурэйка | 3 | | | | |
| 3 | 1/2 | | | Хвёдар Сямашка | 3 | | | | |
| 3 | 1 ½ | | | Разам | 9 | | | | |

Разам у гэтых вёсках:

Гаспадароў - 140.

Зямлі, валок - 141 1/4 1/6.

Штогадовыя выплаты:

Чыншу - 1803 зл. 2 гр. 1 1/2 шэляга.

За дзякельны авёс, бочак 30 1/2 па восем за бочку, разам 244 зл.

Разам - 2047 зл. 2 гр. 1 1/2 шэляга.

Павіннасці мястэчка і Астрынскай воласці.

Месцічы Астрыны, якія зямлю мястэчка маюць і абрабляюць, плаціць за яе ў скарб павінны:

1. За пляц жылы, рынкавы - 2 зл.

2. За пляц жылы, вулічны - 1 зл.

3. За пляц палявы ці пусты - 1 зл.

4. За валокі чыншавыя - 10 зл.

5. За морг раллі - 1 зл.

6. За морг сенажаці - 1 зл.

Гэта плаціць як месцічы, гэтак і яўрэі ...

Тыя ж месцічы, толькі хрысціяне, павінны выконваць наступныя паслугі:

1. На жніво звозіць збожжа ў гумно ці ў скірды.

2. Цягаць невад зімой і летам, колькі гэта будзе патрэбна.

3. Сыпаць новыя і рамантаваць старыя ... грэблі і будаваць масты.

4. Вазіць лісты і іншае па адлегласць да 20 міль (o mil kilkanascie).

У вёсцы кожны гаспадар, які мае пабудаваны дом і абрабляе зямлю, павінен павінен за цяглавыя і чыншавыя валокі плаціць падатак у скарб восенню ...

У той восеньскі час палову мёду, які даюць пчолы, ад кожнага пня даваць у двор павінны ... увесну ... воск ... згодна са старым звычаем даваць павінны.

Дзякла з вёсак Бярозаўцы, Лычкаўцы, Малятычы, Пілоўцы, Пугачы і Кулёўцы з кожнай цяглай валокі аўсу па віленскай бочцы. Таксама восенню аддаваць у астрынскі двор.

Штотыднёвай паншчыны: жанчыны ці мужчыны тры дні з чым загадаюць. Вартаваць па тыдню пачарзе. Кожны гаспадар вазіць збожжа да прыстані ці ў гарады Вільня, Гродна.

...

Разам:

Жылых дамоў і зямель у мястэчку Астрына і ў вёсках:

Гаспадароў з яўрэямі - 266.

Зямлі пад пляцамі - 133 1/2 1/3 пляцаў.

Зямлі валочнай - 185 валок.

Зямлі моргавай - 76 моргаў.

Увага. Зямля моргавая ёсць толькі ў самым мястэчку Астрына перад кожным асобна ў лініях. На вёсках у сялян такой зямлі няма.

...

Генеральная сума штогадовых выплат Астрынскага старосства:

Чыншу - 1803 зл. 2 гр. 1 1/2 шэляга.

Арэнды з мястэчка і арэндных корчмаў з млынамі - 6520.

За дзякельны авёс - 600 зл.

З васьмі азёр - 600 зл.

За дворны ураджай - 1945 зл.

Падводнага на жніво і тлушчавага з яўрэяў - 168 зл.

**Разам - 11 280 зл. 2 гр. 1 1/2 шэляга.**

***Віктар Кудла,***
***дроздавец***

# Д Р О З Д А В А

## *Віткі жыцця родзічаў*

*(Працяг. Пачатак у №№ 70,71, 92,93, 99-100, 101,102.)*

**Раздзел № 8**

**Віткі жыцця маіх родзічаў пры Польшчы**

*Хто забыў сваіх продкаў - сябе губляе.*
*Хто забыў сваю мову - усё згубіў!*
***В. Караткевіч.***

*Годы за гадамі ў вечнасць бягуць,*
*Доўгімі радамі адзначаюць пуць.*
*Як вада ў рэчцы, ўсе плывуць удаль,*
*Ззаду застаецца радасць, сум і жаль.*
*Толькі часам буры наганяюць шум .*
*Успамін пануры чалавечых дум.*
*Як і мухі, людзі родзяцца і мруць.*
*Так было, так будзе.Эх, жыццёвы пуць!*
*Вечнасць застаецца ў сабе сама,*
*З усяго смяецца, што было й няма.*

Для нас, ураджэнцаў заходніх абласцей - гэта не проста мінулае. Для мяне і маіх равеснікаў той час - гэта маладосць нашых бацькоў, жыццё дзядоў і бабуль за польскім часам, гэта жывая гісторыя, у якой яны працавалі, сталелі, гэта частка нашага светапогляду тых гадоў у "Вітках жыцця Кудлаў"...

Тысячы лідзян вярнуліся з бежанства часоў Першай сусветнай вайны на сваю радзіму, да сваіх гаспадарак. Амаль два дзесяцігоддзі пайшло на аднаўленне мірнага жыцця…



З 30 верасня 1920 года наш - Лідскі раён - у складзе Польшчы да 18 верасня 1939 года.

Згодна з Рыжскім дагаворам (дарэчы, прадстаўнікоў Беларусі на перамовы і падпісанне не дапусцілі) да Польшчы адышла Заходняя Беларусь плошчай 82 тыс. кв. км з насельніцтвам каля 4 млн. чалавек. А ў 1921 г. згодна перапісу колькасць беларусаў зменшылася да крыху больш за 1 млн. чалавек, а паводле перапісу 1931 г. гэты паказнік складаў ужо 890 тысяч. Перапісы рабілі, лічачы кожнага католіка за паляка, нават калі ён і не ўмеў гаварыць па-польску.

*Дарэчы, у Рызе перамовы*
*без беларусаў правялі,*
*Пад Польшчу ў выніку дамовы*
*краіны захад аддалі.*
*Таму палякі край назвалі*
*ўжо не Літва, а ushodni kres.*
*Забыўшы Рыжскую дамову,*
*яны нас сталі прыгнятаць.*
*Культуру нашу, гонар, мову*
*паволі сталі вынішчаць,*
*І край гаротны наш навала,*
*як бачна, новая знайшла:*
*Русіфікацыя прапала -*
*паланізацыя прыйшла.*
*Ды як жылося беларусу,*
*калі пры Польшчы ўсе жылі?*
*Хто больш рабіў яму прымусу -*
*палякі альбо маскалі?*

Першыя захады польскага ўраду ў дачыненні да нацыянальных меншасцяў рабіліся згодна з лініяй Пілсудскага - польскага галоўнакамандуючага, чые войскі займалі Беларусь, кіраваў Польшчай, быў яе начальнікам.

Польскія ўлады пачалі ціск на "Крэсы Усходне", імкнучыся ўкараніць там польскую мову праз закрыццё беларускіх школаў. Акрамя таго, урад Польшчы праводзіў палітыку нацыянальнага прыгнёту, пераследавання беларускай культуры і паланізацыі беларускага народа. А між іншым адна з умоў Рыжскага мірнага дагавора абвяшчала: *"Польшча прадастаўляе асобам рускай, украінскай і беларускай нацыянальнасці ўсе правы, якія забяспечваюць свабоднае развіццё культуры і мовы".*

Імя Юзафа Пілсудскага добра вядома. Ён нарадзіўся на Віленшчыне ў маёнтку Жулуў, нават ёсць выказкі, што яго бацькі - беларусы. Ён умеў размаўляць і пісаць па-беларуску, беларускім вайскоўцам не забараняў карыстацца роднай мовай. У Лідзе Пілсудскі пабываў двойчы - у 1919 годзе, у час грамадзянскай вайны, і 19 лістапада 1921 года, калі наш горад ужо быў пад уладай Польшчы.

Тым часам маршал Юзаф Пілсудскі, ваенны герой, які падаў у 1922 г. у адстаўку з паста кіраўніка дзяржавы, карыстаючыся падтрымкаю вайскоўцаў і правых партыяў, здзейсніў у 1926 г. дзяржаўны пераварот. Левыя дэпутаты ў сойме адразу асудзілі яго: *"Каму не ведама,* - казаў Тарашкевіч у ліпені 1926 г., - *сапраўды ўся ўлада знаходзіцца ў руках дыктатара Пілсудскага, сойм паніжаны, і што пасlы паслушна галасуюць пад свістам, татарскага бізуна?*".

Прамаўляючы перад соймам у ліпені 1924 г., пасол Браніслаў Адамавіч, абвінаваціў урад у парушэнні канстытуцыі, якая на паперы гарантавала меншасцям свабоду развіцця культуры. *"Урад зачыніў 400 беларускіх школ,* - абураўся Тарашкевіч. - *Замест зямельнай рэформы маем асадніцтва, і міністэрства зямельных рэформаў ёсць не што іншае, як міністэрства каланізацыі і асадніцтва"*.

***Тарашкевіч Браніслаў Адамавіч (1892- 1938гг.) У 1922 г. выбраны дэпутатам сойма Польшчы. З трыбуны сойма і ў заходнебеларускай прэсе абараняў сацыяльныя і нацыянальныя правы беларусаў.***

Адным з важнейшых напрамкаў нацыянальна-вызвольнага руху было змаганне за дэмакратычную школу на роднай мове, за народную культуру. З гэтай мэтай у снежні 1921 г. у мястэчку Радашковічы ўтварылася Таварыства беларускай школы (ТБШ). Кіраўнікамі і актыўнымі дзеячамі ТБШ у розны час былі Б.А. Тарашкевіч, Ігнат Дварчанін, І.М. Грэцкі, П. В. Мятла, Рыгор Шырма. Друкаваліся часопісы "Беларускі летапіс", "Бюлетэнь ТБШ", газета "Наш палетак". На хвалі ўздыму вызвольнага руху ТБШ вырасла ў масавую арганізацыю. У 1928 г. 430 гурткоў ТБШ аб'ядноўвалі больш за 14 тыс. сяброў. Гэта былі пераважна сяляне і вясковая моладзь. Галоўнай мэтай Таварыства беларускай школы было: *"распаўсюджваць і дапамагаць адукацыі сярод беларусаў, пашыраць беларускія школы і беларускую адукацыю наогул"*.

Улады Польшчы ўсяляк перашкаджалі дзейнасці ТБШ - закрывалі ўправы і гурткі, арыштоўвалі і судзілі кіраўнікоў, актывістаў. У 1937 г. дзейнасць ТБШ польскімі ўладамі была канчаткова забаронена.

Узважаючы несправядлівасць і пераследы, беларускія пасlы сойму стварылі Беларускую сялянска-работніцкую грамаду (БСРГ), якая пачала ўлетку 1925 г. мабілізацыю масаў на палітычную дзейнасць. БСРГ на чале з красамоўным і энергічным Браніславам Тарашкевічам мела фенаменальны поспех па ўсёй Заходняй Беларусі. Менш, чым праз два гады колькасць сяброў Грамады перавысіла лічбу 125 000. Грамада мела звыш 2 000 гурткоў, правяла некалькі рэгіянальных канферэнцый, выдавала газеты і календары, ды вызначальна ўплывала на дзейнасць беларускіх культурных і камерцыйных установаў.

Самаадданна служыў беларускаму люду Ігнат Дварчанін. У 1926 г. ён выбіраўся дэпутатам польскага сойма ад Навагрудскай акругі.

З сакавіка 1928 па жнівень 1930 гг. з'яўляўся сябрам (дэпутатам) клуба "Змаганне", уваходзіў у яго праўленне. Сярод паслоў асабліва выдзяляўся ён сваёй інтэлігентнасцю, эрудыцыяй, навуковым і палітычным кругаглядам. Гэта быў беларускі народнік, асветнік, гуманіст.

***Ігнат Дварчанін***

Клуб "Змаганне" праводзіў значную палітычную і арганізацыйную работу сярод рабочых і сялян. Ён арганізоўваў мітынгі, сходы, дэманстрацыі працоўных, ствараў спажывецкія ка-

аператывы, арганізоўваў выступленні сялян супраць зямельнай і падатковай палітыкі ўрада. Друкаванымі органамі клуба "Змаганне" былі газеты "Голас працы", "На варце", "Праца", "Свет", "Світанне" і інш. Яны друкавалі адозвы паслоў да беларускага народа па розных пытаннях: "Проціў непасільных падаткаў", "Проціў прымусовых шарварак", "Проціў паліцэйскага тэрору", "Проціў закрыцця беларускіх школ" і шмат іншых.




Клуб "Змаганне" выступаў супраць нацыянальнага ўціску, патрабаваў ліквідацыі абшарніцкага землеўладання, перадачы зямлі без выкупу беззямельным сялянам, увядзення 8-гадзіннага рабочага дня, дэмакратычных свабод, узнавіць школы на роднай мове.

Сябры клуба "Змаганне" праз свае друкаваныя органы рэкамендавалі адкрываць у буйных населеных пунктах народныя дамы, пры якіх павінны быць бібліятэкі, гурткі самаадукацыі. Праблема была не толькі ў тым, каб падабраць памяшканне, але і набыць літаратуру.

У стане хранічнага застою знаходзілася сельская гаспадарка Заходняй Беларусі. Аграрныя адносіны тут характарызаваліся існаваннем буйнога абшарніцкага землеўладання, малазямеллем і масавым збядненнем сялян.Зямля была размеркаваная вельмі няроўна.

Ліда стала павятовым горадам Навагрудскага ваяводства з тэрыторыяй 6038 кв. км., з насельніцтвам 219 тысяч, у тым ліку ў Лідзе на 30 верасня 1921 г. пражываў 13 401 чалавек.

У Лідскім павеце больш за 85% насельніцтва жыло ў сельскай мясцовасці і займалася сельскай гаспадаркай. Лепшыя землі належалі памешчыкам і асаднікам. У 1933 г. у павеце налічвалася 203 буйныя абшарніцкія гаспадаркі, на кожную з якіх у сярэднім прыпадала па 400 га сельскагаспадарчых добраў. Тым часам у павеце налічваліся 15 982 сялянскія гаспадаркі, якія мелі менш, як па 5 га, а 4397 з іх - менш, як па 2 га на сядзібу. Але многія сяляне не мелі і таго; некаторыя былі зусім беззямельныя. Ворыўную зямлю сяляне апрацоўвалі сахой і драўлянай бараной. На ўвесь Лідскі павет былі толькі два трактары.

Пры канцы 1924 г. прэса паведамляла пра дрэнны ўраджай: *"У Лідскім павеце, сёлетні ўраджай даў: жыта 68%, ячменю 80%, аўсу 10%, бульбы 50%" (у некаторых ваколіцах нават ад 5 да 10%)".*

Пагаршэнню стану сельскай гаспадаркі Заходняй Беларусі ў многім паспрыяла і зямельная рэформа, якую правёў ўрад Польшчы. Польскія ўлады ажыццявілі так званую парцэляцыю (продаж дробнымі ўчасткамі) часткі абшарніцкай (абшарнікамі называлі шляхту, якая пасля далучэння Беларусі да Расіі атрымала правы дваранства Расійскай імперыі) і дзяржаўнай зямлі з мэтай насаджэння на "крэсах усходніх" польскіх вайсковых каланістаў- асаднікаў.

Акрамя таго, з тым, каб ліквідаваць цераспалосіцу, польскім урадам была праведзена так званая камасацыя (аб'яднанне некалькіх дробных зямельных надзелаў сялян у адно цэлае) і хутарызацыя.

Да 1939 года на Лідчыне на хутары (пераважна прымусова) было перaселена больш за 40 % сялянскіх гаспадарак. Плацяжы за правядзенне камасацыі, выкананне розных работ, звязаных з новым землеўпарадкаваннем, выдаткі на перасяленне на хутары, пабудова жылых і гаспадарчых будынкаў кладіся на плечы сялян, асабліва беднякоў. На камасацыі выйгралі абшарнікі, багацеі і частка заможных серaднякоў.

Дзякуючы камасацыі абшарнікі змаглі паскорыць ліквідацыю сервітутаў - дакладней адняць права сялян карыстацца памешчыцкімі пашамі, выганамі.

Цяжкім ярмом для сялянства была існаваўшая сістэма падаткаў. Больш за тое, на сялян накладаліся шматлікія дадатковыя абавязкі. Улады ў прымусовым парадку прымушалі сялян выконваць павіннасці па рамонце і будаўніцтве дарог і мастоў (шарваркі), перавозіць грузы і г. д. За невыкананне іх, няплату падаткаў, непадпарадкаванне чыноўнікам накладваліся шматлікія штрафы. Секвестратары (фінансавыя інспектары) нярэдка канфіскоўвалі маёмасць сялян у лік пагашэння запазычанасці.

Пры хутарызацыі Дроздава ў хаце Кудлаў пасяліўся каморнік, які праводзіў абмер выдзеленых участкаў зямель дроздаўцам, нарысаваў карту хутаран. Нашай радні выдзелілі найбольш урадлівую зямлю на правам баку перад вёскай і на аселіцы сенакос і пашу на-

супраць хаты. Усе гаспадарчыя забудовы пасля вяртання з бежанцаў былі адбудаваны, застрахаваны, і продкі адмовіліся пераносіць іх на хутарскі зямельны надзел.

За вёскай ад чыгункі аж да Масявіч была зроблена дарога, на якой размясціліся больш за 20 хутарскіх пабудоў на дастатковай адлегласці.

У вёсцы складана было са студнямі. На нашым падворку, каля хлява выкапалі каля дзесяці кольцаў і дайшлі да грунтовай вады. А ў суседзяў Ашмяноў - Валодзі і Вані, хаты з двух бакоў вуліцы і за метр ад рыштока капалі студню.

І ўжо калодзежнік быў на глыбіні, грузіў у вядро сівы жвір, і на вяроўцы падымалі валікам з корбай. Неяк па вуліцы ехаў воз са снапамі і, мажліва, ад грукату па бруку абвалілася сценка студні і засыпала майстра на смерць. Так і засталася памяць аб загінуўшым…



Ігнат Дварчанін стараўся часта наведваць вёскі Наваградскай акругі, сваю і суседнія, родных і знаёмых.

Тата Ваня расказваў пра Ігната Дварчаніна, як пра надзвычай абаяльнага чалавека, прыветнага, простага ідаступнага. Вяртаючыся з Наваградка часта заязджаў у Ганчары і Дроздава. Вяскоўцы, сабраўшыся ў нашай хаце, бачылі ў ім доўгачаканага не толькі госця, але і змагара за нашую шчаслівую будучыню. На сходзе з выбаршчыкамі ён растлумачваў палітыку пасольскага клуба "Змаганне", народных паслоў у барацьбе за інтарэсы беларускіх сялян, за найдаражэйшую спадчыну.

Кожны раз бацька з захапленнем слухаў Ігната Сямёнавіча, бо вёў ён цікавую гутарку з сялянамі. Хаця тады яшчэ шмат чаго не разумеў, але кеміў, што гаварыў ён з імі пра народнае гора, пра тое, як трэба змагацца супраць тых, хто здзекваўся з бедных людзей.

І вось аднойчы ён чарговы раз прыехаў у вёску. Сустрэчы дроздаўцаў са сваім слаўным дэпутатам заўсёды выліваліся ў сапраўдныя святы. Гэты чалавек ахвотна гутарыў з сялянамі пра іх самыя надзённыя жыццёвыя справы, расказваў як усім змагацца за сваё шчасце, за лепшую долю, барацьбу супроць прымусовай камасацыі польскага ўрада.

Вяскоўцы ведалі, што Ігнат піша вершы і папрасілі зачытаць. Ён з радасцю згадзіўся. Ігнат чытаў, не спяшаючыся, выразна.

*Сей, браце мой мілы, сей поўнаю жменяй,*
*Загон свой гусцей засявай,*
*Ціхонька і роўна, ня болей, ня меней,*
*Ад краю загона у край.*
*Ня бойся, мой брат, не загінуць зярняты,*
*Што ўкінеш ты вернай рукой,*
*Як дар яны з неба, там будуць прыняты*
*Даўно ўгатаванай раллёй.*
*Здзівішся сам ты, як сонца прагрэе,*
*Што стане з тваёй паласы.*
*Як буйна на вочах яна зарунее,*
*Як хутка ўсплывуць каласы.*

Культурна-асветная работа сярод насельніцтва набірала размах. Усё часцей у вёсцы пачалі праводзіцца вечары культуры і адпачынку, выступленні самадзейных артыстаў, ставіліся спектаклі па творах бсларускіх драматургаў. Ствараліся і харавыя калектывы. Ініцыятарамі ў правядзенні гэтай работы былі ў асноўным настаўнікі і больш-менш адукаваныя і таленавітыя мясцовыя жыхары. Мясцовыя ўлады рабілі ўсялякія перашкоды дэпутатам сойма клуба "Змаганне" у справе сустрэч з выбаршчыкамі, і было вырашана стварыць на месцах сакратарыяты.

У вёсцы Ганчары працаваў гурток "Грамады". Старшынём гуртка працаваў Вікенцій Дзікевіч, а ў Дроздаве сакратаром падабраўся больш-менш адукаваны, спрактыкаваны ў палітыцы селянін Шут Зянон.

У Лідскім павеце павятовы камітэт Беларускай сялянска-рабочай Грамады ўзначальваў Вікенцій Антонавіч Салыга. Ён адзначаў, што моцнай грамадскай ячэйкай было згуртаванне ў вёсках Ганчары і Дроздава.

Ад гэтых інфарматараў, дэпутаты даведваліся аб падзеях на месцах і мелі большае ўяўленне аб сітуацыі. Сакратарамі распрацоўваліся спецыяльныя памяткі, на пытанні якіх яны павінны былі адказаць у справаздачах у Цэнтральны сакратарыят.

Гурткі праводзілі збор кніг ад насельніцтва, збіралі грошы на літаратуру, выпіску газет і часопісаў.

Маланкай разнеслася вестка па вёсцы, калі людзі даведаліся, што пасол сойма Ігнат Дварчанін даў згоду сябру дзяцінства быць ганаровым сябрам у яго на вяселлі. Яго сяброўка Юлія расказвала: *"Вянчацца ездзілі ў цэркаў вёскі Нагародавічы. Ігнат ведаў усе песні, разам з намі спяваў. Гэта ў асноўным былі песні пра цяжкую дзявочую долю. Напрыклад, "Дума мая, дума". Мы яе часта спявалі. Цікавіўся, а якія яшчэ мы ведаем песні і прасіў, каб іх праспявалі, скакаў са мной і другімі дзяўчатамі, гутарыў з хлопцамі. Асабліва, што падабалася, ён гутарыў і спяваў з намі, як роўны з роўнымі. Не адчувалася, што сярод нас такі вялікі чалавек."*

Ігнат Дварчанін двойчы, у 1927 і 1931 гг., быў арыштаваны польскімі ўладамі і два гады адбываў пакаранне ў турмах. У выніку абмену палітвязнямі з 1933 г. жыў і працаваў навуковым супрацоўнікам у Інстытуце мовазнаўства. Здзейсніў шэраг важных работ па правапісе, складанні беларускага слоўніка тэрміналогіі. У

1937 г. быў неабгрунтавана асуджаны да вышэйшай меры пакарання і расстраляны. Так ад рук сталінскіх апрычнікаў загінуў Ігнат Сямёнавіч Дварчанін - выдатны рэвалюцыйны дзеяч.

**З расказаў таты Вані:**

*"Бацька Іван Зыдаравіч 1875 г.н. навучаўся ў царкоўна-прыходскай школе, быў працавітым і руплівым гаспадаром, граматна і дасканала вёў палявыя работы, так што палеткі давалі добры ўраджай разнастайнай збажыны, бульбы. Хапала для сям'і і для немалой колькасці хатняй жывёлы.*



***Кудла Іван Зыдаравіч, 1875-1934 гг.***

*Даводзілася праца-ваць не пакладаючы рук. Уставалі на золку і працавалі ўвесь светлы дзень да самай цёмнай ночы .*

*Амаль кожную нядзелю вазіў на рынак у Ліду, ці Беліцу на продаж розныя свае прадукты. Там жа закупляў неабходныя для гаспадаркі прылады працы і сёе-тое з адзення і прысмакаў… Па дарозе заўжды заязджаў у карчму (на перакыжываніі дорог на канцы Дроздава) і прыязджаў дахаты ў добрым настроі і з песняй. У вёсцы яго празывалі: "Багатыр-Зыдар"".*



***На рынку,** малюнак, аловак*

**Грос Тамара** пра дзеда Івана Зыдаравіча запісала на дыктафон:

*"Дзядуля меў многа зямлі - 10 гектараў, пару коней, жывёлу і жыў за "польскім часам" не беднавата. Вялася племянная работа. Для паляпшэння пародзістасці кароў купілі чырвонага быка, падраслі надоі, расцілі свіней і авечак. Дзядуля навучыўся шыць верхняе адзенне-бурносы і нават кажухі і хромавыя боты. Дзеда ў вёсцы не любілі,зайздросцілі: ні з кім не дружыў, ні з кім не выпіваў.*

*У тыя гады зімы былі суравыя, так курэй засялялі пад печчу, нават котных авечак трымалі ў каморы. І зімой у дзеда было клопату: рыхтаваў сечку, даглядаў жывёлу.*

*Былі секвестатары - апісвалі маёмасць. Тытунь забаранялі сеяць - манаполія. Нават для сябе нельга было саджаць. Паліцыянты хадзілі па агародах у пошуках плантацый тытуню. Штрафавалі, на тыдзень маглі ў КПЗ саджаць. А і ў запалках - польская манаполь. Буйны штраф."*

**Бабулька Алеся** расказвала: *"Прыедуць Юстынавы - Жэня і Толя - на наша поле, пасцілкі рассцелюць, пшаніцу са снапоў вымалацяць і адвозяць да хаты.*

*- Ха-ха!*

*Каб ты век смяяцца не перастаў!"*

*"На фатакартцы - мая бабуля Алеся ў дзявоцтве - Лукашэвіч, родам з Дзітрыкаў, якую я з любоўю заўжды ўспамінаю, была вельмі добрай, ветлівай. Была рукадзельніцай, добра ткала і вышывала.*



***Бабуля Алеся***

*На ёй ляжала дойка кароў, догляд свіней, авечак, курэй. Прыгатаванне ў печы яды таксама ляжала на плячах бабулі. Тушыла бульбу, кашу, варыла зацірку ці суп гарохавы з малаком, а таксама гарбуз, шаткаваная капуста, рэдзька, бручка. У пасты - саладуха і агурэчны расол.*

*Успамінаю, былі выпадкі, калі раніцай, яшчэ да ўсходу пяшком выходзіла ў Вільню (гэта больш за сто вёрст) па якія-небудзь сямейныя тавары. Адтуль, узяўшы на плечы клункі з пакупкамі, пешшу вярталася ўжо цёмнай ноччу."*



***Мулінскі Іван Аляксандравіч, родны брат бабулі Алесі***

*Не пакінуў бацька родны*
*мне палацаў, ні дабра.*
*Сам быў бедны, век галодны,*
*толькі-толькі не жабрак.*
*Толькі родная матуля*
*з нараджэння мне дала,*
*Што дагэтуль ані куля,*
*ні бяда, не адняла.*
*Яна чулая мне сэрца*
*падарыла, як сваё,*
*Што спаможа аж да смерці*
*спрашваць жыцейка маё.*

У Лідскім павеце 7 тыс. дзяцей не мела магчымасці вучыцца з-за матэрыяльных умоў і недахопу настаўнікаў. У 120 вёсках павета наогул не было школ. У Лідзе працавала толькі 2 гімназіі, у якіх навучалася 484 гімназісты, але сярод іх не было ні аднаго беларуса.

Беларускія культурна-асветніцкія арганізацыі, мясцовае насельніцтва вялі барацьбу за сваю родную мову. Але звароты грамадскасці наконт адкрыцця беларускіх школ уладамі не прымаліся пад увагу.

У верасні 1920 года заняткі ў Ганчарскай школе аднавіліся, але ўвялі ўсе прадметы толькі на польскай мове. Называлася школа паўшэхнай (7 класаў). Працаваў вядомы настаўнік Маліноўскі Іпаліт, Пякелка А. і яго жонка Вольга. А і Кудла Соф'я Зыдараўна была там некалькі гадоў настаўніцай.

Віктар Кудла: па ўспамінах бацькі, яго родная цёця Соф'я Зыдараўна нарадзілася ў 1892 годзе тут, у вёсцы Дроздава, вучылася ў Ганчарскай царкоўна-прыходскай школе. Закончыла нейкія настаўніцкія курсы, бо да Першай сусветнай вайны і ў бежанцах у Серпухаве ў Расіі настаўнічала.

Сярод фотаздымакаў навучэнкі тых гадоў Козел Анюты нядаўна знайшлася фатакартка, дзе настаўніца з вучаніцамі праводзіць заняткі па вышыванні. На адваротным баку па-польску і не вельмі якасна выведзены подпісы: *"С. Кудла, А. Козел"* і іншыя.



Соф'я Зыдараўна была даволі адукаванай інтэлігенткай, напамяць чытала вершыкі, байкі. Аднавяскоўцы часта звярталіся, каб напісала якую-небудзь заяву ці прашэнне. Па ўсёй верагоднасці, яна была першай настаўніцай з нашай мясцовасці, і менавіта гэта паслужыла добрым прыкладам для маладых сваякоў, каб вучыцца і стаць настаўнікамі: з Хрышчановічаў - Ваня, Веня, Ніна; з Буйніцкіх - Леўчык, Тамара; з Германовічаў - Сяргей, Аляксандра, Вольга і з дроздаўскай моладзі: Кудла Анатоль, Козел Ваня і Марыя (Міхалюковыя).

Прывезла з Расіі некалькі расійскіх кніжак. На той час гэта былі дарагія, але вельмі патрэбныя ў вясковым жыцці падручнікі. Сваякам і вяскоўцам давала для чытання, але не ўсе кнігі і ў добрым стане вярталі.

На гэты час захаваліся рарытэтныя выданні:



Кніга А.Бекетава **"Беседы о земле и тварях, на ней живущих",** 1864 года, падрабязна распавядае аб уладкаванні зямной кары, аб марах, акіянах, азёрах і рэках; аб туманах, воблаках і водах небесных; аб громе, маланцы і ветрах; аб тым, як вымяраецца цяпло, холад і вецер…

У кнізе **"Новае натуральнае лячэнне"** на 788 старонках дасведчанна і падрабязна тлумачыцца аб органах чалавека, аб захворваннях і метадах лячэння, што і на сёняшні час актуальна. Не дзіва, што кніга значна пацярпела ад чытачоў…

**"Евангелье"** на 800 старонках, 1899 года, і **"Святая земля",** 1863 года, у гады ваяўнічага атэізму былі рэдкай інфармацыяй для насельніцтва.

Кніга **"Куль Хлеба и его похождения"** С. Максімава, 1878 г., у тыя далёкія дарэвалюцыйныя і паслярэвалюцыйныя часы была добрым падручнікам для навуковага вядзення сялянскай гаспадаркі.

Душыла і сацыяльная несправядлівасць. Калі хто хацеў уладкавацца на больш-менш аплачваную пасаду, павінен быў перайсці ў польскую веру. Гні шапку перад кожным, хто стаіць вышэй на сацыяльнай лесвіцы: перад панам, ксяндзом, пастарунковым, польскімі настаўнікамі…

Кудлу Соф'ю Зыдараўну, настаўніцу Ганчарскай польскай школы звольнілі за тое, што яна была праваслаўнай веры і адмовілася выйсці замуж за настаўніка-католіка.

Родная цётка майго таты Вані - Соф'я - так замужам і не была. Потым настаўнічала з вясковай дзетварой. Яна імкнулася, каб дзеці роднай вёсачкі сталі адукаванымі, свядомымі, добра ведалі і шанавалі матчыну

мову, найдаражэйшую спадчыну. Чытала ім вершы Янкі Купалы "Прарокі", "Былі ў бацькі тры сыны", "Не пагаснуць зоркі ў небе", а Якуба Коласа знакаміты "Родны кут". Актыўна працавала на гаспадарцы.

**Грос Тамара** запісала:

*"Бацькі многа праяўлялі намаганняў на выхаванне свайго сына Вані, як прадаўжальніка роду Кудлаў. На вялікае шчасце ён добра рос і развіваў моцны целасклад, меў прыгожы знешні выгляд. Дзядзя Ваня ўжо актыўна ўжываўся ў гаспадарчых работах. Летні дзень год корміць, таму на жніво ўсіх забіралі- з усходу сонца ўжо былі на полі. Мама Вольга, цёця Соня і бабуля Алеся жалі збажыну сярпамі, аставалася роўненькае іржышча. Снапы, як букецікі, ставілі ў дзесяткі: дзевяць каласамі ўверх, а дзясятым, як "шапкаю", накрывалі снапы. У поўдзень, у гарычыню, адпачывалі, абедалі каля дзясяткаў жыта.*



*А я дрэнна жала, як Гросіха (я на іх падобна). Кароў пасвіла. Добра жылі з суседзямі Ашмянамі: Валодзем, Ваням, з іх маткаю Маняй; Каханоўскімі - Рэняй, Лёдзяй"…*

*Выйшлі на поле вось жнеі з сярпамі,*
*У лапцях лазовых, а хто басіком.*
*Жыта пустымі шуміць каласамі,*
*Ніва не цешыць жаночых вачэй…*

**Кудла Віктар:** *"Мой бацька Ваня 1908 г.н. у Першую сусветную вайну, будучы ў бежанцах у Ніжагародскай губерні, вучыўся ў рускай школе сяла Стара-Ражджэствена. Калі ўсе разам у 1919 годзе вярнуліся ў родную вёску Дроздава, то бацька, працуючы на гаспадарцы, узнаўляў навучанне з перапынкамі ў часы савецка-польскай вайны, але атрымаў не менш як чатырохкласную адукацыю. На*



***Іван Іванавіч Кудла***

*той час гэта была вельмі высокая адукацыя. Ён апавядаў: галоўнае, што патрабавалі настаўнікі, гэта - чытанне, арыфметыка і чыстапісанне, а бацюшка - Закон Божы і царкоўнае песняпенне… Аднавяскоўцы часта звярталіся, каб напісаў нейкія прашэнні,ці афарміць судовыя паперы. Пасля вучобы ў ральнічай школе дзяліўся сельскагаспадарчымі навыкамі, набытыя грунтоўныя веды сфарміравалі даволі шырокі светапогляд".*

*Але і школу, дзе былі*
*зусім дарэмныя заняткі,*
*Закончыць цалкам не маглі*
*ўсе хлапчукі або дзяўчаткі.*
*Галеча многім не давала*
*ў школах веды набываць,*
*На гэта часу не хапала -*
*на хлеб патрэбна зарабляць…*

*У траўні 1929 года майму бацьку споўніўся 21 год, і спрацавала адтэрміноўка для прызыву ў польскае войска.*

*Так, на самай справе бацька быў яшчэ нежанаты і жыў са састарэлымі і хворымі бацькамі, і на яго плячах была цяжкая праца па вядзенні сялянскай гаспадаркі.*

*І ў той час у Польшчы быў добры закон, які вызваляў рольнікаў-карміцеляў ад вайсковай службы.*

*(Вельмі добра і тое, што пры нападзе Германіі на Рэч Паспалітую 1-га верасня 39-га года бацьку таксама не забралі на фронт…)*

*13 ліпеня 1929 года Лідскае староства прыслала дзеду, Яну Кудлу, "Везванне" - павестку № 7428-4.*



STAROSTWO w Lidzie Lida dn. 13/VII 1929 r. Wzór Nr. 32.

L. 7428 / IV

WEZWANIE.

Na zasadzie art. 60 ust. o pow. ob. sł. wojsk. oraz § 375 rozp. wyk. do niej wzywam p. Jana Kudło zamieszkałego w Drozdowie gmina Bielica ojca, poborowego Jana Kudło r. 1908 aby w sprawie odroczenia służby wojskowej wymienionemu poborowemu, jako jedynemu żywicielowi rodziny, stawił się przed komisją poborową w Lidzie, Starostwo dnia 25 lipca r. b. o godzinie 8 rano celem zbadania stopnia zdolności do pracy.

Niniejsze wezwanie należy ze sobą przynieść. Trzeźwość, czystość ciała i schludność ubrania bezwzględnie jest wymagana.

Niezgłoszenie się będzie uważane jako potwierdzenie zupełnej zdolności do pracy.

Za Starosta

*Згодна з арт. 60 уставы аб вайсковай службе № 375 выклікаем п. Яна Кудлу, які жыве ў Дроздаве, гміна Беліца, бацьку дапрызыўніка Яна Кудлы, 1908 г.н., каб у справе адтэрміноўкі ад вайковай службы названага дапрызыўніка, як адзінага кармільца сям'і,*

*з'явіўся ў прызыўную камісію ў Лідзе, у староства дня 25 ліпеня гг. у 8 гадзін ранку з мэтай праверкі ступені здольнасці да працы.*

*Гэтую павестку належыць прынесці з сабою. Цвярозвасць, чыстата цела і прыстойнасць вопраткі абавязковыя.*

*Няяўка будзе лічыцца пацверджаннем поўнай здольнасці да працы.*

*За староства (подпіс чорным чарнілам і чырвоная пячатка Лідскага староства)".*

**Кудла Віктар:**

*"Бацька меў прыгожы голас і вельмі любіў спяваць, у кампаніі часта прасілі паспяваць. Запомніў на памяць шмат песень з часоў бежанства ў Расіі, некаторыя, нават, запісаны.*

*Па маёй заяўцы ў перадачу "Сустрэча з песняй" там не знайшлі гэты варыянт песні "Чарнавокая Нюра-пастушка". А таксама памятаю цікавую песню ў яго выкананні "Два французкія грэнадзёры із рускага плена брылі…"*

*Вось які, даволі каліграфічны, почырк склаўся ў бацькі і захаваўся ў сталым узросце. Даволі грунтоўна пісаў пісьмы родзічам, вёў бухгалтэрыю ў вясковым калгасе.*


Черноокая Нюра-пастушка
Подеревням ходила за стадам овец
~~[illegible]~~
Понравился ей [illegible] сердец
Белакудрый красавец Ванюша
Вот давай заменить крестьянскую жизнь
На раскошную жизнь городскую
Разодену тебя у [illegible] костюм
Покуплю тебе шляпку [illegible]
Вот проходят года а Ванюши все нет
Он нейдет в деревню за Нюрай
Ана ребенка взяла и пошла в белы свет
Ходит Нюра отыскивать Ваню
Научилась она чару горькую пить
Начего и ребенак скончался
Научилась она по балам ходить
И случайно ей Ваня попался
Здравствуй Ванька мой [illegible] дорогой
Без тебя я так долга страдала
Белокудрый подлец покачал галавой
Я тебя веть незнал и не знаю.

*Бацька вёў акуратны дзённік аб праваслаўных святах, аб надвор'і, пачатку вяснавой сяўбы, пакрыцці кароў быком і г.д.*

*Ёсць цікавыя звесткі пра надвор'е. Так запісана, што ў 1928 годзе зіма была неверагодна цёплай, бясснежнай, на сажалках не было лёду. Ад 14 лютага вяскоўцы ўжо хадзілі днём босымі, а ўжо 25 сакавіка сяляне пайшлі ў поле араць, а праз тыдзень сеяць ярыну. Жывёлу выпусцілі на пашу на аселіцу.*

*На пачатку жніўня 1934 г. на вёску абрынулася моцная бура разам з ліўнем. Струмені вады пазалівалі вуліцу, нават скляпы і хлявы, вецер пазрываў саламяныя стрэхі з некалькіх дамоў. Ад маланак загарэліся на хутары хлеў з адрынаю…"*

У нас былі ўрочышчы: ***Заецкія, Цімошкаўня, Тарасаўшчына, Качавінка, Глінішча, За Ройстам, Выжэрыны, Гарбачова, Любоўшчына, Крупава, Рыбацкія, Каляднік, Выган, Клюкава, За пераездам, За масток, Аселіца…***

Пясок-жаўцяк, Кар'ер зрабілі на скрыжаванні. Наша балотца асушылі, торф бралі на ацяпленне. Меліярацыю пры паляках рабілі ўручную. Кожнаму з вёскі даручана было пракапаць ўчастак.

Дарога паміж Беліцай і Лідай была высыпана жвірам, вакол раслі таполі.

А на Ганчары грэбля на галінах і суках. Шарваркі-кожны адбываў - трэба было ўсцілаць камяні і бярвенні.

На краі вёскі жыў Кудла Косця - Альжбецін. Быў такі, зямлі амаль не было, каня не меў. У калёсы запрагаўся сам, насіў камяні на дарогу ў дзярузе. Страшны, абарваны. Курная хата. Другая курная хата была ў Драпячыхі. Бацька ўзяў пазыку, купіў манеж, і малатарню, і арфу. На 40 гадоў расклалі. Падатак трэба было плаціць рэгулярна: страхавыя ўзносы і працэнты.

З распаражэння Прэзідэнта Рэчы Паспалітай абавязковым было страхаванне маёмасці ад пажару, і за страхоўку плацілася розная колькасць грашовых узносаў.

Пасведчанне срахавога поліса, у якім дадзена ацэнка ўсіх пабудоў: "Агульныя ўмовы ўзаемнай

POWSZECHNY ZAKŁAD UBEZPIECZEŃ WZAJEMNYCH

Dział Przymusowych Ubezpieczeń od ognia.

Inspektor Powiatowy w m. Lida

DOWÓD UBEZPIECZENIOWY Nr.

Powiat Lidzki gmina Bielica

Miejscowość ulica Nr.

Właściciel budowli

Budowle, wymienione w niniejszym dowodzie, są ubezpieczone w Powszechnym Zakładzie Ubezpieczeń Wzajemnych od dnia 193

na sumę Zł.

słownie: zł

ze składką roczną Zł. gr.

Poprzedni dowód ubezpieczeniowy, obowiązujący od dnia 193 na sumę zł. na imię ze składką roc[zną] zł. gr. unieważnia się.

| Nr | Wyszczególnienie ubezpieczonych budowli | SUMA oszacowania | SUMA ubezpieczenia w P.Z.U.W. | SKŁADKI zł | SKŁADKI gr. | UWAGI |
|---|---|---|---|---|---|---|
| a | DOM MIESZKALNY | 950 | 980. | | | |
| | GANEK | 30 | | | | |
| b | SIEŃ i KOMORA | 190 | 190. | | | |
| c | SPICHRZ | 190 | 190. | | | |
| d | STODOŁA | 550 | 550. | | | |
| e | SZOPA | 140 | 140. | | | |
| f | OBORA | 410 | 410. | | | |
| | Razem: | 2460 | 2460. | 16. | 48. | |

UWAGA. Właściciel budowli powinien zwrócić szczególną uwagę na następujące przepisy, umieszczone w załączonym wyciągu, a dotyczące jego praw i obowiązków:
1) art. 30 — w jaki sposób może żądać zmiany sumy oszacowania, jeżeli się nie zgadza na podaną w niniejszym dowodzie;
2) art. 33 — o obowiązku zgłoszenia zmian w budowlach;
3) art. 35 — o obowiązkach w razie zajścia szkody w budowli;
4) art. 37 — o szacowaniu każdej szkody według miejscowych cen w chwili pożaru;
5) art. 39 ust. 2 — o przysługującej mu ochronie przed zajęciami, jeżeli oświadczy, że odszkodowanie użyje na odbudowę;
6) art. 39 ust. 3 — o wypłacie odszkodowania w ratach, jeżeli zalega ze składką;
7) art. 45 — o wnoszeniu skarg na decyzję organów Powszechnego Zakładu Ubezpieczeń Wzajemnych;
8) art. 60 — o karach za niezgłoszenie budowli lub zmiany w budowlach.

бяспекі" (страхоўка) ад 1935 года Кудлы Івана з вёскі Дроздава, гміны Беліцкай, павета Лідскага дае падрабязны пералік забудоў і іх ацэначны кошт: дом жылы з ганкам - 980 злотых, сені і камора - 190 злотых, свіран - 190 злотых, стадола - 550 злотых, павець - 140 злотых, абора - 410 злотых. Усяго на 2460 злотых. Страхавыя ўзносы за гэта складалі 16 злотых 48 грошаў (як разабрацца, то і не вялікія).

Падпісаў павятовы інспектар (подпіс чырвоным чарнілам і пячатка).

На пачатку 20-х гадоў аднавіла сваю працу Віленская сельскагаспадарчая доследная станцыя ў Беняконях. Станцыя разам з хімічнай лабараторыяй была заснавана ў 1910 г. Віленскім сельскагаспадарчым таварыствам на 15 га палеткаў, якія падараваў граф Ваўжынец Путкамер. Падчас вайны станцыя страціла жывы інвентар, пабудовы і абсталяванне, а таксама частку селекцыйнага матэрыялу. Часткова захавалася толькі бібліятэка. Аднавіў працу станцыі яе дырэктар В. Ластоўскі з двума асістэнтамі і трыма практыкантамі.

Па ўспамінах бацькі і аднавяскоўцаў "за польскім часам"пры Ганчарскай школе для сялян навакольных вёсак працавалі "Курсы па гаспадарцы ральнічай (сельскай)". Там вывучалі асновы навуковай працы ў земляробстве і жывёлагадоўлі. Навуку выкладалі выкладчыкі з Бердаўскай ральнічай (сельскагаспадарчай) школы і Беняконьскага доследнага ўчастка. За наведванне курсаў і вучобу плацілі невялікія грошы… Па заканчэнні курсаў усе наведвальнікі здавалі залік. Хтосьці там купляў ксёнжкі-падручнікі.



Надпіс на адвароце фотакарткі на польскай мове: ***"1936-37 гг. Школа ў Ганчарах. Памятка з агульнага курса з розных арганізацый і сёл".***

*Таму не ўсё было адмоўна,*
*калі па шчырасці казаць.*
*Было пры Польшчы ўсё грунтоўна,*
*ў тым ліку добра навучаць.*
*Не толькі грамаце вучылі:*
*ну, там лічыць, пісаць, чытаць,*
*Палякі шмат чаго рабілі,*
*каб навучыць лепш працаваць.*
*Хто жыў пры Польшчы адзначалі:*
*закон там добра працаваў.*
*Драмаць улады не давалі -*
*парадак усюды існаваў.*



Пра стан сялянскай навукі і выраб прыстасаванняў для паляпшэння ўмоў працы рольнікаў (земляробаў) на той час, сведчыць захаваны ў бацькі **"Цэннік 1933 года агародных прыладаў і інструментаў В. Гарнушэўскага ў Варшаве"**, які па рысунках добра знаёміць з апісаннем прыладаў працы .

Тут і рыдлёўкі, граблі, матыкі, цяпкі двухбаковыя, ножыкі садовыя, шуфелькі, сахары і габлі для бульбы, ухваты для зняцця яблыкаў, ручныя культыватары і сеялкі, апырсквальнікі, конныя плугі, касілкі і жняяркі. Гэта няпоўны пералік, бо з дзясятак старонак вырвана…

У цэнніку падрабязна апісваецца і цана і спосаб прымянення і дастаўка па ўсёй Польшы. Гаспадар прадпрыемства па вырабе прылад В. Гарнушэўскі меў больш за дзясятак медалёў з еўрапейскіх выставаў і кірмашоў.

Даволі цікава, разглядваючы рысункі прыладаў сялянскай працы ўжо ў 1933 годзе, яшчэ цяпер здзіўляешся, што пасля вайны і я помню, што ў пяцідзесятых гадах ў сялян іх не было, а сякія-такія прылады выраблялі мясцовыя кавалі. Па другое - цяпер у нашых гаспадарчых крамах шырокі набор агародных прылад, дакладна ўзятых з таго польскага цэнніка.


W. GARNUSZEWSKI WARSZAWA 7

**Motyki**

**do okopywania ziemniaków i buraków** (specjalne)

850 855 870—875

**850** **motyka trójzębna, duża,** do ziemniaków, o wymiarach 16×12 cm., wykonana z grubej blachy stalowej; tulejka do obsady długa, zęby płaskie. **Zł. 3.–**

**855** jak poprzednia, tylko nieco mniejsza, o krótszej tulejce i wymiarach 15×13 cm. **Zł. 2.50**

**870** **kształtu sercowatego,** do ziemniaków, stalowa, o wymiarach 13×11½ cm. **Zł. 2.25**

**875** jak poprzednia, tylko większa o wymiarach 13×14 cm. **Zł. 2.50**

**880** jak poprzednia, tylko żelazna, kuta. **Zł. 3.20**

890 900 910—915

**890** **szeroka, płaska,** do buraków pastewnych i cukrowych, wykonana z jednego kawałka, grubej blachy stalowej z t. zw. łabędzią szyjką; szerokość 16 cm. **Zł. 3.50**

**900** **wysoka, płaska,** do buraków pastewnych i cukrowych, wykonana z jednego kawałka, grubej blachy stalowej z t. zw. łabędzią szyjką; szerokość 13 cm. **Zł. 3.20**

**910** jak poprzednia, tylko nieco niższa; szerok. 13 cm. **Zł. 3.20**

**915** „ „ „ „ większa; „ 15 „ „ 3.50

**Motyki ogrodowe**

930—935 960—965 980

**930** **motyka ogrodowa** z blachy stalowej, o ostrzu prostem, wysok. 13 cm, szerok. 11½ cm. **Zł. 2.50**

**935** jak poprzednia, tylko szersza, o wymiarach 13×14 cm. **Zł. 3.–**

Добрым навуковым дапаможнікам у вядзенні гаспадаркі былі *"ксёнжкі з бібліятэкі гаспадарчай выдавецтва Віленскай ізбы рольнічай"*.

Такая брашура 1937 года захавалася (хоць памятай, але яшчэ добра чытабельнай) **"Зімовае кармленне дойных кароў",** напісанае Уладзіславам Апацкім. Тут даволі падрабязна апісваецца будова страўніка са схемай аддзелаў і іх функцыямі. Далей грунтоўна тлумачыцца "вартасць кармавых пастаў", у якіх па нормах утрымліваюцца спажыўныя рэчывы: бялок, крухмал, цукар, соль…


BIBLIOTEKA GOSPODARZA Nr. 10

WYDAWNICTWO WILEŃSKIEJ IZBY ROLNICZEJ

**ZIMOWE ŻYWIENIE KRÓW DOJNYCH**

NAKŁAD DRUGI UZUPEŁNIONY

NAPISAŁ
WŁADYSŁAW OPACKI

WILNO 1937

Zakłady Graficzne „Znicz" w Wilnie, Biskupa Bandurskiego


— 5 —



**Schematyczny rysunek żołądka krowy.**

**A**— żwacz, **B** — czepiec, **C** — księgi, **D** — trawieniec, **E** — przełyk.

Linia punktowana i strzałki wskazują drogę krążenia pokarmu w żołądku krowy: najpierw ośliniony pokarm trafia do żwacza (A), ze żwacza przechodzi do czepca (B), skąd częściowo powraca do pyska i zostaje przeżuty (żujka), następnie, pomijając żwacz, idzie do ksiąg (C), z ksiąg do trawieńca (D) i dalej do kiszek.

Увага надаецца некаторым кармам. Апісваецца салома, мякіна, сена з сырадэлі, з канюшыны, іх якасць

і патрэбнасць для жвачных жывёл. Асаблівая ўвага надаецца карняплодам, іх колькасці ў сутачным рацыёне для каровы: бульба, буракі, морква і бручка… Безумоўна, для высокіх надояў для каровы ў зімовы перыяд патрабуецца і сумесь мукі з зерня ячменю, аўсу, пшаніцы, салодкага лубіну, зерня стручковых…Абавязкова ў рацыёне патрабуюцца мінеральныя дабаўкі: соль, кармавы мел, рыбная мука…

Усё не апішаш, але дасканала вядома, што такая навука вясковым гаспадарам вельмі спрыяла граматнаму догляду кароў і атрыманню высокіх надояў. Гэта і цяпер актуальна.




***Ігнат Дварчанін***
*(родны дзяцька Місарэвіча Колі - мужа маёй дваюраднай сястры - Соні Белавус.)*

**Дзялілі сенакос**

Аж грыміць сяло ад крыку,
гэта дзеляць сенакос.
Вось сабраўся сход вялікі!
Дай і я ваткну свой нос.
Падыходжу і чую сварку,
усё мацнеюць галасы.
Гэта Ясь грызецца з Маркам,
вось паскусваюць насы.
"Каб цябе ўзяла вяроўка!
Што ты сам яго з'ясі?
Адзін конік і кароўка,
Дык каму ж ты аддасі?"
"Я за сена куплю хлеба.
І ў цябе буду купляць.
Спекулянтам ты быць хочаш?
Спекулянт, брат, не кулак"!
(Ясь дык Марку быў сваяк).
Вось забрала і Вінцэся,
ён камечыць кулакі.
Ну й была і з іх пацеха,
падырвалі іх бакі.
З кулакамі лезе к носу,
што ні слова, дык і маць.
Ужо не трэба сенакосу,
давай рэбры паламаць.
Што там стала, не да смеху,
у бой палезла паўсяла.
Як заехаў Ясь, дык Марку,
аж чырвона пацякла.
А Сцяпан ды зараз Ясю
размахнуўшы, ды бабах!
Гэтак сама нос расквасіў,
сам дастаўшы па зубах.
А я са сходу драла-ходу.
Не хачу я малака.
Лепш ні мёду, ні смуроду,
ні па носе кулака.

Пазняк Юзаф, сусед маіх родзічаў,быў знатным працаўніком: часта ад раніцы да цёмнага вечара працаваў на полі. Там і араў, баранаваў, і сам сявенкаю сеяў збажыну. З гэтым канём яшчэ ў зімовы час патрабавалі працаваць у Лідзе на шараварцы па перавозцы дроў.




З тых даўніх часоў захаваліся бацькоўскія прылады сельскагаспадарчай працы. Гэта будуць экспанаты ў "Музей старадаўняй рарытэтнай сельскагаспадарчай тэхнікі і сялянскіх прыладаў працы".



Жалі збажыну сярпамі, малацілі цэпам, сеялі сявенкай, прасявалі сямяна-рэшатам, насыпалі шуфлямі. Лён пасля адлежвання церлі на церніцы, трапалі траплом на трапашцы. Косы і граблі і да сённяшняга дня сенакосныя прылады.

На нізкім узроўні знаходзілася медыцынская дапамога. Большасць працоўных не магла атрымаць своечасова медыцынскую дапамогу, бо не мела грошай на аплату доктара, на знаходжанне ў шпіталі, хаця ў Лідзе ў 1938 г. былі дзве невялікія бальніцы: дзяржаўная на 85 і прыватная на 18 шпітальных ложкаў.

**Тата Ваня** расказаў, як пайшоў у вечнасць бацька:

*"Цяжкія гады бежанства, вайна, беспрасветная праца на гаспадарцы "за польскім часам" падарвалі здароўе майго бацькі. Прастыўшы на палявых работах, цяжка захварэў, асаблівых лекаў тады не было - так і заснуў на печцы-ляжанцы … Быў 1934 год - яму не было яшчэ і шасцідзесяці годоў…*

*Як адметнага прыхаджаніна адпявалі ў Ганчарскай царкве і тут жа на пагосце, каля царквы пахавалі. Помнік з граніту вырабіў канюшанскі майстар".*



***Унукі - Грос Ваня, Кудла Віця - каля помніка Івана Зыдаравіча***

Праз год - 12 траўня 1935 года - памёр Юзаф Пілсудскі ва ўзросце 68 гадоў ад раку, яго цела пахавалі ў Кракаве. Забальзамаванае сэрца ў крышталёвай урне, зробленай на шклозаводзе ў Бярозаўцы, павёз жалобны цягнік па шляху да Вільні. Вечарам у нядзелю - 31 траўня 1936 года - цягнік падышоў на перон Лідскага вакзала. Быў цёплы вясенні вечар.

Бацька Ваня з некалькімі вяскоўцамі раніцай прыехалі падводаю на рынак і ўжо пад вечар пайшлі на вакзал. На пероне сабралася мноства гараджан і жыхароў навакольных вёсак, вайскоўцаў, школьнікаў. Прайшла жалобная ўрачыстасць, адзванілі званы касцёлаў, у небе прагрымеў салют. У Вільні на могілках Росы сэрца Пілсудскага пахавалі каля маці пад магільнай гранітнай плітой з надпісам: "Маці і сэрца сына".

**Кучынскі Віктар**: *"Нельга сказаць, што пры панскай Польшчы людзі паміралі з голаду ці навалам надзявалі жабрацкія торбы. Ганчароўцы і сяляне суседніх вёсак, хаця жылі даволі бедна, але хто не ленаваўся, неяк зводзіў канцы з канцамі. Але гэты паўсядзённы мужыцкі груз паднявольнай працы ператвараў жывога чалавека ў цяглавую жывёліну. Таму што выйсця з гэтага зачараванага кола не было. Малыя надзелы зямлі не давалі магчымасці назбіраць багацця. Яны давалі толькі адзін сродак - пракарміцца сям'і і то толькі пры ўмове неймавернай працы. У першую чаргу накармі жывёлу, таму што яна пасля зямліцы - аснова гаспадаркі, назапась для яе на зіму корму, у час пасей, пажні, абмалацi, калі хочаш мець больш сена, ідзі да пана касі за трэцюю капу, калі хочаш назапасіць крыху больш хлеба, ідзі да яго жаць. І тваімі памочнікамі з'яўляюцца толькі натруджаныя рукі і змылены конь.*

*Былі і цяжкія дні, калі мужчыны на таку малацілі снапы цапамі. Потым зерне прапускалі праз арфу, якую даволі цяжка круцілі ўдвух мужчыны. Правеяннае зерне ссыпалася ў мяшкі і адвозілася ў свіран.*

*Бабы ткалі палатно да поздняй ночы, таму што трэба было і апранаць сям'ю. І ў цмяных вокнах дзе гарэла лямпа, а дзе дыміла лучына".*

**Тата Ваня:** *"Яшчэ ў Расіі цёця Соня захварэла на сухоты (туберкулёз), пасля настаўніцтва ўсё ж такі працавала на гаспадарцы. Позняй восенню 1937 года, падчас працы на полі пры капанні бульбы, ёй стала дрэнна. Збегліся суседкі, улажылі на картафлянік, налілі папіць малака. Але так пры баразне і памерла. Было ёй толькі 45 год. Пахавалі на старых Беняўскіх магілках".*

**Грос Тамара:** *"Я жыла ў Дроздаве, у маёй бабулі Алесі, хадзіла ў Ганчарскую паўшэхную школу. Пасля адыходу ў вечнасць Івана Зыдаравіча - дзядулі, а потым і цёткі Соні, на дзядзю Ваню лёг увесь клопат вядзення гаспадаркі. І ўжо пад 30 год ён ніяк не мог ажаніцца.*

*Да Ніны Кудлы (Юстынавай) падхожваў Валодзя Белавус - Веркі брат, калі прыязджаў з Праважы. Але яна была закахана з маладосці ў дзядзю Ваню. Чаму не пажаніліся, не ведаю - можа яе бацькі ці браты мелі злосць, бо былі асуджаны за крадзёж Зыдаравых снапоў з поля".*

Па расказах нашай радні, як за "польскім часам"праходзілі вяселлі. Вяселле часцей за ўсё гулялі зімой, калі ў гаспадарцы было менш працы і абавязкова не ў пост. Перш чым згуляць вяселле, неабходна было, часцей за ўсё ў суботу, да нявесты паслаць ад жаніха сватоў. Загадзя жаніхі выбіралі сабе нявест, як правіла, са шчаснай, паважанай сям'і, каб нявеста была добрай гаспадыняй, ды і, вядома, прыгажуняй.

Кур'ян Жэня (дваюрадны брат таты) з Мыто пазнаёміўся і жаніўся з Аняй Ляпеша з-пад Забалаці.

Тата Ваня быў дружбантам, а дружкаю сястра Жэні - Надзя. А ад Ляпешаў на вяселлі былі Белавусы: Валодзя і Дмітрый. Ды так весела і шчасліва адгулялі некалькі дзён, што прадоўжылі спатканні: бывалі на фэсце ў Сабакінцах, на рыначным кірмашы ў Забалаці. Белавус Дмітрый пасватаўся да Надзі Кур'ян, і маладыя з'ездзілі ў царкву ў Сабакінцы на фурманках з шаластунамі. Павянчаліся, прыехалі з царквы, у дзвярах хаты іх абсыпалі збожжам-жытам у знак таго, каб жылі багата, бо хлеб лічыцца знакам Божай ласкі, сытасці, здароўя, а значыць і шчасця. Увайшлі ў хату - новы абрад таксама самага старажытнага паходжання. Малады і маладая цалуюць спачатку ікону-абраз, потым і маці Еўку….

Пра вяселле таты Вані і мамы Веры ўспамінаю з іхніх расказаў.

Пасля таго, як згулялі вяселлі сваіх родзічаў Белавусаў і Кур'яноў, тата і мама добра пазнаёміліся і здружыліся. Па некалькі разоў сустракаліся на фэстах і ў святочныя дні гасцілі.

Мая матуля Вера 1920 г.н.была малодшай сярод трох братоў і трох сясцёр у вялікай і заможнай гаспадарцы бабкі Еўкі, што на хутары Праважа, які недалёка ад Забалаці. Яе бацька Іван Белавус родам з-пад Дзятлава з вёскі Накрышкі, адпрацаваўшы эканомам у Адэсе ў Баранцовых, зарабіў грошай, вярнуўся, захварэў і памёр, маючы толькі 54 гады, а дочаньцы Верцы было толькі 5 годзікаў…



***Белавус Ева з сынам Сцяпанам і дочкамі Надзяй і Верай***

Вяселле згулялі зімой, у запускі апошняга тыдня мясаеду перад вялікім постам. Тату ўжо споўніцца вясною 30 гадоў, а маме было 17 з паловаю.

Перш чым згуляць вяселле, спачатку да нявесты Веркі на хутар Праважу паехалі тата Ваня са сватам Кур'янам Жэням. Белавус Еўка ветліва сустракала гасцей, накрывала стол добрай закуссю. Сват ставіў на стол бутэлечку самагонкі, і пачыналася гутарка. Маці нявесты Еўка ўжо ведала, што сабой уяўляе жаніх Ваня, і якая ў Кудлаў гаспадарка ў Дроздаве. Калі ж згода была, тут жа прайшла размова пра вяселле і пасаг нявесце.

Пасля сватаўства ў Дроздава - радзіму жаніха, прыязджалі браты нявесты: Валодзя, Дзмітрый і Сцяпан на агледзіны гаспадаркі і дамаўляліся пра вяселле.

Падрыхтоўка да вяселля ў доме нявесты прайшла поўным ходам. Прыбіралася хата, падворак, сталы накрывалі смачнымі стравамі. Дружкі прыбіралі нявесту, спявалі песні, чакалі жаніха.

Тата Ваня загадзя сабраў дружыну маладых дружбантаў з блізкіх сваякоў: Буйніцкі Леўчык, Хрышчановічы Міша і Веня, Мулінскі Арсеня, Будрэвіч Пеця і хтосьці з аднавяскоўцаў. Надзелі паўкажушкі ці буркі, і сёй -той быў у паліце з крамы. У хаце за сталом прыселі запрошаныя, а на покуці - маці Алеся. Паставілі на стол закускі з хлебам-соллю і гарэлкай. Дружбант стаяў каля жаніха з запаленымі свечкамі наліваючы ў чаркі, тройчы частавалі кожнага і з дружынай выйшлі на падворак, дзе ўжо стаяў запрэжаны картэдж.

З самай раніцы коней з "шаластунамі" запраглі ў саначкі, упрыгожаныя рознакаляровымі стужкамі, і пасадзілі музыкантаў. Маці жаніха тры разы абходзіла картэдж дружыны, жагналася, абсыпаючы жытам. На саначкі першым садзіўся жаніх Ваня, побач з ім садзілася родная сястра Вольга, сюды ж клалі і каравай. На другія санкі рассаджваліся дружкі, сваякі і ганаровы поезд стрымгалоў імчаўся да маладой.

Зіма была снежная і марозная. Дарога праз Канюшаны, Фалькавічы, Бабры і Тарнова. Заехалі ў Мыто да Кур'яноў. Пагрэліся, перакусілі, падкармілі коней. І ў першай запрэжцы паехаў сват Кур'ян Яўген з музыкамі, у другой - жаніх тата Ваня з першым дружбантам - Сярожам Германовічам, затым - усе астатнія дружбанты. Усёй дарогі ад Дроздава праз Ваверку, Місявічы больш за семдзесят вёрст да хутара Праважа, і паездка заняла палову дня.

Калі на праважской вуліцы паказваецца картэдж жаніха з музыкамі, вяскоўцы - хутаране закрывалі вароты, паставілі з боку вуліцы стол, гандляваліся аб выкупе нявесты. Пасля гандлю сват ставіць на стол "выкуп": гарэлку, закуску. Адкрываюць вароты, і малады са сваёй світай апынуліся ў хаце Белавусаў.

Родныя браты і сёстры нявесты гасцей сустрэлі з хлебам і соллю, дабраславілі маладых. Дружбантаў пасадзілі за стол насупраць дружак, і яны прышпілілі кветкі. Выпіўшы трохі гарэлкі і закусіўшы сабраліся на вянчанне і адправілся браць шлюб у царкву ў Сабакінцы па гасцінцы праз Забалаць, Хадзілоні, больш за 20 вёрст.

Спачатку зайшлі на магілкі бацькі Веры - Белавус Вані і дзеда Грэбеня Івана, пакланіліся, згаварылі пацеры.

У царкве 20 лютага 1938 года прайшло вянчанне, асвяцілі абраз.

І пасля шлюбу жаніх нявесту саджае ў свае





саначкі, і ўвесь вясельны картэдж вяртаецца на хутар Праважу. Нявеста на падвораку свайго дома частуе дзяцей і ўсіх прысутных цукеркамі-падушачкамі.

Вяселле ў Белавусаў гулялі два дні - суботу і нядзелю. Елі, пілі (але тады гарэлкі пілі мала), было шмат шуму, гумару, песень і, вядома, музыкі і танцаў. Пасля кожнай чаркі крычалі "горка" маладым, яны ўставалі і цалаваліся…

Вяселле ад пачатку да канца вёў сват Кур'ян Яўген і сванька - сястра мамы Надзя (ужо была за Куляшом). Яны спрытна кіравалі вясельнікамі, жартавалі. На другі дзень вяселля сваякі адорвалі маладых рознымі падарункамі і грашыма.

Зноў па дальняй, па снежнай дарозе вясельны картэдж за гадзіны тры дабраўся да Дроздава. Тут сустракалі радня, сваякі і вяскоўцы.

З маладымі і дружынай да Дроздава прыехалі блізкая радня нявесты, прывезлі пасаг: поўны куфар разнастайнага дабра, падушкі, пасцель, коўдры, калаўротак, бязмен і швейную машыну "Зінгер"... Ужо потым, да вясны браты прывезлі пару вулляў пчол, дзясятак курэй, пару авечак і маладую цялушку.

Мама Вера адорвала бабулю Алесю, цёцю Вольгу і блізкую радню жаніха падарункамі, якія змагла сама зрабіць.

Маму Веру падвялі да студні. Маладая павінна была дастаць са студні два вядры вады і не разліўшы на каромысле прынесці да хаты. На зрубе студні маладая пакідала піражок, а да жураўля прывязвала ручнік, уласнага вырабу. Ваджэнне маладой да студні азначала далучэнне яе да адной з жыватворных крыніц роду маладога, а дараванне піражка суседкам - гасцінец за ўступленне да дроздаўскіх жанчын. Прынёсшы ваду ў хату, маладая палівала на рукі ўсім яго родзічам і падавала ім свой ручнік для выцірання. Вада, прынесеная маладой, лічылася цудадзейнай (нібыта вылечвала ад




балячак, давала сілу і бадзёрасць).

Цёця Вольга з Валодзям Гросам абводзілі маладую па ўсіх гаспадарчых будынках хлявах, гумне, свіране, дзе яна вешала чорна-белы пояс.

У зале хаты вяселле было аж на шэсць сталоў. Закусь падрыхтавалі смачную: пірагі, каравай, хлябок, каўбасу, вантрабянку і, нават, патушылі парасё. Пілі, елі, спявалі, танчылі, гулялі таксама два дні.

Вяселле заканчвалася, госці раз'язджаліся, а ў маладых пачыналася новае жыццё, нараджаліся дзеці, а там і - хрэсьбіны.

Нашыя бацькі пражылі сумесна ўсе годы гістарычных падзей - 57 гадоў. У 1988 годзе адсвяткавалі Залаты юбілей, аб чым будзе ў далейшых аповядах.

З часоў вяселля і вянчання таты і мамы захаваліся



***Люстэрка, мужчынскі і жаночы свэтры, шкарпэткі, звязаныя мамай з авечай воўны***

***Маміна футра з каўняром, ручная муфта, боцікі. Татава суконнае паліто, зімовая шапка, рукавіцы і хромавыя боты***

святыя экспанаты для нашых продкаў: абраз маці Божай з сыночкам Ісусам і святы ручнік з вышыўкай кветак маладой мамы.

Мама Вера яшчэ з дзяцінства, апрача працы на агародзе і догляду за каровамі, асвоіла шавецкую працу на машыне "Зінгер", шыла бялізну, вязала свэтры і суконныя шкарпэткі… На калаўротку прала ніткі.

Ад тых вясельных гадоў у зімовыя дні тата і мама хоць рэдка, але адзываліся на святы, у царкву, у госці і зберагглі, захавалі дарагія экспанаты.

***Г. Ліда. 5 ліпеня1939 года - напярэдадні апошнія два месяцы мірнага жыцця…***

Прайшлі летнія вясёлыя канікулы 1939 года, а за тым прыйшлі вялікія перамены …

Збіралі металом на патрэбы абароны дзяржавы, ішоў прызыў у Войска Польскае, па ўсім было бачна: палякі рухаюцца да абароны рубяжоў сваёй краіны.

Цікавы дакумент ад 24 жніўня 1939 года, (дарэчы за тыдзень да нападу войск Германіі) "Довод побрання" на коні, вазы, “пояздуў механічных” і равароў.

Можна з упэўненасцю сцвярждаць, што кіраўніцтва Польшчы ўсё ж ведала пра трывожныя згрупаванні германскіх войскаў на мяжы і таму забірала ў насельніцтва коней і нават равары…

У майго бацькі - Кудлы Яна - забралі кабылу (клячу) на квоту 550 злотых, і яна засталася ў Крупе (Крупаве). “Камісія пабарова” склала гэты "довуд" пад кальку і дала тлумачэнне, як атрымаць выплату ў "касе скарбовай у Лідзе"… Ад кабылы застаўся толькі вось гэты дакумент.

OKRĘG KORPUSU Nr III
Komisja Poborowa Koni Nr 58
ODCINEK 1a
SERIA A №327756

**DOWÓD POBRANIA**
zwierząt pociągowych, wozów, pojazdów mechanicznych i rowerów

Dnia 24 VIII 1939 pobrane zostały w Krupie

| Wyszczególnienie pobranych przedmiotów świadczenia | Kolejny Nr | KWOTA złotych | Dane dotyczące pobranych przedmiotów |
|---|---|---|---|
| klacz nat. ... 941384 | 54 | 550 | Kudło Jan s. Jana; Lida; Bielica; Drozdowo |
| Razem na ogólną kwotę złotych | | 550 | |

Odcinek 1a
**ZLECENIE WYPŁATY**
SERIA A №327756

Na podstawie powyższego dowodu pobrania Kasa Urzędu Skarbowego w Lidzie lub kasa innego urzędu skarbowego, lecz tylko po uprzednim zażądaniu i otrzymaniu kopii niniejszego zlecenia z wymienionej wyżej imiennie kasy, wypłaci właścicielowi wyszczególnionych przedmiotów świadczenia, lub osobie upoważnionej kwotę złotych 550 słownie zł pięćset pięćdziesiąt

**POTWIERDZENIE ODBIORU NALEŻNOŚCI**
Z wyszczególnionej powyżej kwoty otrzymałem:
gotówką zł słownie zł
asygnatami zł słownie zł
ADNOTACJA KASY: zrealizowano
Dnia 19

1-га верасня 1939 года Германія напала на Польшчу - пачалася Другая Сусветная вайна.

**Спіс выкарыстаных матэрыялаў:**

*Я.А. Місарэвіч, М.Д. Каралёў. Дварчанін І.С. Гістарыка-біяграфічны нарыс.*

*І.С. Дварчанін. Францішак Скарына, як культурны дзяч і гуманіст.*

*А. Ф. Сцефановіч, удзельнік нацыянальна-вызваленчага руху ў Заходняй Беларусі.*

*Васіль Струмень. Шляхам барацьбы.*

*Уладзімір Адамушка. Ігнат Дварчанін.*

*(Працяг у наступным нумары.)*

***Юзаф Кардаш***

# Ліда праўдзівая*

Я помнік сёння стаўлю тут са слоў
Тым, што спачылі паміж пліт сівых,
Для маіх продкаў, блізкіх, землякоў
Я ўсё тут напішу, што ведаю пра іх.

Хоць дзікі нападнік з-за польскай мяжы,
Крыжы тут ламаў і падмуркі крушыў,
А вечнасць у Лідзе пад пылам ляжыць,
Лідзейкі струмень між пяскамі не сплыў.

Хай памяць схавае ў тым томе былое
Любоў таго люду да лідскай зямлі,
Не трэба тут высілкаў, працы цяжкое,
Каб гора згадаць, што лідзяне знясли.

Кожны "тутэйшы" па Лідзе сумуе,
Каб вярнуцца і глянуць на слынны град свой,
Кожны згадае і сэрцам адчуе,
Подых грозны гісторыі нашай сівой.

Тут Лідзейка-рака, што віецца паволі,
Поплаў кветак, зімой сцяты холадам лёд,
Тут радасць была, і сум, і няволя,
Што са мной перажыў наш "тутэйшы" народ.

**Ад аўтара**

Калі я бяру ў рукі некалькі старых паштовак з часоў да І Сусветнай вайны, а таксама пару пажоўклых фатаграфій з сямейнага альбома, якія ілюструюць старажытны горад, будзяць яны ўва мне ўспаміны пра бацькоўскі край, у якім правёў 35 гадоў свайго маладога жыцця перад ІІ Сусветнай вайной, у час вайны, а таксама ў цяжкі пасляваенны перыяд.

Я пакінуў Ліду ў 1959 годзе і адведаў яе толькі праз 30 гадоў. І хаця ж набліжаўся да 70 гадоў, але адведваючы колькі разоў радзімы горад, знайходзіў сляды свайго дзяцінства і маладосці. Там перажыў найлепшыя чалавечыя пачуцці, асабістую трагедыю і сваіх сваякоў. Зарадзілі яны думку, каб згадаць і апісаць Ліду з тамтых маіх часоў. Як лідзянін, я адчуваю вялікі сентымент да мілага сэрцу роднага горада і бацькоўскага краю. Хачу паказаць Ліду сапраўднай, ціхай, сціплай, культурнай і гасціннай, але таксама і акупаванай, зняволенай, геройскай, якая змагалася за свабоду і годнасць чалавека.

Сённяшні горад іншы, разбудаваны, засталося ў

---

* *Пераклад Станіслава Судніка з кнігі: Jozaf Kardasz, "Lida prawdziwa", Agiencja Wydawnicza, "Remix", s.c., Olsztyn, 1997 г.*



***Юзаф Нікадзімавіч Кардаш*** *нарадзіўся 29.09.1924 г. У яго бацькоў было чацвёра дзяцей: старэйшы Юзаф, Станіслава 1927 г.н., Мар'ян 1931 г.н., Алёна 1935 г.н..*

*Дзяцінства Іосіфа прайшло на гаспадарцы сваіх бацькоў у невялікай вёсачцы Колышкі што з паўтары вярсты ад горада. Як старэйшаму, даводзілася працаваць і за плугам, і па догляду жывёлы. Як здатнаму да вучобы, бацькі далі яму магчымасць вучыцца ў Лідскай польскай гімназіі. Падчас ваеннага ліхалецця многа перажыў, зведаў цяжкую долю селяніна і пасля вызвалення цвёрда вырашыў вучыцца на настаўніка. Паспяхова здаўшы іспыты Юзаф паступіў у Лідскае педагагічнае вучылішча і закончыў яго ў 1949 годзе. У час вучобы ён ажаніўся. Узяў дзяўчыну са сваёй вёскі - Шот Люцыну. У яго было чацвёра дзяцей: Вальдэмар, Аня, Генадзь і Зося. Трое дзяцей нарадзілася тут, на радзіме, а апошняя, Зося, нарадзілася ўжо ў Польшчы. Пасля педвучылішча адразу быў накіраваны дырэктарам Гярвеніцкай сямігадовай школы, тутака быў і сельскі Савет. Школа размяшчалася на хутары Ільянова ў драўляным будынку былога асадніка. Гэта быў жнівень 1949 года, і Юзаф Нікадзімавіч актыўна ўзяўся за падрыхтоўку будынка і класных пакояў да навучальнага года: адрамантавалі дах, падлогу, печкі, уцяплілі вокны. З дапамогай бацькоў нарыхтавалі дроў на зіму.*

*Сам Юзаф Нікадзімавіч іграў на скрыпцы, меў прыгожы голас, цудоўна выконваў беларускія песні "Зорка Венера", "Бывайце здаровы, жывіце багата", што надта падабалася вяскоўцам…*

*У жніўні 1954 года быў пераведзены працаваць загадчыкам Аўсядаўскай пачатковай школы. Там ён адпрацаваў таксама 5 гадоў, да лета 1959 года.*

*Летам 1959 года Юзаф Нікадзімавіч з сям'ёй выехаў у Польшчу. Там ён паступіў у педагагічны інстытут і пасля заканчэння быў прызначаны дырэктарам школы ў вёсцы Флёрчакі. У гэтай адной школе ён адпрацаваў 25 год і заслужыў вялікую павагу ў вучняў, бацькоў і кіраўніцтва адукацыі гміны, меў шэраг узнагарод за значныя поспехі ў настаўніцкай працы.*

*Усе гады Юзаф Нікадзімавіч актыўна збіраў*




*матэрыял аб Лідчыне, некалькі разоў наведваў родныя мясціны, дзе прайшло дзяцінства, вучоба і вясковае настаўніцтва. Па ўспамінах і матэрыялах у 1997 годзе выйшла яго кніга "Ліда праўдзівая" (“Lida Prawdziwa”), дзе апісаны падзеі вайны і пасляваеннае сялянскае жыццё з трагедыямі і бандытызмам …*

*Юзаф Кардаш па лідскай градацыі адносіўся да трэцяй генерацыі лідскіх краязнаўцаў. Ім яшчэ былі недаступнымі многія факты з гісторыі Ліды, якія вядомыя сёння, таму многае з далёкай гісторыі, пра што піша Ю. Кардаш, грунтуецца на легендах, не заўсёды дакладных, некаторыя гіпотазы таксама выклікаюць сумненне, але з блізкай гісторыі Кардаш падае шмат цікавых і дакладных звестак. Апісвае факты праўдзіва, так, як было: прозвішчы людзей, назвы вёсак і г.д. І таму кніга “Ліда праўдзівая” мае безумоўную краязнаўчую каштоўнасць.*

*З 1984 года, калі выйшаў на пенсію, Юзаф Кардаш пражываў увесь час у горадзе Ольштын (Olsztyn), вуліца Барча (Barcza), 9\22.*

*Юзаф Нікадзімавіч Кардаш, адсвяткаваўшы 91-шы год з дня нараджэння ў коле сваіх родных і сяброў (дарэчы, і мы, былыя вучні Гярвенікскай сямігадовай школы, даслалі яму віншаванне), памёр 13.10.2015 г. Пахаваны на могілках у той жа вёсцы Флёрчакі. Там ужо быў склеп, дзе пахаваны яго дачка Аня і сын Вальдэмар.*

***Паводле Яніны Пятроўны Сняжко**, былой вучаніцы Гярвенікскай школы.*

ім толькі трохі слядоў і помнікаў з маіх дзён. Няхай потым нехта з майго пакалення, нашы дзеці і ўнукі ўбачаць у тых некалькіх малюнках частку таго горада, якім ён быў 50-30 гадоў таму назад, горада, у якім я жыў, выхоўваўся, працаваў і меў стасункі з землякамі.

Дзякую многім лідзянам, якія да канца дзяліліся са мной успамінамі пра родную Ліду, узбагачаючы змест многімі інфармацыямі. Хачу заспакоіць іхнія чаканні, і нават выканаць іхнюю просьбу, каб апісаў родны горад і бацькоўскі край. Дзякуй ім за сімпатыю да родных краёў і за духоўную падтрымку.

Я ўдзячны лідзяніну, док. мед. Рышарду Казубоўскаму з Гданьска і маёй дачцэ Зофіі за тое, што пасля знаёмства з машынапісам дадалі парады, выказаліся пра яго пахвальна, што мабілізавала мяне да рэалізацыі гэтага намеру.

Асабліва сардэчную падзяку хачу выказаць пану праф. док. геб. Адаму Дабраньскаму, які ўлажыў найболей сілаў у апрацоўку ўсяго томіка маіх успамінаў.

Няхай гэтыя ўспаміны часткова ўзбагацяць гісторыю любімага горада і яго ваколіц.

***Юзаф Кардаш.***

## Частка I

# Ліда ў маіх успамінах

## Людзі і часы

Шмат пішуць па загаду ўладароў, часта тыранаў, якія называюць сябе каралямі або багамі, імкнуцца да таго, каб іх хвалілі, шанавалі і памяталі пра іх. Пішуць таксама пра князёў і вялікія роды, пра рыцараў і ўсялякага роду герояў. Я па ўласнай волі хачу напісаць пра простых, мілых, зычлівых, працавітых, тых, хто корміць край хлебам, але такіх нешчаслівых і безабаронных людзей Лідчыны. Не будучы нікому нічога вінаватымі, яны былі ўцягнуты ў вір жудаснай вайны, якая ўсё ламала, нішчыла, змятала з паверхні зямлі, выносячы жудасныя выракі, без сведак, юрыстаў і суддзяў. Былі жудасна тэрарызаваныя гітлераўскімі акупантамі і бальшавіцкімі камуністамі.

Хачу замацаваць успаміны, якія, хоць і смутныя, захаваліся ў маёй памяці, пра маю маладосць і маладосць майго пакалення, праведзеную на прыгожай, як сон, Лідчыне, пра мой родны, любімы горад Ліду, зраўняны з зямлёй у час вайны, пра блізкія вёскі вакол вытокаў рэчкі Лідзейкі, а таксама пра ваколіцы, такія прыгожыя перад вайной, а таксама часткова яшчэ і пасля вайны, а таксама пра суседзяў, знаёмых і сваякоў.

Вайна знішчыла як найменш тры пакаленні. Мала засталося сведкаў тых дзён. Яны рассеяны па ўсім свеце, і нельга, адведваючы родную старонку, сабраць асклепкі ўспамінаў і ўзбагаціць звесткі аб нашых пакаленнях і грамадскасці Лідчыны з адлеглых часоў. Цяжкія гэта былі часы, поўныя трагічных падзей і небяспечнага жыцця. Выбух вайны, наезд бальшавікоў, нямецкая акупацыя,

а пасля яе зноў бальшавіцкая няволя, уціск і абман былі для нашага народа цэлай эпохай, перапоўненай трагічнымі здарэннямі і пакутамі. Прыпамінаецца малітва, папулярная ў часы царскай няволі, якую бабулька шчыра і па-ціхутку, на адзіноце: "Калі раннія ўстаюць зоры..." шаптала да нячулага ў час вайны Бога.

*Божа,Ойча.*
*Твае дзеці слёзы льюць,*
*просячы лепшай долі,*
*Год за годам марна лятуць,*
*а мы ў нядолі, а мы ў няволі.*

Пад савецкім панаваннем у час вайны, а асабліва пасля яе, наш народ насуперак мясцовым і нацыянальным традыцыям, звычаям і рэлігіям мусіў у ганьбе і пагардзе рэалізоўваць жудасную бальшавіцка-сталінскую праграму, прыносячы велізарныя ахвяры.

## Геаграфічнае становішча

Ліда перад II Сусветнай вайной размяшчалася на Віленшчыне, каля 100 км на поўдзень ад Вільні на 53°54' паўночнай геаграфічнай шыраты і 25°20' усходняй геаграфічнай даўгаты. Горад, яго ваколіцы і прытокі ракі Лідзейкі, аточаныя маляўнічымі раўнінамі з вялікай колькасцю лясоў і загайнікаў, а ў іх вясной квітнее чаромуха, летам - каліна, незвычайна прыгожыя і цікавыя. У калінавых загайніках плыве спеў салаўёў і свіст драздоў, якія ўююцца вакол гнёздаў на невысокіх кустах вербалозу. Вакол лугоў і прытокаў гэтай рэчкі цягнецца плоскае ўзвышша. Яно мае выгляд падковы, з захаду абмежаванай лянівай плынню ракі Дзітвы з разлеглымі балотамі, якія цягнуцца аж з-пад мястэчка Радуні. Паўночны пад'ём плоскага ўзвышша, за якім плыве рака Жыжма, найвышэйшы. Яе балоты, багатыя на залежы торфу, служылі пасля вайны крыніцай паліва для вялікай электроўні ў Лідзе. За раўнінным узвышшам з усходняга боку плыве рака Гаўя, якая ўпадае ў блакітны Нёман, які ахоплівае нізіну з паўднёвага боку. Гэтыя рэкі - першая натуральная ахова раўніннага, выгадна размешчанага, плоскага ўзвышша.

Другая натуральная аслона ўзвышша - размешчаныя на адлегласці каля 40 кіламетраў кожны - тры лясныя масівы: з усходу над ракой Беразінай Налібоцкая пушча, плошчай звыш 200 кв. кіламетраў, на захадзе над ракой Котрай Нацкая пушча з прылеглай да яе Гарадзенскай пушчай і на поўначы ў верхнім цячэнні ракі Мерачанкі Рудніцкая пушча.

На поўдні ад вытокаў рэчкі Лідзейкі, на адлегласці 5-6 км пры зліцці гэтай рэчкі і колішняй Каменкі ёсць невялікі вал зямлі, які цягнецца з поўдня на поўнач. На гэтым узвышшы на правым беразе Лідзейкі з чыстай крынічнай і, як лёд, халоднай вадой у адлеглыя часы паўстала паселішча, якое ператварылася ў абарончы град, які сцярог абазначаныя землі з усходу ад масквы, з поўдня ад татараў і з захаду ад крыжацкіх наездаў. З бегам часу паселішча гэтае ператварылася ў вялікі, эканамічна развіты горад.




Ліда - стары горад. Ужо ў канцы XII стагоддзя з'явіліся пра яе згадкі ў кроніках. У 1242 годзе літоўскі князь Міндоўг пабіў татараў пад Лідай. На пачатку XIV стагоддзя вялікі літоўскі князь Гедымін заваяваў і апанаваў старарускія землі Русі Чорнай і частку Русі Кіеўскай. Тады ўласна Ліда ўвайшла ў склад Вялікага Княства Літоўскага. Лежачы на ўзвышшы, якое называецца "Смаленскімі варотамі", праз якія ў гісторыі праходзілі ўсе арміі, маршыраваўшыя па землях Русі, Літвы і Польшчы, Ліда надалей займае важнае ваеннае становішча. У час II Сусветнай вайны была дашчэнту разбомблена, спалена і зруйнавана. Паколькі Ліда ляжыць на скрыжаванні чыгуначных дарог Вільня - Баранавічы - Роўна і Гародня - Маладзечна - Полацк, мае добрыя ўмовы гаспадарчага развіцця, таму адбудавалася і развілася прамыслова. Сёння гэта 100-тысячны горад. Перадваенная Ліда налічвала каля 35 тысяч жыхароў, 85 вуліц і лічылася ціхай, спакойнай і культурнай. Пасля вайны ў Лідзе адбылося шмат зменаў. Загаіліся раны, хаця шрамы пазаставаліся. Адбудаваны цэнтр з трохі іншым размяшчэннем вуліц, а на абшарах узнікла шмат новых паселішчаў.

Ліда толькі на 33 гады малодшая за Маскву і мае незвычайна багатую гісторыю. Стаіць у Лідзе 650-гадовы абарончы замак з часоў вялікага князя літоўскага Гедыміна, адзін з найбольшых на Віленшчыне. Ёсць таксама тры касцёлы, царква, дзейная да вайны яўрэйская сінагога. Перад вайной былі тут дзве гімназіі, гандлёвая школа, мадэльерская рамесная школа і некалькі ўсеагульных школ, два бровары са слынным лідскім півам, два тартакі, вядомая ў Еўропе фабрыка гумовых

вырабаў "Ардаль", слынны сёння ў свеце завод сельскагаспадарчых машын і шмат іншых прамысловых прадпрыемстваў і структур.

## Паходжанне назваў

Назвы з'яўляліся паступова. Паселішча, паўсталае на ўсход ад Ліды адразу за ракой Лідзейкай, атрымала назву Зарэчча, а каля яго другое, дзе і сёння відны зараслі - Расплякі. Участак на пясчаным узгорку атрымаў назву Пескі, а над адыходзячым некалі ад ракі ў заходнім кірунку стругам (канавай) - Стругі. На поўдзень ад Ліды глебы белаватыя, і там знайходзяцца залежы мелу. Там паўсталі такія назвы мясцовасцяў, як Беліца і Белагруда. Калі ў XIV - XV стагоддзях пасля апанавання Літвой частак Чорнай Русі літоўскія князі Вітаўт, Свідрыгайла і Жыгімонт Кейстутавіч сялілі татараў на землях сучаснай Віленшчыны, паблізу Ліды з'явіліся вёскі з назвамі татарскага паходжання, як Сарокі, Гурыны, Юрэвічы, Татарцы, Некрашунцы і інш.

На поўнач ад Ліды, ля вытоку Лідзейкі, яшчэ і сёння на абшары, распрасцёртым на 2 км з усходу на захад і 3 км з поўдня на поўнач, цягнуцца разлеглыя балоты, аточаныя зараслямі і загайнікамі. За тысячы гадоў да таго былі гэта велізарныя разлівы, якія, з часам зарастаючы, ператварыліся ў тарфавіска, што дасягае тэрыторыі, на абшарах якой ляжаць вёскі Верхліда, Споркаўшчына, Цябы, Чэхаўцы, Колышкі і часткова Доўкні. Разлівы тыя з надыходам зімы пакрываліся лёдам. Засяляўшыя гэтыя землі беларуска-рускія плямёны ў даўнія часы замярзанне вод абазначалі словамі: *"Вада ладзея"* або *"Вода ледеет"* (па-сучаснаму "леденеет"), гэта значыць халаднее, стыне, мацнее, цвярдзее, замярзае і становіцца лёдам.

Ад часу першых успамінаў у кроніках пра Ліду слыло восем стагоддзяў. Не вядома, колькі часу існавала Ліда як малое паселішча да згадак пра яе ў кроніках, а таксама, калі рака атрымала сваю назву. Калі прыкінуць, што доўгія праславянскія галосныя, якія як неакцэнтаваныя падлягалі ваганням і пераходзілі ў скарочаныя (W. Bor. P. Kuzn. Ist. gr. rus. jaz. str. 146-156), што падаюць крыніцы полацкіх і смаленскіх грамат з XIV ст., то ў рускай мове слова "ледеет", "ледзеет" гучала "лідеет". Таму, можам сцвярджаць, што назва ракі Лідзейкі ёсць гідронім, які паўстаў у часы існавання славянскага паселішча, а пазней над ім горада Ліды, а апошняя яе назва была "Лідзея", як сёння.

А адкуль паходзіць назва паселішча, пазней града і горада? Што супольнага можа мець слова "верх" з назвай вёскі "Верхліда", якая ляжыць ля самых вытокаў ракі Лідзеі. Элемент "верх" абазначае вяршыню нечага і ёсць словам славянскім. Частка мясцовай вясковай люднасці, якая карыстаецца беларускай мовай, ставячы стог сена, гаворыць: "Завяршыць стог сена"; заканчваючы працу: "Завяршыць работу"; закладваючы ў капцы земляныя плады: "Завяршыць капец"; паехаць конна: "Паехаць вярхом" і да т. п. У тых выразах гаворка ідзе пра тое, што выступае над паверхняй, падымаецца.

Паколькі землі, дзе ляжыць Ліда, у розныя гістарычныя перыяды засялялі славяне, германцы, ліцвіны і балты, то і назвы з'яўляліся, перапляталіся і дубляваліся ў мовах гэтых народаў. Некаторыя крыніцы падаюць, што назва Ліда паходзіць з літоўскай мовы ад слова "lydinaj" ці "высечанае месца ў лесе, узнікшае поле на месцы высечанага лесу" ("парубка"), але чаму назва паселішча мусіла паўстаць з літоўскай, калі гэтую зямлю стагоддзямі засялялі русіны?

Назва Ліда можа паходзіць з мовы готаў. Нямецкія "Lied", "Lidchen", што абазначаюць песню, песеньку маюць набліжанае гучанне да назвы Ліда. А легенда пра Ліду звязвае назву з імем Ліды - дзяўчыны з прыгожым голасам, забранай мясцовым князем у яго двор і разлучанай з любым Янкам. У роспачы і скрусе ўсеўся Янка на беразе ракі і ў скрусе глядзеўся ў люстра вады пакуль не ўбачыў нарэшце ў ім твар сваёй любай. "Ліда", - крыкнуў ён з вялікай радасці, і так паводле легенды назва Ліды паўстала з вялікага кахання. Але легенды нарадзіліся пазней, калі паселішчы і грады ўжо існавалі. Назва Ліда не паходзіць з літоўскага слова "lydimai" - "церабіць", бо гучала б "Lidima" або "Lidimai". Назва Ліда - тапонім, які паходзіць ад існага там узвышша, "верху", "лідо", якое ўзвышалася некалі над разлеглымі зараслямі ў месцы сучаснай Ліды. З усходняга боку вал абцякаў разліў вод з русла ракі Лідзеі, а з поўдня і захаду больш плытка затопленай лагунай і руслам рэчкі Каменкі. На ўзгорку паўстала паселішча, а ў XVIII стагоддзі стаялі там ужо мураваныя кляшторныя пабудовы і мураваны касцёл. Перад II Сусветнай вайной у тым месцы яшчэ стаяла частка будынка кляштара кармелітаў, у якім да вайны размяшчалася павятовае староства і гарадскі заезны дом. На другім баку вуліцы на ўзгорку стаіць Фарны касцёл.



***Ліда. На гэтым узвышшы стаіць фарны касцёл***

Вал вельмі выразна праглядваецца і сёння. Скіраваны на поўнач, за горадам прымае розныя абрысы, утварае плоскае ўзвышша і, лёгка падымаючыся, праходзіць паміж вёскай Гуды, якая ляжыць на заходнім баку, і вёскамі Чэхаўцы і Верхліда з усходняга боку і далей цягнецца на поўнач ў кірунку вёскі Аўсядава, Адтуль паварочваецца на ўсход і перад мясцовасцю Дылева дасягае найвышэйшага пункта, "верха", пазначанага на картах лічбай 207. З яго відна Ліда, як на

далоні, хаця аддзяляе яе адлегласць 8 км. Ад Дылева вал цягнецца ва ўсходнім кірунку паміж вёскамі Цябы з поўдня, Уладзіслававa і Юрэвічы з поўначы, каб як плоскае ўзвышша накіравацца на поўдзень да Ліды. У цэлым у выглядзе падковы атачае вярхоўе разам з вытокамі горні разліў ракі Лідзеі. Ля падножжа найвышэйшага пункта пад'ёму пад паўднёвым схілам з заходняга боку ад вытокаў размясцілася вёска Верхліда.

## Нарыс гісторыі горада Ліды

Малое паселішча, пра якое кронікі згадваюць ужо ў 1180 годзе, заснаванае на ўзвышшы ля збегу ракі Лідзеі і Каменкі, ператварылася з часам ў абарончы град, які пільнаваў заходнія межы старарускай дзяржавы і паўднёвыя землі Вялікага Княства Літоўскага.

Багатая гісторыя Ліды, і таму яна часта ўспаміналася ў гістарычнай літаратуры. У 1251 годзе літоўскі князь Міндоўг далучыў Чорную Русь да Літоўскага княства. У 1316-1341 гг. уладаром Вялікага Княства Літоўскага быў князь Гедымін, і гэта ён у 1323-1328 гг. збудаваў у Лідзе мураваны абаронны замак тыпу "кастэль". У 1384 годзе рыцарскія орды Ордэна падышлі да абароннага замка, атачылі яго і пасля доўгага штурму здабылі. Зімой 1391 года крыжакі зноў атачылі замак, але яго не ўзялі. Ліда была у той час імі спалена. Ужо праз год, г.зн. у 1392 г. ордэнскія рыца-ры зноў атачылі замак, здабыўшы яго ў другі раз. Князь Карыбут з малым гарнізонам ноччу пакінуў замак праз таемны выхад. Орэнскія рыцары здабылі шмат вайско-вага начыння і зброі. Праз два гады заставы крыжакоў зноў напалі на Ліду, але замкавая залога адбіла напад.



***Вялікі князь Гедымін***

Рускія летапісы захавалі звесткі пра нейкага Вайдылу. Падобна, што "быў парабак, нявольны мужык-пекар". Ужо пры Альгердзе стаў пакаёўцам, а потым дзяржаўцам Ліды. Праз два гады пасля смерці бацькі Ягайла ажаніў яго са сваёй роднай сястрой - Марыяй, чым разлаваў кансерватара Кейстута. *"І быў той Вайдыла ў вялікай моцы"*, - піша хранікёр.

У 1396 годзе князь Вітаўт аддаў Лідскую зямлю аднаму з ханаў Залатой Арды - Тахтамышу, і той жыў у Лідзе звыш двух гадоў у доме, які стаяў там, дзе сёння стаіць Фарны касцёл. У першай палове XV стагоддзя замак аблажылі войскі смаленскага князя Юрыя, які прыбыў вызваляць сваю сям'ю, узятую ў няволю князем Віаўтам. Смаленцы замка не здабылі, але спалілі ўвесь горад. У 1410 годзе лідская харугва брала ўдзел у бітве пад Грунвальдам. У 1433 годзе замак быў абложаны войскам Свідрыгайлы, прэтэндэнта на трон Вялікага Княства Літоўскага. Пасля захопу Крыма і няўдалай спробы стварэння незалежнай дзяржавы Гірэяў *"... у 1438 годзе Хаджы Гірэй і яго прыхільнікі мусілі зноў уцякаюць на Літву. Вялікі князь Жыгімонт Кейстутавіч прыняў уцекачоў ласкава, надаў ім у леннае валоданне Ліду, дзе яны на працягу дзесяці гадоў елі літоўскі хлеб і чакалі на шчаслівы лёс"*.



***Хан Тахтамыш***




***Хан Хаджы І Гірэй***

У час паходу Ольбрахта ў 1497 годзе *"намеснік лідскі Станіслаў Кішка прывёў літоўскую падмогу, якая 29-30 кастрычніка дазволіла пасппяхова пераправіцца цераз Прут пад Чарнаўцамі"*.



***Станіслаў Пятровіч Кішка***

Кароль Аляксандр Ягялончык у 1506 годзе пастанавіў склікаць у ліпені сойм у Лідзе, але Ліда знайходзілася ў небяспецы з нагоды наезду крымскіх татар. *"Літоўскія ваяры паблізу Ліды нагналі рыскаўшых татар... і за ласку Божую пабілі, трохі жывых злавілі, а іншым галовы паадсякаўшы ў торбы паўкладалі"*. *"У красавіку 1663 года вярнуўся з няволі Вінцэнт Гансеўскі, выменены на пяць маскоўскіх ваяводаў. Край прывітаў яго радасна, асабліва Літва слала яму кветкі пад ногі. 29 кастрычніка Гансеўскі загінуў, замардаваны ў Астрыне каля Ліды ўласнымі жаўнерамі, канфедэ-*



***Вялікі князь і кароль Аляксандр***

*ратамі з літоўскага аддзела Святога саюза".* Крыніцы падаюць, што ў 1590 г., а можа, толькі ў 1611 г. Ліда атрымала Магдэбургскае права і сучасны герб - гэта з'яднанне льва і цмока на чырвоным фоне, а таксама два скрыжаваныя ключы на блакітным фоне.

У 1654 - 1667 гг. ішла польска-маскоўская вайна. Ліда была акружана 30-тысячнай арміяй Мікіты Хаванскага, царскага ваяводы. У 1659 годзе пераходзіла з рук у рукі, горад быў апустошаны і абрабаваны казакамі. Пасля працяглай аблогі і артылерыйскага абстрэлу замак узялі. Усе драўляныя пабудовы згарэлі.

У 1701 годзе Ліда дасталася шведскім войскам. Жыхары мусілі ўтрымоўваць чужы гарнізон. У 1706 - 1708 гадах шведы дашчэнту разрабавалі горад, а ў 1710 годзе разбурылі замак, узарваўшы вежы. У 1794 годзе паўстанцы Тадэвуша Касцюшкі, меўшыя 18 гармат, у замку вялі бітву з царскімі войскамі.



***Даўні выгляд замка Гедыміна***

Напалеонаўская вайна 1812 года таксама спрычынілася да абрабавання насельніцтва і знішчэння горада. У апошнюю чвэрць XVIII стагоддзя Ліда налічвала звыш 1500 жыхароў, у той час як пасля напалеонаўскага паходу засталася толькі палова. Ліда ў XIX стагоддзі два разы гарэла. 7 кастрычніка 1891 года ў цэнтральнай частцы горада агонь паглынуў каля 400 дамоў, а таксама ратушу.

Пры Расійскай імперыі гербам Лідскага павета зрабілі сноп збожжа з ляжачым на ім сярпом. Поўны герб: у верхняй частцы тарчы герб Віленскай губерні "Пагоня", а ў ніжняй частцы ўласна сноп з ляжачым на ім сярпом.



***Ліда перад I Сусветнай вайной, вул. Віленская***



***Ліда перад I Сусветнай вайной***




***Ліда пад нямецкай акупацыяй у I Сусветную вайну, вул. Віленская***

У час войнаў праз Ліду праходзілі вялікія арміі на ўсход і на захад, бо ляжыць яна на трасе ад "Смаленскіх варот". У сакавіку 1919 года ішла праз Ліду польская армія на Вільню, каб вызваліць яе ад бальшавікоў. *"Вырашыў выбраць наступ на Ліду. Пад Лідай я меў Сувальскі полк пяхоты і галасістыя пятнаццаткі" (Ю. Пілсудскі).* А так успамінае падафіцэр Сувальскага палка пяхоты: *"У час адступлення з-пад Кіева пасля цяжкіх баёў (...) пасля бітвы пад Крывавым Борам, бальшавікі, уцякаючы, прарываліся на ўсход да Ліды, якую абаранялі польскія 19 дывізія пяхоты і 41 Сувальскі полк пяхоты. Батальён, які абараняў казармы ў Лідзе, высунуўся ў паўднёва-заходнім кірунку на Астроўлю, Навінку і Бароўку. З-пад Гародні адступалі тры бальшавіцкія дывізіі. Адна з іх напірала на батальён, высунуты для абароны казармаў, які налічваў 300 чалавек. Батальён, адбіваючы шторазовыя атакі бальшавікоў, мусіў адступіць аж за чыгуначную каляю Ліда - Маладзечна, а пасля наступных некалькіразовых атак цэлай бальшавіцкай дывізіі - аж да рэзні".* 28 верасня 1920 года адна бальшавіцкая дывізія 3-й арміі была пад Лідай разбіта і ўзята ў палон. Несла яна з сабой зрабаваную *"цэлую Гародню":* рулоны сукна, тэкстыльныя матэрыі, загаркі, біжутэрыю, каштоўныя прадметы мастацтва, фаянс, срэбныя нажы, лыжкі, відэльцы і іншыя каштоўныя рэчы. Расцярушаная жменька другой дывізіі ўцякла ў кірунку Баранавіч, трэцяя - на Жырмуны, якая *"(...) панесла сур'ёзнае паражэнне і страціла значную колькасць палонных і артылерыі".*



***Польскія войскі ў Лідзе***

*"У Лідзе Падарэўскі падаў дыпламатычную намінацыю Юзафу Пілсудскаму, а 19 лістапада 1921 года Юзаф Пілсудскі ў замку Гедыміна выступіў з прамовай. Назва "Ліда" выбіта на адной з 18 пліт каля магілы невядомага жаўнера ў Варшаве сярод назваў: "Львоў", "Вільня", "Дынабург", "Кіеў", "Барадзянка"..."*

## Дзе твая айчына?

*Дзе твая айчына? Там, дзе стаіш.*
*(Ёган Гердар)*

Яшчэ раз вярнуся да татараў. Ахвотна асаджаў іх адзін з сыноў Гедыміна Кейстут, князь Троцкі (княжыў ад 1345 года), будучы абаронцам язычаскіх традыцый Літвы. Яго сын Вітаўт далей развіў татарскае асадніцтва. Яшчэ да гэтага часу ў ваколіцах Ліды жывуць нашчадкі ротмістра са старога татарскага роду, казацкага атамана і венгерскіх войскаў Стэфана Баторыя. Ёсць вёскі, у якіх да сёння жывуць па некалькі сямей татарскага паходжання, а ў адной з іх большасць складаюць нашчадкі татараў, пра што сведчаць акрамя прозвішчаў захаваныя іхнія прыдомкі, як Каля, Лапшун, Дабэй, Шорла, Багма і да т.п. Аблічча гэтых людзей, звычаі, суседскія сувязі і сямейнае супрацоўніцтва, густы, сужыцце, вернасць, пераемнасць, а таксама этымалогія і гучанне прозвішчаў выразна пацвярджаюць іхняе народнае паходжанне. Гэта шаноўныя, працавітыя, высакародныя людзі, добрыя суседзі, грамадзяне і вялікія патрыёты ад ягелонскіх часоў аж да вяртання незалежнасці Рэчы Паспалітай.

Войны рассяваюць народы па свеце. Пасля першай Сусветнай вайны вакол Ліды асела шмат вайсковых асаднікаў. На адлегласці 3 км ад горада, у малой вёсцы Колышкі знайшлося іх аж дзевяць, і паходзілі пераважна з цэнтральнай Польшчы. Пасля другой Сусветнай вайны шмат палякаў пасялілася ў Францыі, Англіі, ЗША, Канадзе, Аўстраліі і ў іншых краінах свету.

Перад II Сусветнай вайной у Лідзе амаль 80% складалі палякі, а пасля іх выступалі ў асноўным габрэі. Ацэначна сёння ў Лідзе (1997 г.) жывуць каля 25 тысяч палякаў, а рэшта - гэта пераважна наплывовыя грамадзяне розных нацыянальнасцяў з тэрыторыі былога СССР, якім бальшавізм ствараў выгадныя ўмовы рассялення, аддаючы ў карыстанне добрае і выгаднае жыллё. Такіх шанцаў не мела прыродная люднасць, якую ў вёсках і ваколіцах Ліды загналі ў калгасы без права пакідання іх і прапіскі ў горадзе. Найлепшым акрэсленнем паходжання наплывовай люднасці горада можа быць верш, у якім слова *"яраслаўскі"* заменена на *"стары лідскі"*, а гучыць ён так:

*Валацугі з усіх бакоў свету ў стары лідскі валяць град,*
*Бусурмане, і армяне, і з-за Волгі люду шмат.*

*(Працяг у наступным нумары.)*




***Надаўчы акт польскаму асадніку на зямлю***




***Старая аптэка ў Лідзе***

# *Найбольш значныя гістарычныя выданні апошняга часу*

У выдавецтве УП "Рыфтур" выйшла кніга “Навагрудчына ў гістарычна-культурнай спадчыне Еўропы (да 600-годдзя Грунвальдскай бітвы)”, 376 ст., наклад 800 асобнікаў.






У Варшаве выдавецтве “Panstwowy Instytut Wydawniczy” выйшла кніга Роберта Яроцкага “Rozmowy z Lorentzem”, 504 ст. Наклад - 15320 асобнікаў.




У Менску ў выдавецтве "Беларуская навука" выйшла кніга Алеся Марціновіча "Гісторыя праз лёсы", Т. 8. 328 ст. Наклад - 500 асобнікаў.




У Варшаве выдавецтве “Panstwowy Instytut Wydawniczy” выйшла кніга Станіслава Лоранца “Album wilenskie”, 240 ст. Наклад - 10315 асобнікаў.




У Варшаве выйшаў зборнік “Rocznik Centrum Studiow Bialoruskich. Гадавік цэнтра беларускіх студыяў. Rok/год 3 № 3”, 376 ст.




У Менску ў выдавецтве Зміцера Коласа выйшла кніга “Homo Historicus, 2022. Гадавік антрапалагічнай гісторыі”, 324 ст. Наклад - 99 асобнікаў.



*Лук'ян Вольга "Хмары над Лідай", змешаная тэхніка, папера, 2013 г.*

*Лук'ян Таццяна "Восеньскае хараство", алей, палатно, 2016 г.*